# ЛіМ ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

27 КАСТРЫЧНІКА 1995 г. № 43 (3815) Кошт 2 500 руб.


## ЦЯЖАР ПРАЎДЫ

***Валянцін ТАРАС: "Калі раней штодзённыя прапагандысцкія заклінанні аб адзінстве партыі, урада і народа былі набіўшай аскому фразай (хоць і гэта ў пэўных момантах не зусім так), то сёння, ва ўсякім разе на беларускім кавалку расколатай глыбы, такое адзінства ўлады — вярхоўнай, вышэйшай — з народам сапраўды існуе. І перш за ўсё адзінства ў невуцтве..."***

**4**

## ...У НЕПРАФЕСІЙНЫХ УМОВАХ МЫ РЫХТАВАЛІ ПРАФЕСІЯНАЛАЎ

***Васіль ШАРАНГОВІЧ: "Падумайце, што застанецца ў нашых музеях ад сённяшняга перыяду? Ці не здарыцца так, што ў будучым мы паедзем глядзець беларускае мастацтва 90-х у Італію, Парыж, Штаты, Германію?"***

**5, 12**

## У НОВЫ СШЫТАК ПАВАГІ Й ЗАХАПЛЕННЯ

***Вершы Рыгора БАРАДУЛІНА.***

**8-9**

## МЕСЯЧНАЯ САНАТА

***Апавяданне Міколы КУСЯНКОВА.***

**9, 14-15**




# VIVAT ACADEMIA!



*Гэты здымак зроблены на адкрыцці юбілейнай выставы прац выкладчыкаў акадэміі. Фотааб'ектыў занатаваў загадчыка кафедры гуманітарных дысцыплін Сяргея ЛАКІШЫКА, народнага мастака Беларусі, прафесара, рэктара БелАМ Васіля ШАРАНГОВІЧА, народнага мастака Беларусі, прафесара Віктара ГРАМЫКУ, народнага паэта Беларусі Ніла ГІЛЕВІЧА.*

# ГОНАР НАЦЫІ

Гэта навучальная ўстанова ўзнікла ў векапомны год Перамогі над фашысцкай нелюддзю. Вялікі сэнс бачыцца ў гэтым гістарычным факце. Яшчэ ўся беларуская зямля — у незалечаных ранах, у руінах і пажарышчах, абсыпаная попелам і сажай; яшчэ мы не будуемся, а толькі расчышчаем пляцоўкі пад будучыя дамы, заводы і фабрыкі, школы і бальніцы; яшчэ сядзім у норах-зямлянках, пры саматробных капцілках і кормімся гнілою бульбай... І — вось Яна, веліч годнасці і творчага духу народа: менавіта ў тыя першыя дні адраджэння жыцця і міру было голасна і ўпэўнена заяўлена: будзем рыхтаваць сваіх артыстаў, будзем думаць і клапаціцца пра духоўны свет Чалавека, пра Хараство і Чалавечнасць, пра вялікую, светлую будучыню Бацькаўшчыны. Будзем набіраць і вучыць артыстычна таленавітых хлопцаў і дзяўчат з апажараных беларускіх вёсак і гарадоў. Бо толькі ў думах-клопатах пра ГЭТА можна глядзець далёка наперад і верыць, што будучыні ў нас ніхто не адбярэ, што праросшыя ў жывой душы зерні Дабрыні і Годнасці не зачахнуць, а імкненне да Праўды і Справядлівасці, да Свабоды і Раўнапраўя не будзе забіта.

З той пары мінула паўстагоддзя. Невялікі і сціплы напачатку тэатральны інстытут даўно разросся жанрава і ператварыўся ў магутную кузню тэатральна-мастацкіх кадраў Беларусі, двойчы памяняўшы дзеля гэтага і сваё імя. Сёння — гэта знакамітая, вядомая далёка ў свеце Беларуская акадэмія мастацтваў. І сёння — яна спраўляе свой першы вялікі і слаўны юбілей. Разам з супрацоўнікамі і студэнтамі Акадэміі святкуем гэтае свята і ўсе мы — усе, хто, як і яе заснавальнікі у 1945, думае і клапоціцца ўсё пра тое ж: пра Чалавека і Чалавечнасць, пра веліч і гонар Радзімы, пра Беларусь адухоўленую, прыгожую, заможную, вольную ў сваіх памкненнях да міру і братэрства, у самасцвярджэнні свайго ўласнага выбару, свайго гістарычнага шляху, свайго адметнага лёсу.

Святкуем — і з пачуццём удзячнасці думаем пра тых, хто працаваў і працуе ў Акадэміі, аддаваў і аддае свае сілы і веды таленавітай моладзі, пра тых, чые творчыя плёны і поспехі прынеслі роднай краіне столькі вядомасці і славы, чые імёны па справядлівасці складаюць гонар нацыі.

Святкуем — і ад усяе душы кажам:
Віват Акадэмія!
Віват бліскучае сузор'е майстроў-настаўнікаў!
Віват заўтрашні дзень беларускага мастацтва!

**Ніл ГІЛЕВІЧ**

# ЛіМ КОЛА ДЗЁН

***Сервантэс прыдумаў некалі добрага і шчырага героя Дон Кіхота, які хацеў стаць рыцарам, каб дапамагаць простым людзям, каб змагацца са злом. Але ўрэшце, выявілася: не па сабе латы апрануў Дон Кіхот, і ўсё, за што б ён ні браўся, што б ні рабіў, выклікала толькі смех і шкадаванне. З літаратурнага Дон Кіхота смяюцца і па сёння. У нашым жа выпадку, чамусьці, смяюцца з Беларусі і беларусаў...***

## НАВІНА ТЫДНЯ

Чуткі пра тое, што Міністэрства культуры і друку будзе падзелена на тры міністэрствы, пацвярджаюцца. Днямі АТН паведаміла, што нібыта ёсць рашэнне аб утварэнні на базе МКіД чатырох самастойных структур: Міністэрства культуры, Дзяржкамітэта па друку, Дзяржкамітэта па турызме і спорце. Дзяржкамітэта па справах рэлігіі. Калі распачнецца перайтварэнне? Пэўна ж, пасля вяртання прэзідэнта з ЗША. Творчая інтэлігенцыя пакуль гадае, хто ж зойме вакантнаму (ці вакантныя) пасаду...

## ВІЗІТ ТЫДНЯ

Прэзідэнт Беларусі наведаў ЗША ў сувязі са святкаваннем 50-годдзя ўтварэння ААН. А.Лукашэнка выступіў з прамовай на юбілейным пасяджэнні Генеральнай Асамблеі ААН, меў гутаркі з лідэрамі многіх дзяржаў свету, сустракаўся з дзелавымі коламі Амерыкі. Памятаецца, калі ЗША наведвалі Шушкевіч, Грыб, а потым і Чыгір, усе яны сустракаліся з прадстаўнікамі беларускай дыяспары. Гэтым разам амерыканскія беларусы самі сустрэлі прэзідэнта адмененымі ім бел-чырвона-белымі сцягамі і лозунгамі з заклікамі вярнуць народу гістарычныя сімвалы, мову і свабоду.

## ПАГРОЗА ТЫДНЯ

Прэзідэнт наш хоча падабацца не толькі жанчынам, але і ветэранам. У выступленні перад імі ён, у сваім стылі, часта адрываўся ад "паперкі" і таму быў празрыста шчырым. Аж да жадання ўвесці прамое прэзідэнцкае кіраванне, бо "адзінае, што стрымлівае Беларусь ад грамадзянскай вайны, гэта прэзідэнт — гарант Канстытуцыі". Якім "гарантам" з'яўляецца прэзідэнт, нядаўна пераканаўча даказаў Канстытуцыйны суд. А "прамое кіраванне" трэба прэзідэнту, каб захаваць уладу, якая нібыта пачала пад ім пагойдвацца, і каб "цывілізаванымі метадамі", як прызнаўся ён, "справіцца з кучкай тых, хто дэстабілізуе абстаноўку ў грамадстве". Мяркуючы па тым, што тав. Замяталін нядаўна пабываў у Іраку, намёткі прэзідэнцкага кіравання ўжо накідваюцца. Перашкодай для ўвядзення яго можа стаць цяпер хіба што новы парламент. Толькі ці зацікаўлена ў яго абранні прэзідэнцкая каманда?..

## ЛІЧБА ТЫДНЯ

935 чалавек вылучана кандыдатамі ў дэпутаты па 141 выбарчай акрузе. Найбольшае прадстаўніцтва маюць ПКБ, БНФ, АГП і СПС. У сваіх "старых" акругах будуць змагацца за месца ў новым парламенце С. Шушкевіч, С. Багданкевіч, С. Антончык, Г. Карпенка, А. Дабравольскі, А. Трусаў і іншыя вядомыя палітыкі. А вось Зянон Пазняк на гэты раз прыняў рашэнне балатавацца ў сельскай акрузе: Смаргонскай.

## ЦЫТАТА ТЫДНЯ

Анатоль МАЙСЕНЯ: "Я з трывогай назіраю за тым, як лёгка страх можа перамагчы людзей, як глыбока ў нашы гены ўеўся гэты страх перад уладай. Хацелася б, усё-такі спадзявацца, што нашыя людзі калі-небудзь зразумеюць, што нам няма кага баяцца, акрамя саміх сябе, і што гэты страх, які пасяліўся ў апошні час у палітычнай атмасферы Беларусі, і ў адносінах да ўлады — не болей, чым фантом. Сітуацыя ў вышэйшай ступені парадаксальная: з аднаго боку, у буйных беларускіх гарадах надзвычай высокі працэнт, калі па савецкіх мерках, высокаадукаваных спецыялістаў, а значыць разумных і цвяроза думаючых людзей, а з другога, абыякавасць, палітычная апатыя, жаданне не высоўвацца. Асабліва вялікія маштабы гэтая абыякавасць прыняла сярод моладзі. Нам трэба нарэшце вярнуцца да ўласнае чалавечае годнасці і зразумець адно: ніхто, акрамя нас, саміх сябе, не будзе выбіраць на дэмакратычных выбарах не зможа выправіць сітуацыю. У нас усё яшчэ застаецца шанц".

*(З інтэрв'ю, надрукаванага ў "Народнай газеце" за 24 кастрычніка г.г. пад назвай "Нас усіх можна назваць магільшчыкамі свайго ўласнага лёсу".)*

## МІГРАНТ ТЫДНЯ

Цэнтральныя газеты перадрукавалі паведамленне пецярбургскага інфармацыйнага агенцтва TDN аб тым, што чуткі пра нядаўнюю прапанову былому старшыні Цэнтральнага банка Расіі, нашаму земляку Віктару Герашчанку ўзначаліць Нацбанк Беларусі, магчыма, маюць пад сабою глебу. Газеты, услед за агенцтвам РІД, гадаюць: зроблена гэтая прапанова афіцыйна альбо не, прыняў яе В.Герашчанка ці пакуль вагаецца? Зразумела, праўда, адно — "купіцца" на яўна часовую пасаду ў правінцыі можа толькі авантурыст альбо прайдзісвет. Барані нас, Божа, і ад таго, і ад другога...

## УГОДКІ ТЫДНЯ

200 гадоў таму, 24 кастрычніка 1795 года, была падпісана канвенцыя аб трэцім падзеле Рэчы Паспалітай і з еўрапейскіх мапаў знікла гэтая дзяржава. Беларусь цалкам увайшла ў склад Расійскай імперыі, каб на доўгія гады (а можа, і па сёння?) стаць "Северно-Западным краем"...

## ЗАГАЛОВАК ТЫДНЯ

"Свабода друку — лепшае застрашэнне для нягоднікаў, славалюбцаў і дэспатаў".

*(Назва артыкула С.БУКЧЫНА ў "Народнай волі" за 24 кастрычніка г.г., паводле слоў французскага журналіста XVIII ст., публіцыста эпохі Вялікай рэвалюцыі К.Дэмулена.)*

## МЕРАПРЫЕМСТВА ТЫДНЯ

20—21 кастрычніка ў Мінску адбыўся "круглы стол" "Беларусь—Расія: стратэгія партнёрства", арганізаваны Нацыянальным цэнтрам стратэгічных ініцыятыў "Усход—Захад". Агляданьнікі цэнтральных газет, што прысутнічалі на "стале", даволі крытычна ацэньваюць яговыя вынікі. Расейскі блок, на іх думку, паказаў сваю непадрыхтаванасць да сур'ёзнай размовы. "Стол" меў хіба адзін "станоўчы" вынік: лідэры кампартый трох славянскіх дзяржаў скарысталі яго, каб сустрэцца і абмеркаваць свае праблемы... Дарэчы, правядзенне іншага "круглага стала", ініцыятыву арганізацыі якога ў А.Майсені перахапіў прэзідэнт, адкладзены на няпэўны тэрмін і да выбараў не адбудзецца дакладна.

## СУРОЧАННЕ ТЫДНЯ

Сёлета беларусы сабралі на мільён тон зерня менш, чым летась: пяць з паловай мільёнаў тон, альбо па 520 кілаграмаў на чалавека. У лепшыя гады Беларусь засыпала ў свае засекі да 9 мільёнаў тон зерня і больш. Кепская ўрадзіла сёлета і бульба. І прыгадваюцца чэрвеньскія выступленні прэзідэнта на партгасактывах пра тое, што "на палях зрэет небывалый урожай..." Курант, кажуць у народзе, лічаць па восені. Палічылі і задумаліся: за што і дзе хлеб купляць будзем?

*З нагоды*

# ЦЯЖКА ВЯРТАЦЦА З НЯБЫТУ

Мне, як і ўсім студэнтам за бальшавіцкім часам, даводзілася вывучаць і здаваць іспыты па навуцы, якая тады называлася ці то "матэрыялістычная дыялектыка", ці то "дыялектычны матэрыялізм". З таго часу памятаю тры асноўныя крыніцы, якія Маркс "пазычыў" для свайго "марксізму" ў папярэднікаў. Адзінства і барацьба супрацьлегласцей, пераход колькасці ў якасць, і адмаўленне адмаўлення. Калі з першымі дзвюма на лекцыях і ў падручніку ўсё было зразумела, дык з трэцяй, сэнс якой у тым, што кожная сістэма рана ці позна спараджае сілы, якія ўступаюць з ёю ў канфлікт, — не надта. У падручніку прыклады прыводзіліся ў асноўным з жывой прыроды, а не з сацыяльнай практыкі. Ды і лектар выказваўся вельмі цьмяна (што можна было ўсумніцца ва універсальнасці гэтага закона), нібыты баяўся, што студэнты запытаюць: "Калі нарэшце сацыялізм, як некалі капіталізм, народзіць свайго магільшчыка?"

Калі б іспыт па той навуцы я здаваў сёння, дык, мабыць, далёка за прыкладамі не хадзіў бы. Вось, скажам, прэзідэнт прызначае міністраў ды "вертыкальных" людзей, асабіста яму адданых, чыя вернасць праверана ў часе выбарчай кампаніі і ў барацьбе з парламентам. А потым заяўляе, што будзе іх "перетрахивать", бо яны сваёй дзейнасцю скажаюць ягоную палітыку. Чым не "адмаўленне адмаўлення"?!

Колькасць такіх міністраў няўхільна расце, з іх ужо можна скласці цэлую палітычную партыю. Прычым больш радыкальную ў дачыненні да прэзідэнта, чым нацыяналісты з БНФ. Бо маюць асабістую крыўду. Найбольш небяспечным для прэзідэнта сярод пакрыўджаных з'яўляецца генерал Ю. Захаранка, які нядаўна быў міністрам унутраных спраў. І справа не толькі ў тым, што міністр можа ў зручны момант абнародаваць кампрамат на блізкае асяроддзе прэзідэнта, альбо нават на яго самога (кажуць, што Захаранка тое-сёе назапасіў на ўсялякі выпадак...). Галоўнае — апальны міністр можа адабраць у прэзідэнта "робінгудаўскі" імідж. Усе сёння ведаюць, што генерал Захаранка не згадзіўся з прэзідэнцкім указам аб скасаванні пэўных ільготаў для служачых у сістэме МУС. На фоне спаду папулярнасці Лукашэнкі (сёння ягоны электарат звузіўся да ветэранскага асяроддзя, няздольнага ў сілу ўзросту адэкватна ацэньваць рэчаіснасць, і занядбанай калгаснай вёскі, асуджанай на паступовае выміранне) з'яўленне новага героя з чамаданамі кампрамату ўяўляе для прэзідэнта сур'ёзную небяспеку. Значна большую, чым Антончык з ягонай антыкарупцыйнай справаздачай Вярхоўнаму Савету. Але нават калі Лукашэнка і здолее нейкім чынам нейтралізаваць Захаранку, на ягонае месца з'явіцца нехта іншы. Занадта многа "праколаў" у апошні час на рахунку прэзідэнта (у дадатак да нявыкананых перадвыбарчых абяцанняў), каб не знайшоўся ахвотнік скарыстаць гэтую сітуацыю. Гэта дыялектыка, праява аднаго з яе асноўных законаў: у нетрах кожнай сістэмы нараджаюцца сілы, якія рана ці позна яе знішчаць.

Больш сур'ёзнае пытанне: што будзе ў бліжэйшы час і ў гістарычнай перспектыве з нашай краінай? Колькі б мы ні спрабавалі давесці міжнароднай супольнасці, што Лукашэнка — гэта адно, а народ наш — другое, усё роўна міжнародная ізаляцыя кіруючага рэжыму аўтаматычна распаўсюджваецца на ўсю краіну. І калі пра нас забудуцца, цяжка зноў будзе даводзіць свету, хто мы ёсць.

**Пётра ВАСІЛЕЎСКІ**

# НА ПЕРАПРАВЕ

У мінулыя чацвер—пятніцу ў Доме літаратараў працаваў XV з'езд Беларускага саюза мастакоў. Нейкай асаблівай падзеяй у культурным жыцці краіны ён не стаў, прайшоў даволі ціха, але некаторыя асаблівасці нашага скрушнага часу ўсё ж адлюстраваў.

Вось вельмі выразны эпізод. У другі дзень работы з'езда, калі меліся адбыцца выбары новага кіраўніцтва, я, ідучы ў Дом літаратара, сустрэў дэлегата з'езда, вядомага мастака, які ішоў адтуль. На маё здзіўленае пытанне, чаму ён не ў зале пасяджэння, чаму ігнаруе такую падзею, ён адказаў: "А чаго я там не бачыў?" І дадаў, што — часу шкада.

Уявіць такое некалькі год назад было б немагчыма. Тады, на мяжы "застою" і "перабудовы", ужо за некалькі месяцаў да з'езда фарміраваліся кааліцыі, прадстаўнікі якіх дамагаліся прыёму ў цэкоўскіх кабінетах, спрабуючы заручыцца падтрымкай улады менавіта для свайго кандыдата на пасаду старшыні саюза. Вялікім гонарам было трапіць у прэзідыум. Усе дакументы загадзя праглядала ідэалагічная цэнзура. У зале цішыня, бо ў прэзідыуме — прадстаўнікі ўлады.

А цяпер — "чаго я там не бачыў?" І сапраўды — чаго? Заказчыкаў і спонсара мой суразмоўца шукае сам, майстэрню здольны аплачваць са сваёй кішэні, вандруючы ў замежжа (Нямеччына, Італія, іншыя багатыя краіны) — таксама. Яму, па вялікім рахунку, той Беларускі саюз мастакоў і непатрэбны.

А сабраліся ў зале з'езда ў асноўным тыя, хто да свабоднага плавання на глыбокай вадзе пакуль не гатовы і мае патрэбу ў падстрахоўцы. Гэта найперш мастакі ветэранскага ўзросту, якія выраслі на гарантаваным дзяржаўным заказе і аплаце твораў, прытым часта не па якасці, а згодна табеля рангаў (выслугі гадоў і наяўнасці ганаровага звання). Яны спрабавалі аднавіць ранейшую арганізацыйную структуру саюза: секцыі па відах мастацтва — праўленне — старшыня. Пазбавіць творчыя суполкі прамога прадстаўніцтва ў кіруючых органах БСМ. Гэтыя людзі хацелі б вярнуць старыя час. Іншыя дэлегаты разумелі, што ўжо нічога не вернецца, што ў бліжэйшы час можа паўстаць пытанне аб маёмасці БСМ. І яны не хацелі б застацца ўбаку, калі маёмасць пачнуць дзяліць.

Пра маёмасць, пра вытворчыя праблемы, пра тарыфныя стаўкі і вымушанае беспрацоўе ў асноўным і ішла гаворка на з'ездзе. Праўда, не абышлося без "канфлікту пакаленняў". Пасля таго, як з'езд пацвердзіў, што ў радзе БСМ прадстаўлены на роўных правах секцыі і творчыя суполкі, абурыліся ветэраны (не мастацтва, а "вайны і працы"). Чаму, маўляў, у кіруючых органах няма спецыяльнага прадстаўніка ад ветэранскай арганізацыі?!

Прагучала прыхаваная пагроза паскардзіцца... прэзідэнту. Узнікла спрэчка. "Гэта творчы саюз, а не сабес, не багадзельня; вы прадстаўлены ў радзе як мастакі, як прафесіяналы, што яшчэ трэба?" Але ўсё ж перамагла дэмагогія: прадстаўнік ветэранаў — у радзе Саюза мастакоў.

Палітызаванымі можна назваць выступленні спадароў Агуновіча і Купавы. Яны закранулі пытанне прафесійнай этыкі. Ці мае мастак права, калі ён сябе лічыць творцам, а не кімсьці іншым, браць удзел у антыкультурніцкіх акцыях, у прапагандзе амаральнага і антыэстэтычнага толькі таму, што за гэта плацяць грошы? У прыватнасці, у прапагандзе нова-БССРаўскай сімволікі. Ад імя суполкі "Пагоня" Мікола Купава зачытаў заяву, дзе гаворка ішла пра антыканстытуцыйнасць "рэферэндуму", пра незаконнасць "паслярэферэндумнай" сімволікі, выказвалася ўпэўненасць у "неўміручасці і жыватворнасці справы нашага нацыянальнага Адраджэння". Як ні дзіўна, але дэлегаты амаль аднагалосна прынялі гэту заяву як афіцыйны дакумент з'езда.

Старшынёю БСМ абраны на трэці тэрмін скульптар Генадзь Буралкін. Дзеля гэтага, праўда, давялося ўнесці папраўку ў Статут БСМ, бо раней займаць пасаду старшыні можна было толькі два тэрміны запар. Коней на пераправе — не мяняюць. А Генадзь Васільевіч цягне воз няблага.

**Пётра ВАСІЛЕЎСКІ**

# ДЛЯ ШКОЛ, ТЭХНІКУМАЎ, ЛІЦЭЯЎ

З 13 па 16 кастрычніка ў Раўбічах межрэгіянальнае журы, у складзе якога — навукоўцы з Беларусі, Летувы, Расіі, праводзіла экспертызу рукапісаў у рамках абвешчанага Міністэрствам адукацыі ў 1993 годзе конкурсу "Абнаўленне гуманітарнай адукацыі ў Беларусі". Мэта праграмы, якая ажыццяўляецца дзякуючы фінансавай падтрымцы Беларускага фонду Сораса — стварэнне новых падручнікаў па самых розных дысцыплінах (гісторыі, мове, літаратуры, мастацтвазнаўстве, культуры, псіхалогіі, філасофіі і г. д.), якія прызначаны для школ, тэхнікумаў, ліцэяў і ВНУ.

Першыя 2 туры прайшлі ў красавіку 1994 года і студзені 1995 года. Падчас 3-га тура (вынікі якога яшчэ не падведзены) былі разгледжаны 131 завершаны рукапіс новых падручнікаў. З тою мэтаю, каб адзнакі былі аб'ектыўнымі, эксперты не паведамлі імёнаў аўтараў кніг, а аўтарам — склад журы.

— Патрэба ў новых падручніках адчуваецца ўжо даўно, — паведаміла нам выканаўчы дырэктар гэтай праграмы сп-ня Людміла Дзяменцьева. — Напрыклад, у сярэдняй школе ўведзены такія дысцыпліны, як філасофія і эканоміка, а падручнікаў па іх увогуле не існуе... Рукапісы, якія адбяруць у выніку конкурсу, будуць надрукаваны пробнымі накладамі й апрабаваны ў навучальных установах. А калі паспяхова пройдуць апрабацыю, то, паводле дамоўленасці з Міністэрствам адукацыі і навукі, будуць уведзены ў школы і ВНУ у якасці дапаможнай вучэбнай літаратуры. Так што іх ніякім чынам нельга назваць альтэрнатыўнымі цяперашнім дзяржаўным.

Дарэчы, такія праграмы ўжо даўно і ўдала дзейнічаюць у нашых суседзяў — у Летуве, Расіі (там выдадзена каля 360 такіх падручнікаў) і Украіне.

**Аляксей ШЭІН**

Варункі

# КАПІТУЛЯЦЫЯ?

У мінулы аўторак 24 кастрычніка адбылася чарговая прэс-канферэнцыя спікера беларускага парламента (якога, зазначу без усякай з'едлівасці, час лічыць спікерам без парламента) Мечаслава Грыба, якая, як і папярэдняя, пра што паведамляў "ЛіМ", сабрала аншлаг. Падобна, што дзейнасць Старшыні Вярхоўнага Савета апошнім часам можна характарызаваць адно толькі ўдзелам апошняга ў рознага роду міжнародных канферэнцыях, сімпозіумах, з'ездах, асамблеях і да т. п.

Вось і на гэты раз фармальнай падставай для сустрэчы з журналістамі з'явіўся ўдзел М. Грыба ў пасяджэнні Савета Міжпарламенцкай асамблеі краін-удзельніц СНД, што адбылася ў Санкт-Пецярбурзе. Я кажу — "фармальнай падставай", бо Мечаслаў Іванавіч, запрашаючы прадстаўнікоў мас-медыя на сустрэчу, дзейнічаў па формуле, так бы мовіць, "адзін пішам — два ў галаве", і ўсім, хто запоўніў залу прэс-цэнтра Вярхоўнага Савета, было зразумела, што гаворка на прэс-канферэнцыі пойдзе пра падзеі, што адбываюцца ў краіне.

Галоўная з гэтых падзей — выступленне прэзідэнта А. Лукашэнкі на сустрэчы з ветэранамі, у час якой ён, выказваючыся ў самым зневажальным, пагрозлівым тоне аб прадстаўнічай уладзе, папярэдзіў, што пры "пэўных абставінах" увядзе ў краіне прамое прэзідэнцкае праўленне.

Вакол гэтай непрыхаванай пагрозы кіраўніка краіны і круцілася ў асноўным гаворка на прэс-канферэнцыі. Журналістаў цікавіла, прынамсі, пытанне, як павядзе сябе ў такой сітуацыі Вярхоўны Савет і яго старшыня. Мяркуючы па адказах Мечаслава Іванавіча, запалоханы, па яго словах, Вярхоўны Савет сёння не дзеяздольны і процістаяць выканаўчай уладзе, выконваць свой канстытуцыйны абавязак не ў стане. Сам жа Грыб спадзяецца, што А. Лукашэнка на такі згубны для краіны крок не пойдзе, тым больш, што, выступаючы з трыбуны Арганізацыі Аб'яднаных Нацый, абвясціў Беларусь дэмакратычнай рэспублікай. І наогул, увод прэзідэнцкага праўлення з'явіцца грубым парушэннем Канстытуцыі, чаго прэзідэнт не можа не ведаць.

Зрэшты, калі па вялікім рахунку, дык прэзідэнцкае праўленне ў краіне фактычна ўжо існуе. Ва ўсякім разе, па многіх, так сказаць, параметрах, што можна пацвердзіць шматлікімі прыкладамі. Вось толькі адзін з іх. На згаданай ужо сустрэчы з ветэранамі А. Лукашэнка расказаў, як збіраў "у сябе" Канстытуцыйны суд і пяць гадзін правадзіў з ім "працу", пакуль суддзі не паабяцалі паводзіць сябе ў дачыненні да прэзідэнцкай улады больш лаяльна. З гэтай нагоды М. Грыб працытаваў частку 4 артыкула 126 Канстытуцыі краіны, паводле якой прамое або ўскоснае ўдзеянне на Канстытуцыйны суд недапушчальнае і цягне за сабой крымінальную адказнасць. "Дык што пасля гэтага гаварыць!" — патэтычна ўсклікнуў Старшыня Вярхоўнага Савета. Гаварыць сапраўды няма чаго. Тым больш, што на пытанне аднаго з журналістаў, ці не збіраецца ён звярнуцца да народа Беларусі як кіраўнік заканадаўчай, прадстаўнічай улады, Мечаслаў Іванавіч выказаўся ў тым сэнсе, што практычнай магчымасці зрабіць гэта ён не мае. Была, праўда, папярэдняя дамоўленасць з кіраўніцтвам Дзяржтэлекампаніі прадаставіць яму эфір для выступлення, але цяпер гэтую магчымасць там абумоўліваюць шэрагам патрабаванняў — у прыватнасці, выступленне павінна быць не ў прамым эфіры, а запісаным, а, значыць, пракантраляваным тэленачальствам загадзя, на што спікер пайсці не можа. Ставіць яму нейкія свае ўмовы таксама не выпадае, бо дзяржаўнае тэлебачанне "прыватызавана" А. Лукашэнкам, гэта адна са структур прэзідэнцкай улады, як і радыёвяшчанне.

Журналісты — народ упарты і гэтая непрыхаваная капітуляцыя заканадаўчай улады ў асобе яе "правадыра" М. Грыба ўзвінціла аўдыторыю. Нехта з журналістаў паставіў пытанне рубам — аб магчымасцях аб'яўлення імпічмента прэзідэнту за сістэматычнае парушэнне канстытуцыйных норм. На гэта спікер парламента адказаў, што ўваходзіць у канфлікт з А. Лукашэнкам не будзе, спадзяецца на тое, што давыбары ў новы склад Вярхоўнага Савета ўсё-такі адбудуцца і тады, маўляў, усё стане на сваё месца.

Ну, а калі Аляксандр Рыгоравіч Лукашэнка зробіць усё, каб яны не адбыліся? Што будзе тады, Мечаслаў Іванавіч не ведае. Ва ўсякім разе ён заклікаў журналістаў пасадзейнічаць таму, каб выбары ўсё ж адбыліся.

Увагу ўдзельнікаў прэс-канферэнцыі прыцягнула яшчэ адна падзея, але ўжо з галіны знешнепалітычнай дзейнасці прэзідэнта. Сярод журналістаў была распаўсюджана ксеракопія інтэрв'ю, якое даў расійскаму інфармацыйнаму агенцтву "Інтэрфакс" намеснік кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта Беларусі У. Замяталін з нагоды яго візіту ў Ірак у якасці наглядальніка ў час праводзімага там так званага нацыянальнага рэферэндуму ў падтрымку рэжыму Садама Хусейна.

"Замежныя наглядальнікі, што прысутнічалі на рэферэндуме, — заявіў прадстаўнік Беларусі, — адзначалі поўную падтрымку палітыкі прэзідэнта краіны Садама Хусейна з боку іракскага народа".

Ад усяго, што ён там бачыў, таварыш Замяталін прыйшоў у захапленне, галоўным чынам ад самога факта, што ў рэферэндуме прыняло ўдзел ажно 99,6 працэнта дарослага насельніцтва Ірака. Ну як тут не ўспомніць блаславёныя сталінскія часы, калі ў падобных мерапрыемствах удзельнічала 99,9 працэнта маючых права голасу. Тады ж таксама гэты факт выдаваўся за праяву вялікай любові і адданасці правадыру ўсіх часоў і народаў.

Відаць, пад уражаннем асабістай сустрэчы з іракскім дыктатарам У. Замяталін дазволіў сабе ў згаданым інтэрв'ю ушчэнт раскрытыкаваць палітыку, якую праводзіць ААН у адносінах да Ірака пасля нападу апошняга на Кувейт, і ад імя беларускага народа засведчыў сваю прыязнасць і павагу да рэжыму, усталяванага ў гэтай блізкаўсходняй краіне.

Нельга тут не пагадзіцца з ацэнкай, якую даў гэтаму факту прэзідэнт НЦСІ "Усход—Захад" Анатоль Майсеня ў "Народнай газеце", дзе, узгадваючы візіт палкоўніка Замяталіна ў Багдад, піша: "Калі так пойдзе і далей, дык дзверы ў міжнароднае супольніцтва зачыняцца для Беларусі. Такое ўражанне, між іншым, я вынес са сваёй нядаўняй паездкі ў Савет Еўропы і Еўрапарламент у Страсбургу. Па меншай меры ў бліжэйшы час дарога ў Савет Еўропы нам перакрыта".

Напрыканцы прэс-канферэнцыі нехта з журналістаў спытаў Мечаслава Іванавіча, ці адбудзецца ўрачыстае пасяджэнне з нагоды гадавіны Кастрычніцкай рэвалюцыі, якая аб'яўлена дзяржаўным святам, і калі адбудзецца, ці прыме ў ім удзел Старшыня Вярхоўнага Савета? "У мяне наконт усяго гэтага вялікія сумненні", — адказаў М. Грыб. "Наконт таго, што адбудзецца, ці таго, што вы атрымаеце на яго запрашэнне?" — спытаў пад агульны смех нехта з прысутных.

Добра, што мы яшчэ не развучыліся смяяцца...

**М. ЗАМСКІ**

# ТУТ БУДЗЕ ЖЫЦЬ УКРАІНА



13 кастрычніка 1995 года ў жыцці украінскае дыяспары адбылася значная падзея. У гэты дзень упершыню за ўсю гісторыю беларуска-ўкраінскіх стасункаў на тэрыторыі нашай краіны, у Мінску, адчыніўся аддзел (фактычна — асобная бібліятэка) украінскае кнігі (вул. Жукоўскага, бібліятэка N 20). Адкрыццё было прысвечана 400-годдзю з дня нараджэння Багдана Хмяльніцкага і 5-годдзю існавання Беларускай асацыяцыі ўкраінцаў "Ватра". Таму бібліятэка, у фондах якой — навуковая і мастацкая літаратура, перыёдыка, стане, безумоўна, тым месцам, куды будуць прыходзіць і "беларускія ўкраінцы", і ўвогуле ўсе тыя, хто цікавіцца ўкраінскаю кнігаю ды культураю.

На святочным вечары з віншавальнымі словамі выступілі старшыня Камісіі ВС РБ, народны паэт Беларусі Ніл Гілевіч, прадстаўнік Міністэрства культуры і друку РБ сп. Яновіч. З украінскага боку былі галоўны спецыяліст аддзела працы з суайчыннікамі за мяжой Міністэрства Украіны ў справах нацыянальнасцей, міграцыі і культаў Вадзім Пэпа, прадстаўнік украінскай амбасады сп. В. Салавей, прэзідэнт і віцэ-прэзідэнт "Ватры" сп.сп. Багдан Міхайлюк і Аляксей Коба. Са студэнтамі ўкраінскага аддзялення філалагічнага факультэта БДУ (яно ўпершыню было створана ў гэтым годзе) прыйшла Таццяна Кабржыцкая — дацэнт, выкладчык Белдзярж-



універсітэта, прэзідэнт Беларускай асацыяцыі ўкраіністаў. Дарэчы, сп-ня Кабржыцкая — адзіны ў Беларусі спецыяліст, які чытае курс украінскай літаратуры па-ўкраінску. В. Пэпа паабяцаў студэнтам гэтага аддзялення дапамогу — у тым ліку перасылку з Украіны неабходнай літаратуры і падручнікаў. Б. Міхайлюк паведаміў, што на бліжэйшым пасяджэнні асацыяцыі будзе разгледжаны шэраг мерапрыемстваў па заахвочванні ды падтрымцы студэнтаў, якія вывучаюць украінскую літаратуру і мову — будучых папулярызатараў украінскай культуры.

Свае віншаванні з нагоды адкрыцця бібліятэкі даслалі ўкраінскі паэт Іван Драч, Міністэрства культуры Украіны і інш.

Трэба сказаць, што аддзел гэты быў створаны дзякуючы намаганням асацыяцыі "Ватра", якая ўжо шмат зрабіла для пашырэння ведаў пра Украіну ды яе культуры, і актыўна працуе цяпер сярод украінскай дыяспары ў Беларусі, паказваючы сваёй дзейнасцю прыклад арганізацыям усіх нацыянальных меншасцей, што жывуць зараз у нашай краіне.

**А. Ш.**

Пошта

# БАЛАМУЦЯЦЬ, КАБ АЧМУЦІЦЬ

Надышла пара, калі не надта прагнецца губляць час на слуханне інфармацыйных выпускаў Беларускага радыё, дакладней першай яго праграмы. Неаднойчы ўжо пераконваўся: пра важныя падзеі, якія не даспадобы выканаўчай уладзе, хутчэй за ўсё нічога не скажуць або пададуць у перавернутым выглядзе, а другарадныя, што радуюць слых яе высокага чыноўніцтва, могуць празмерна раздуць. Але ў нядзелю, 1 кастрычніка, а сёмай гадзіне раніцы ўсё ж націснуў на кнопку дынаміка. Апошнія паведамленні дыктар пачаў чытаць на бадзёрай ноце: сёння, маўляў, Дзень пажылых людзей (гэта, дарэчы, маё пакаленне), якіх дзяржава акружыла увагай і клопатамі. Іх і бульбай забяспечылі, і жыллё ім адрамантавалі, і паліва даставілі... І ўсё — бясплатна або на льготных умовах. Адным словам, жыві — не тужы, ветэран!

Адразу насцярожыла, што не прагучалі ніводная назва населенага пункта, ніводная лічба ці які-небудзь эпізод з жыцця-быцця сягонняшніх "імянніннікаў". І прыгадалася нататка ў заўчарашняй газеце пра рэкамендацыі ўрада мясцовым органам кіравання — "прыняць меры" з нагоды Дня пажылых людзей. Там якраз распавядалася пра тое, што радыё паднесла слухачам як ужо паўсюдна здзейснены факт. А вось наконт ільгот і пенсій — вельмі актуальнай цяпер тэмы для ветэранаў — сарамліва прамаўчала. Пакінуў убаку гэтае балючае пытанне ў сваім прывітанні, уключаным у перадачу, і прэзідэнт, які напярэдадні свята — няўчас! — падпісаў праслаўтыя ўказы, што пакрыўдзілі, мякка кажучы, людзей сталага веку. ("Абяцаў запусціць заводы, — гавораць яны, — а запусціў руку ў нашы кішэні"). Што гэта, тактычны ход — каб, маўляў, не сыпаць соль на свежыя раны — альбо стратэгія палітычнай гульні, разлічаная на перыяд будаўніцтва "рыначнага сацыялізму"?

Як бы там ні было, а мне той раніцай нагадаўся такі анекдот. Спаткаліся суседкі каля пад'езда свайго дома. "Шанцуе ж нашай Дар'і, — гаворыць адна з іх. — І замуж выйшла, і палюбоўнік ёсць. А ўчора ў пад'ездзе згвалтавалі". Праўда, ужо было паведамленне, што кіраўнік дзяржавы мае намер на падставе апытання насельніцтва "ўдакладніць", відаць, на карысць пенсіянераў, шэраг пазіцый указаў, якія, без перабольшання, згвалцілі іх. Дык навошта тады было агарод гарадзіць?

Характэрна, што жаданне перагледзець гэтыя ўказы ў А. Лукашэнкі з'явілася пасля таго, як Канстытуцыйны суд узбудзіў справу аб адпаведнасці іх асноўнаму і іншым законам краіны. Але я хацеў звярнуць увагу і на такія абставіны. Пенсіі і льготы, як вядома, вызначае Вярхоўны Савет, з чаго вынікае, што "бацька" тут нібы з боку прыпёку. А ці ж гэта парадак? Менавіта ж ён, без якога-небудзь удзелу парламента-"пераростка", павінен мець права рабіць усё: і адымаць, і дзяліць, і даваць. І калі прэзідэнт адкарэкціруе штосьці ў сваіх вераснёвых указах і выдасць новыя (а вопыту ў гэтым яму не пазычаць), дык здарыцца метамарфоза: ён зноў будзе ў вачах маладасведчаных бабулек і дзядуляў дабрадзеем і адзіным абаронцам іх інтарэсаў.

... І зноў пра тое, з чаго пачаў. Адразу скажу: калі б не сам вымушана слухаў цалюткі дзень 6 кастрычніка ўсе інфармацыйныя выпускі, што ішлі па першай праграме нацыянальнага радыё, дык мог бы гэтаму не паверыць. Напярэдадні Канстытуцыйны суд Беларусі, які разглядаў так званы бюджэтны ўказ прэзідэнта, прызнаў яго (указ) неканстытуцыйным. Аб гэтым неардынарным рашэнні коратка паведамілі позна ўвечары 5 кастрычніка некаторыя замежныя радыёстанцыі. Жадалася ж ведаць падрабязнасці, асабліва тыя, якія непасрэдна тычацца простых людзей. Але на другі дзень у ранішніх выпусках навін нас упэўнівалі, што Канстытуцыйны суд толькі пачаў разглядаць згаданы ўказ. Крыху здзівіўшыся, рашыў, што называецца, давесці справу да канца.

І чаго я дачакаўся? Доўгі час з намі гулялі ў маўчанку, хоць іншая інфармацыя ў эфіры гучала. І толькі ўвечары "Постфактум" абвясціў у некалькіх словах пра вердыкт суда. І адразу ўвялі ў вушы слухачоў "правільны" погляд палкоўніка Замяталіна, які дужа шкадаваў, што Канстытуцыйны суд абараніў законнасць. Другіх меркаванняў, па цяперашнім звычаі, не было.

Пэўна, без такога агітпропаўскага "абрамлення" цэлыя суткі — столькі ж, колькі і ў выпадку са знішчэннем амерыканскага паветранага шара — не дазвалялася перадаваць у эфір непрыемную для аўтараў указа навіну. Гэта значыць, радыёжурналістам свядома перашкаджалі выконваць прафесійныя абавязкі. Зараз, мяркуючы па ўсім, іх галоўная задача — не інфармаваць аб'ектыўна і аператыўна аб тым, што адбываецца на Беларусі, а даводзіць да шырокіх мас волю першай асобы.

На фоне ігнаравання работы Канстытуцыйнага суда і — яшчэ ў больш значнай ступені — Вярхоўнага Савета, што яскрава праявілася падчас апошніх парламенцкіх пасяджэнняў, міжвольна запыніў увагу, як па радыё празмерна выпукляюцца дзеянні выканаўчай улады. Ну нашто, напрыклад, было на працягу паўтара дня разоў пятнаццаць анансаваць — практычна ва ўсіх выпусках навін — паездку прэзідэнта ў Барысаў? (Гэта рабілася адначасова з замоўчваннем рашэння Канстытуцыйнага суда). Як кажуць: "Заставў дурня маліцца, дык ён і лоб сабе расквасіць".

Шкада, вядома, не яго лоб, а тых, каго ён з такім імпэтам ірвецца абалваніць, каму замінае пазбавіцца ад рабска-саўковай псіхалогіі.

**Генадзь ЛАГУНОВІЧ**

*г. Мінск*

ЛіМ
ЧАСАПІС



## ВЫЛУЧЫЛІ ЗЕМЛЯКІ

**Пісьменніка Генрыха Далідовіча добра ведаюць і паважаюць на роднай яму Стаўбцоўшчыне. Напярэдадні паўторных выбараў у Вярхоўны Савет землякі звярнуліся да Генрыха Вацлававіча з просьбай стаць кандыдатам у дэпутаты па іх акрузе. Атрымаўшы згоду, землякі за некалькі дзён сабралі ўдвая большую, чым неабходна для вылучэння, колькасць подпісаў. Такім чынам, яшчэ адзін пісьменнік пазмагаецца за месца ў новым парламенце. Поспехаў, Генрых Вацлававіч...**

## І БЕЛАРУСЫ АКАЗАЛІСЯ СВАІМІ

**Нядаўна ў Празе прайшоў 5-ы "круглы стол" кіраўнікоў нацыянальных сельскагаспадарчых бібліятэк ЗША, Цэнтральнай і Усходняй Еўропы. Трэці раз у гэтым прадстаўнічым мерапрыемстве прыняў удзел і дырэктар Беларускай сельскагаспадарчай бібліятэкі Уладзімір Голубеў. Адбылася дыскусія па такіх пытаннях, як удзел у міжнароднай інфармацыйнай сістэме ААН па сельскай гаспадарцы "АГРЫС", выкарыстанне глабальнай камп'ютэрнай сеткі "Інтэрнет" для забеспячэння доступу да сусветных інфармацыйных рэсурсаў і для прадстаўлення нацыянальнах інфармацыйных рэсурсаў для іх міжнароднага выкарыстання па каналах камп'ютэрнай сувязі. Падпісана пагадненне "Аб'яднаная праграма кааперацыі" па далейшым пашырэнні ўзаемасувязяў і кантактаў. У прыватнасці, прадугледжана садзеянне развіццю новых інфармацыйных тэхналогій "у мэтах паляпшэння доступу да сельскагаспадарчай інфармацыі ў нацыянальным і міжнародным маштабе, унутры краін і паміж краінамі".**

## АБМЕРКАВАННЕ ТВОРЧАСЦІ

**Чарговае пасяджэнне секцыі крытыкі Саюза беларускіх пісьменнікаў было прысвечана разгляду творчасці Сымона Белага і Івана Цішчанкі. Абодва аўтары чытачу знаёмы. С.Белы як пляменнік Я.Коласа часта выступае ў друку з успамінамі, нарысамі, артыкуламі, прысвечанымі жыццю і творчасці народнага песняра. Некалькі гадоў назад у выдавецтве "Мастацкая літаратура" выдаў пра яго кнігу. І.Цішчанка заявіў аб сабе як даследчык фальклору, аднак не цураецца і літаратуразнаўчай дзейнасці, выступае з крытычнымі рэцэнзіямі, артыкуламі. А да ўсяго піша апавяданні.**

**Пра творчасць гэтых аўтараў гаварылі Я.Хвалей, У.Гніламёдаў, А.Ліс, В.Жураўлёў, Н.Пашкевіч, А.Марціновіч.**

**Вёў пасяджэнне і выступіў старшыня бюро секцыі М.Мушынскі.**

**Секцыя рэкамендавала С.Белага і І.Цішчанку для прыёму ў Саюз беларускіх пісьменнікаў.**

## ЁН АДКРЫВАЎ ЯСЕНІНА

**27 кастрычніка споўнілася 120 гадоў з дня нараджэння вядомага расійскага крытыка і публіцыста Л.Клейнбарта.Леў Максімавіч родам з Капыля, яшчэ да кастрычніцкага перавароту супрацоўнічаў у часопісах "Образование", Мир Божий", "Современный мир". Л.Клейнбарт з увагай ставіўся да творчай моладзі. Адразу ж пасля першых публікацый ён заўважыў і мала каму вядомага тады С.Ясеніна, а потым ухваліў рукапіс яго першай кнігі "Радуніца", які паэт прыслаў Льву Максімавічу.**

**Цікавіўся Л.Клейнбарт і гісторыяй беларускай літаратуры. У свой час ён даслаў шматлікія анкеты многім пісьменнікам, у тым ліку Я.Купалу і свайму земляку Ц.Гартнаму. Л.Клейнбарт быў першым, хто падрыхтаваў крытыка-біяграфічную манаграфію пра Я.Купалу, але з-за нападак вульгарызатарскай крытыкі яна, на жаль, так і не пабачыла свет.**

**Адна з асноўных кніг Л.Клейнбарта "Маладая Беларусь" доўгі час знаходзілася ў так званых "спецхранах", а ў ёй жа нямала цікавых назіранняў над творчасцю пісьменнікаў, даследуюцца і рукапісныя выданні, што ў свой час выпускаліся капыльскай арганізацыяй "Самаадукацыя і самаразвіццё".**

**Пакінуў Л.Клейнбарт (памёр у 1950 годзе) і ўспаміны аб рэвалюцыйных падзеях у Капылі ў канцы XIX — пачатку XX стагоддзя.**

# ЦЯЖАР ПРАЎДЫ

Валянцін ТАРАС

Усё, што мы кажам пра сённяшняе становішча дэмакратычных газет і часопісаў, пра гвалт улады ў дачыненні да сумленных журналістаў, пра імкненне вярнуцца да жорсткай цэнзуры, — усё, безумоўна, слушна. Але мы чамусьці лічым (ва ўсякім разе ствараецца такое ўражанне), што свабода друку, свабода слова ненавісныя толькі ўладзе, што яны не ўспрымаюцца і адкідваюцца толькі ёю. На жаль, гэта не так.

Мяне асабіста сённяшні дзень канчаткова пераканаў у адной ісціне, зусім не новай, але ад гэтага не менш горкай і сумнай, — у думцы, якую я выказаў яшчэ 25 год назад у сваім гумарыстычным апавяданні, — па розных прычынах ненадрукаваным, — "Фантастычны выпадак з Тутэйшыным". Пра чалавека, які прагнуў праўды, асабліва пра сябе самога. Прычэпіцца да свайго саслужыўца, альбо да суседа і дапытваецца: "Скажы, што ты пра мяне думаеш? Што я за асоба?" Людзі адказвалі яму альбо жартам, альбо мычэлі нешта няпэўнае. Ды вось аднойчы Тутэйшын, стоячы ў чарзе за півам, пабіўся з нейкім старым ветэранам, які лез без чаргі, і той агрэў Тутэйшына па галаве кіем. Ад удару ў галаве ў Тутэйшына нешта шчоўкнула, і ён набыў дзіўную здольнасць чуць чужыя думкі. Глядзіць той ці іншы чалавек на Тутэйшына, маўчыць, рот не адчыняе, аднак Тутэйшын выразна чуе ўсё, што гэты чалавек пра яго думае. А чуў Тутэйшын адно: "Божа, якое мурло! Які агідны, брыдкі тып!" І не толькі, так бы мовіць, адназначна, але і з разгорнутымі характарыстыкамі. Нават уласная жонка нічога добрага пра Тутэйшына не думала. І што? Не "перакоўвацца" стаў Тутэйшын, не каяцца, не самавыхоўвацца, а стаў маліць Бога, каб як мага хутчэй пазбавіцца ад гэтай сваёй дзіўнай здольнасці. Стаў адшукваць таго старога ветэрана, адшукаў, і зноў справакаваў яго на бойку. І зноў атрымаў па галаве кіем. Шчаўчок у мазгах — і ўсё вярнулася на сваё месца. І пасля гэтага Тутэйшын падсвядома, інтуітыўна пазбягаў чапляцца да людзей з пытаннямі: "Скажы, што ты пра мяне думаеш? Што я за асоба?"

Тады, у сярэдзіне семідзесятых, я, вядома, і марыць не мог, што дажыву да тых часоў, калі маё невялічкае фантастычнае дапушчэнне зробіцца явай і на галаву мільёнаў — Тутэйшыных — на галаву грамадскасці — абрынецца кій галоснасці і ў вушы і ў вочы ўварвецца праўда, якой усе гэтак прагнулі, якая, здавалася, хуценька вылечыць грамадства ад усіх яго цяжкіх хвароб, ачысціць ад брыдоты, умацуе дух праведнікаў і прывядзе да пакаяння грэшнікаў...

Авохці!

Гэта толькі спачатку, пакуль маланкі галоснасці цалялі ў дзяржаўных злачынцаў найвышэйшага рангу, пакуль галоснасць высвечвала толькі вяршыню гіганцкага пачварнага айсберга, які зваўся "вялікай сацыялістычнай дзяржавай", грамадства радавалася і пляскала ў ладкі, упівалася шыпучкай свабоды. Але калі схлынула хваля вярхушачнага выкрывальніцтва, калі размова пайшла пра ўсю гэту велізарную глыбу ў цэлым, калі пачалося глыбокае бурэнне ўсёй яе тоўшчы і пачаўся аналіз узятых з глыбіні проб, пры якім стала ясна, што літаральна ўся тоўшча, уся таталітарная глыба (ад таго, што цяпер яна посттаталітарная, сутнасць не мяняецца) кішыць бацыламі маны, прыстасаванства, ляноты, безадказнасці, зайздрасці, ксенафобіі, утрымальніцтва, — калі ўсё гэта высветлілася, грамадства пачула сябе ніякавата — на ўсёй посттаталітарнай прасторы, на кожным кавалку расколатай глыбы.

Што ж, грамадства ў цэлым і кожны паасобку даведаліся, нарэшце, праўду пра сябе, але праўда гэтая аказалася нядобрай, непрыемнай, раздражняючай. Аказалася, што яна сапраўды вочы коле. Аказалася, што праўда — гэта цяжкая ноша, несці якую па сілах толькі людзям з разняволенай свядомасцю, людзям, якія здольны мысліць самастойна, думка якіх свабодная.

Без свабоды думкі, што свабода слова?
Кашалёк без грошай, без каня падкова!

Гэтае становішча рэчаў добра разумее, дакладней, беспамылкова адчувае ўлада. І менавіта таму яна гэтак нахабна, гэтак груба наступае на прэсу і на эфір, бесцырымонна ўказвае на калітку "строптивым" рэдактарам і журналістам. Яна ведае, што з боку грамадства ў цэлым ёй не пагражае выбух пратэсту і гневу. Што і пацвердзілася зусім нядаўна гісторыяй з Іосіфам Сярэдзічам, гісторыяй з Паўлам Шареметам, гісторыяй з выбарамі і рэферэндумам, калі на вусны прэсы, радыё і тэлебачання дэманстратыўна быў павешаны прэзідэнцкі "а м б а р н ы й" замок. Пры яўным спачуванні грамадства, якое таксама як і ўлада хоча, каб яму гаварылі толькі тую праўду пра яго, якая яму даспадобы, якая не патрабуе ад яго нейкага там пакаяння, згрызотаў душы, пачуцця адказнасці за злачынствы і фатальныя памылкі дзяржавы, якая не прапануе яму ніякіх тэстаў на сумленнасць. Адным словам, хочацца мець такое люстэрка, якое паказвае табе тваё ўласнае ўяўленне аб сабе самім, а тое, якое паказвае твой сапраўдны твар, так і падмывае бразнуць аб падлогу, каб пырскі паляцелі!..

Не, не толькі ўлада крывіцца і моршчыцца, злуецца і тупае ножкай, гледзячы ў аб'ектыўнае люстэрка, але і грамадства...

Калі раней штодзённыя прапагандысцкія заклінанні аб адзінстве партыі, урада і народа былі набіўшай аскому фразай (хоць і гэта ў пэўных момантах не зусім так), то сёння, ва ўсякім разе на беларускім кавалку расколатай глыбы, такое адзінства ўлады — вярхоўнай, вышэйшай — з народам сапраўды існуе. І перш за ўсё адзінства ў невуцтве, я б сказаў, у нейкім прастадушным і разам з тым ваяўнічым, агрэсіўным невуцтве. Бо хто сёння ва ўладзе? Другі і трэці, нават чацвёрты эшалон былой партыйнай і савецкай наменклатуры, нізавых звенняў былога партдзяржапарату, калгасныя старшыні і сельсаветчыкі — людзі, можна смела сказаць, з народа, з глыбінкі, аднак і з адметнай спецыфікай. Усе яны прайшлі праз сістэму партыйнай асветы, праз розныя партшколы, курсы, так званыя акадэміі грамадскіх навук, дзе іх вучылі на кіраўнікоў універсальнага профілю. Калі ты прайшоў праз гэту сістэму асветы, то можаш кіраваць сёння калгасам, а заўтра оперным тэатрам, сёння — лазняй, а заўтра навукова-даследчым інстытутам. Бо ты авалодаў навукай навук — марксізмам-ленінізмам. Цяпер ты ведаеш, як вучыць партыя, газы пры награванні пашыраюцца!

Гэтыя людзі, гэтыя персанажы Аркадзя Райкіна, якія з гарызанталяу ператварыліся у вертыкалі, хоць і выдзеліліся з народа ў пэўную эліту, разам з тым вельмі блізкія да шырокіх мас па сваім светаадчуванні, па сваіх крытэрыях, заснаваных на звычайнай "житейской мудрости", на так званым простым здаровым сэнсе, на простай, так бы мовіць, арыфметыцы, без аніякай там вышэйшай матэматыкі. Таму не дзіўна, што прынцыпы і метады кіравання, скажам, калгасам альбо саўгасам цалкам пераносяцца на кіраванне дзяржавай, літаральна ўсім яе жыццём, калі нават тэмы для сачыненняў выпускнікоў сярэдняй школы і абітурыентаў ВНУ распрацоўвае старшыня калгаса, які называецца Рэспубліка Беларусь!..

"Все это было бы смешно, когда бы не было так грустно!"

Згадваецца трагікамічны эпізод з кінафільма "Адъютант его превосходительства". Сялянепаўстанцы, якіх у фільме, праўда, называюць бандытамі, злавілі чырвонага лазутчыка, чэкіста, і прывялі яго да свайго атамана, да бацькі. А ў таго ў падвале сядзяць белыя афіцэры ("бацькі", як вядома, чыхвосціў і белых, і чырвоных, выступаючы ад імя народа, якому, маўляў, не даспадобы ні тыя, ні гэтыя). І вось бацька прыводзіць чырвонага палоннага ў падвал, дзе сядзяць белыя, каб пасадзіць яго разам з імі, і кажа: "Сейчас я сделаю экскремент", блытаючы гэтае слова з "экспериментом". Міжвольна рагочуць і белыя афіцэры і чырвоны чэкіст, а пакрыўджаны бацька кажа сваёй камандзе: "В прошлый раз тоже смешливые попались!"

Ці не знаходзімся сёння ўсе мы ў становішчы тых смяшлівых?

Ды колькі не смейся, даводзіцца зноў і зноў згадваць выказванне Маркса аб невуцтве. І хоць бы гэты бухгалтар, як заўважыў некалі Бісмарк, сам прынёс людству мноства няшчасцяў, у гэтым сваім выказванні ён не памыляецца: "Невуцтва — гэта тая дэманічная сіла, якая не раз была ў мінулым і не раз яшчэ з'явіцца ў будучыні прычынай усіх самых цяжкіх бедаў чалавецтва". Жах яшчэ і ў тым, што невукі, асабліва невукі ў дзяржаўным мундзіры, абсалютна пазбаўлены пачуцця гумару — гэта, як правіла, надзвычай сур'ёзныя, суровыя людзі. І просталінейныя, як аглоблі. Людзі "тунельнага", а не "лабірынтнага" мыслення. Між тым, памылковасць, бясплоднасць "тунельнага" таталітарысцкага мыслення пацвярджае сама прырода! Напрыклад, калі асушвалі Палессе, то ўносілі "карэктывы" ў "лабірынтнае" мысленне прыроды — спрамлялі рэкі, рэчкі і рачулкі, якія, вядома, пятлялі, кружылі, разгаліньваліся, як сістэма кровазвароту ў жывым арганізме. Спрамілі — і вада паімчалася па "скарэкціраваных" рэчышчах, як па тунелях, па каналах. І знікла. І сёння на большасці асушаных абшараў Палесся можна здымаць новае "Белае сонца пустыні"... Аднак "тунельшчыкі" па сённяшні дзень не жадаюць лічыцца з тым, што само жыццё — гэта найскладанейшы лабірынт, што, каб не заблукаць у ім, не тыцкацца носам кожны раз у новы тупік, грамадства павінна трымацца за ніць Арыядны, сплеценую з безлічы думак і меркаванняў, што такой ніццю Арыядны якраз і з'яўляецца свабоднае слова, свабодная прэса і свабодны эфір. Па-ранейшаму імкнуцца даць простыя адказы на складаныя пытанні, шукаюць у лабірынце дарогу напрасткі. А калі так, то не патрэбна ніць Арыядны, а патрабуецца семафор у выглядзе працягнутай рукі жалезнага правадыра, які паказвае на святло ў канцы тунеля. Што з таго, што тунель гэты бясконцы і тое святло бясконца аддаляецца, як лінія гарызонту! Народ пакуль што ва ўсім згодны са сваім правадыром, са сваім бацькам, і лічыць, што ўсім гэтым смяшлівым, усім гэтым занадта разумным, якія крытыкуюць бацьку, трэба даць калі не "вышэйшую меру", дык добрага бізуна. Каб паважалі выбар народа!

Спытаюць: што ж ты прапануеш? Сядзець, склаўшы рукі? Замоўкнуць? Ні ў якім разе! Таму што ў нас ёсць выйсце: заставацца самімі сабой. Таму што мы не толькі ў ролі тых смяшлівых, але і ў ролі галоўнага персанажа з п'есы Эжэны Іянэску "Насарог". Калі ўсе вакол яго ператварыліся ў насарогаў і насарожы натоўп акружае ягоны дом, раве пад яго вокнамі, ён кажа ў фінале: "Мабыць, гэта вельмі няблага — быць насарогам, мабыць, гэта выгадна і нават прыемна. Я хацеў бы ператварыцца ў насарога, але не магу! Не магу пераадолець сваю чалавечую прыроду, і мне нічога не застаецца, як застацца чалавекам". І ён здымае са сцяны ружжо.

Нашы ружжы — нашы звычайныя пісьмовыя прылады. Напэўна, грозныя, напэўна, небяспечныя для розных "экскрементаторов", калі яны гэтак нервуюцца і крыўдзяцца. Таму будзем і надалей рабіць сваю цяжкую, няўдзячную справу, несці і несці на сваіх плячах гэты часам невыносны цяжар праўды. Усведамляючы, што хоць праўда не можа перамагчы, яна і непераможная!

*Выступленне на II Міжнародным кангрэсе Пэн-цэнтра*

# А Ў НАШАЙ "ХАЦЕ" — СВЯТА...

Цудоўнае, захапляльнае відовішча! На высокіх штандарах быццам плывуць па праходах перапоўненай залы гербы старадаўніх беларускіх гарадоў Полацка, Брэста, Нясвіжа, Мсціслава, Оршы, Турава. І тут жа паведамляецца, чым слаўныя гэтыя асяродкі нацыянальнай даўніны і культуры. Найперш, канечне, кнігай. Той самай, што несла святло і веды людству, кнігай, якая нагадвала, папярэджвала, што нельга забываць мовы сваёй, бо без яе — народ не народ.

А вось і сама Еўфрасіння Полацкая з'явілася: ледзьве не на ўсю сцэну апусцілася палотнішча з выявай першай беларускай асветніцы. І загучаў наказ Еўфрасінні: "Пастарайцеся ж, дзеці мае, пазбегнуць агню непагаснага, якому аддаюць пустазелле, зрабіцеся пшаніцаю чыстаю і змяліцеся ў жорнах уміронасці, малітвамі і постам, каб чыстым хлебам прынесціся на трапезу Хрыстову".

Толькі два моманты з урачыстага свята, што ладзілася ў гонар 20-годдзя Беларускага універсітэта культуры ў памяшканні тэатра музычнай камедыі ў Мінску. А колькі было яшчэ іх — непаўторных, яркіх, напоўненых духам беларускасці, адраджэння, прасякнутых верай, што, нягледзячы ні на што, наша дзяржава стане трывала на ногі і культура ў ёй зойме дастойнае месца. А культуры і належыць вялікая роля ў гэтым станаўленні, бо менавіта яна — той падмурак, на якім моцна стаіць сам будынак. Падмурак гэты ўзводзіць, у будынку тым жыць і ім, сённяшнім студэнтам БУКа.

Юбілейнае свята так і было задумана, што адначасова стала і інаўгурацыяй у сувязі з 21-м акадэмічным годам. А калі свята ладзяць будучыя рэжысёры народных тэатраў, кіраўнікі розных калектываў мастацкай самадзейнасці (сёння ва універсітэце працуюць чатыры факультэты, на якіх вядзецца падрыхтоўка па 30 спецыяльнасцях і спецыялізацыях), дык хіба можна абысціся без тэатральнага відовішча?

І яно адбылося. Нават у першай частцы ўрачыстасцяў, калі ў нечым пераважалі традыцыйныя віншаванні, знайшлося месца і песні, і досціпу. А як хораша праходзіла ганараванне першага рэктара гэтай вышэйшай навучальнай установы — тагачаснага інстытута культуры — знакамітага драматурга, які і стаяў ля яго вытокаў, — А. Петрашкевіча! Алесю Лявонцьевічу было прысвоена званне ганаровага прафесара і ён тут жа атрымаў мантыю і шапачку.

У другім жа аддзяленні вечара дзейства перанеслася ў фае, дзе знайшлося месца і выканаўцам, і гледачам. Выступленні ўдаліся, бо майстэрства студэнтам, як кажуць, не пазычаць. Дарэчы, не лішне нагадаць, што ва універсітэце ёсць нямала калектываў самадзейнасці, дзейнасць якіх вядома далёка за межамі дзяржавы. Гэта, у першую чаргу, фальклорныя — "Валачобнікі", "Грамніцы", "Спадчына", "Сябры". Ды і хоры "Мара" і "Благавест" таксама слынныя. А ансамблі дудароў, цымбалістаў, скрыпачоў, акардэаністаў, мандаліністаў?

Творчасці ва універсітэце спрыяе сама атмасфера. А створана яна дзякуючы цяперашняму рэктару Я. Грыгаровіч. Ядвізе Дамінікаўне давялося пачуць у час вечарыны нямала цёплых і, безумоўна, заслужаных слоў. Выступала яна і сама. Не казённа-суха, а проста і даходліва. Нагадала, што ва універсітэце не вучаць, а дапамагаюць вучыцца. Напомніла, што наша нацыянальная культура мае надзіва даўнія і багатыя традыцыі і пачалася яна зусім не семнаццатага года. Урэшце, пра гэта напаміналa і само відовішча, у якім знайшлося месца і народнай песні, і народнаму танцу. І, безумоўна, таму духу беларускасці, што проста-такі лунаў на сцэне і ў зале.

Былі і іншыя віншаванні — выкладчыкаў універсітэта, прадстаўнікоў знакамітых ВНУ з ЗША, Германіі, Польшчы... Было і вітанне міністра культуры і друку Беларусі А. Бутэвіча — таксама шчырае, непасрэднае, прамоўленае ад сэрца.

... А пачалося святкаванне юбілею ў той жа дзень на ўрачыстым пасяджэнні вучонага савета БУКа. Павітаць прафесарска-выкладчыцкі састаў прыйшлі прадстаўнікі шматлікіх ВНУ сталіцы, замежныя госці, намеснік старшыні Мінскага гарвыканкама А. Сасноўскі і іншыя. Намеснік міністра культуры і і друку Рэспублікі Беларусь У. Рылатка ўручыў юбілярам ганаровыя граматы міністэрства. Сярод узнагароджаных — і рэктар Я. Грыгаровіч — самы прыгожы рэктар Рэспублікі Беларусь, як гжэчна адзначыў спадар Рылатка.

**Н. К.**

***Сёлета Беларускай акадэміі мастацтваў спаўняецца пяцьдзесят год. Гэта важная, вызначальная падзея ў яе жыцці, час падвядзення вынікаў напружанага творчага жыцця.***

***Акадэмія можа ганарыцца больш як трыма з паловай тысячамі выпускнікоў, якія складаюць зараз асноўныя творчыя сілы драматычных тэатраў, саюзаў мастакоў і дызайнераў Беларусі. З ліку выпускнікоў можна назваць не адзін дзесятак імёнаў, якія з'яўляюцца гонарам беларускага мастацтва і дастойна прадстаўляюць яго ў свеце. Сёння можна сцвярджаць, што акадэмія сфарміравала беларускую тэатральную школу, самабытную школу графікі і дэкаратыўна-манументальнага мастацтва, стварыла трывалыя асновы ў падрыхтоўцы жывапісцаў, скульптараў, дызайнераў, спецыялістаў у галіне кінатэлемастацтва. Сярод выпускнікоў Беларускай акадэміі мастацтваў — народныя артысты СССР В. Тарасаў, Г. Аўсяннікаў; народныя артысты Беларусі М. Захарэвіч, Л. Давідовіч, Г. Гарбук, П. Дубашынскі, У. Куляшоў, В. Раеўскі, Б. Луцэнка, Г. Маркіна і іншыя; народныя мастакі Беларусі В. Грамыка, Л. Шчамялёў, Л. Гумілеўскі, А. Кашкурэвіч, Б. Герлаван, В. Шаранговіч; заслужаныя дзеячы мастацтваў, лаурэаты прэмій міжнародных і рэспубліканскіх конкурсаў. Усе яны, знітаваўшы сваё жыццё і творчасць з Беларуссю, заслужылі прызнанне грамадскасці.***

***На кафедрах Беларускай акадэміі мастацтваў працуюць 63 кандыдаты і дактары навук, дацэнты і прафесары, сярод якіх нямала знакамітых нацыянальнага мастацтва Беларусі.***

***Сёння Беларуская акадэмія мастацтваў уяўляе сабою кангламерат трох факультэтаў: тэатральнага, мастацкага, дызайну. 12 кафедраў рыхтуюць спецыялістаў для мастацтва і культуры Беларусі па 14 спецыяльнасцях і 41 спецыялізацыях. У акадэміі працуе кафедра малюнку, гісторыі і тэорыі мастацтва, гуманітарных дысцыплін, студэнцкі тэатр, акадэмічны музей. Дзейнічаюць аспірантура і асістэнтура-стажыроўка. Пры акадэміі функцыянуюць дзве сярэднія мастацкія ўстановы: Мінскае мастацкае вучылішча і Мінскі мастацкі ліцэй.***

***Усё гэта — дасягненні, пра якія прыемна згадваць. Але сённяшні час нялітасцівы і да юбіляраў — кожны дзень падкідвае ўсё новыя праблемы. Пра цяперашняе і будучае Беларускай акадэміі мастацтваў з рэктарам, народным мастаком Беларусі, прафесарам Васілём ШАРАНГОВІЧАМ гутарыць наш карэспандэнт Наталля ЖОГЛА.***

# ...У НЕПРАФЕСІЙНЫХ УМОВАХ МЫ РЫХТАВАЛІ ПРАФЕСІЯНАЛАЎ




**— Сёлета Беларускай акадэміі мастацтваў спаўняецца 50 год. Кожны прамежак часу — адносны. Беларуская акадэмія мастацтваў далёка яшчэ да 200-гадовых традыцый Пецярбургскай акадэміі, але шлях, пройдзены ёю, не менш вызначальны ў гісторыі нашай рэспублікі. 50 год — гэта не адно пакаленне выпускнікоў, створаныя і замацаваныя мастацкія школы, вядомыя творцы. Гэта вялікая праца ўсяго калектыву і значныя дасягненні. Але ж сённяшні час такі, што кожная навучальная ўстанова, і творчая тут не выключэнне, пастаўлена ва ўмовы "гонкі на выжыванне"...**

— Чалавек, як жывы арганізм, заўсёды думае пра будучыню, будуе планы. А Беларуская акадэмія мастацтваў — сапраўдны жывы арганізм. Мы не можам існаваць толькі днём сённяшнім, хаця б таму, што выхоўваем будучае культуры нашай рэспублікі. Але праблема гэта становіцца, чым далей, тым больш складанай менавіта ва ўмовах нашага жыцця, калі ўсё такое нестабільнае, няпэўнае, калі ўсё здаецца такім часовым. Сённяшняе жыццё прымушае нас абмяжоўвацца адным днём і менш за ўсё згадваць пра будучыню. Не ўбачце ў маіх словах нейкую настальгію па былым часе. Проста была тады адна станоўчая рыса, якая супакойвала асобу адносна будучыні — была ўпэўненасць у стабільнасці. Натуральна, у пэўных межах. Але тут я вызначаю стабільнасць як катэгорыю.

Сённяшні час сапраўды паставіў перад чалавекам пытанне аб выжыванні. Асабліва яўна бачна гэта па матэрыяльных варунках, што ўрэшце цягне за сабою і знікненне ўмоў для духоўнага развіцця. Культура і адукацыя (сюды можна дадаць і медыцыну) пастаўлены ў рэспубліцы ў самае горшае становішча. Яны — як ізгоі, якія раптам сталі малапатрэбнымі грамадству. Але ж і старажытныя грэкі ведалі, што будучае будуецца менавіта на таленце і розуме. На жаль, цяпер пра гэта задумваемся ў асноўным толькі мы самі, дзеячы культуры. І разважанні нашы зусім не радасныя. Возьмем гісторыю чалавецтва, рух яго наперад. Вынаходніцтвы Кулібіна, лямпачка Фарадэя — усё гэта вынікі менавіта таленту і працаздольнасці, пра што мы забываемся.

**— Значыцца, "шлагбаумы" на творчым і грамадскім шляху засталіся і сёння будзённай рэальнасцю?**

— Я, прайшоўшы даволі доўгі жыццёвы шлях, магу з упэўненасцю сказаць, што і ў былыя "камуністычныя" часы разумныя і таленавітыя людзі чамусьці лічыліся небяспечнымі. Яны жылі з нейкай аглядкай, нягледзячы на тое, што ўвесь свет адносіўся да іх з вялікай павагай. Талент цаніўся ва ўсе стагоддзі. Згадайма хаця б тое, што Бетховен ніколі не саступаў дарогу каралю. А дзе зараз у нас такія каралі? Мы — я кажу не толькі за сябе, але і за сваіх калег і паплечнікаў, з якімі разам прайшлі жыццё — адчувалі і адчуваем пэўныя "шлагбаумы", якія мусім абыходзіць. Прычым "шлагбаумы" невыпадковыя. Але ж мы заўжды ўсведамлялі, што без духоўнага развіцця ў народа проста не можа быць будучыні. Таму і мастакі, і вучоныя, і музыканты, дзеячы культуры самых розных накірункаў працуюць, не зважаючы, што матэрыяльна і маральна яны загнаны ў кут. Я сам па сабе ведаю, як гэта крыўдна і балюча. Падтрымлівае толькі разуменне свайго грамадзянскага абавязку ды жаданне ўсё ж данесці людзям дадзены прыродай талент, які сам па сабе — грамадская прыналежнасць. Ніхто з творчых асоб не працуе дзеля і за грошы, бо яны не атрымліваюць і маленькай толікі таго, што заслугоўваюць. Але тым не менш яны працягваюць працаваць — дзеля дня заўтрашняга.

Апошнім часам нашы таленавітыя людзі адзін за адным сыходзяць у нябыт. Нядаўна пахавалі майго земляка, выдатнейшага паэта і чалавека — Максіма Танка. Незадоўга перад ім памёр Пімен Панчанка. Ці ведаюць людзі, што яны практычна памерлі ў галечы? А гэта былі асобы, якія аддалі свой талент радзіме, яны застануцца ў гісторыі вечна.

**— Але ж вернемся да акадэміі. У непрадказальны наш час, калі многія праблемы здаюцца такімі невырашальнымі, нашай акадэміі ўдаецца ўтрымаць планку высокай прафесійнай падрыхтоўкі. І ў будучым, пэўна, яна не застанецца ўбаку ад руху жыцця, не закансервуецца на сённяшніх дасягненнях?**

— За апошнія дваццаць-трыццаць год погляд на мастацтва, яго формы, развіццё моцна змяніўся. Мы, канешне ж, не спавядаем ужо сацыялістычны рэалізм, як гэта было ў 70-я гады; зніклі жорсткія рамкі, у якія было загнана мастацтва. Сёння пануе разняволенасць і раскаванасць у творчым жыцці, якія ўздзейнічаюць і на працэс адукацыі. Мастацкая ж адукацыя імгненна рэагуе на ўсе змены, што адбываюцца ў творчым жыцці, як найлепшыя, так і небяспечныя. Напрыклад, праблема, пра якую гаварылася шмат і раней, — уплыў Захаду. Увесь час пражыўшы за нябачнай сцяною, мы мелі вельмі слабое ўяўленне пра "закардоннае" жыццё. Таму і здавалася яно прывабным і прыгожым. Так яно і ёсць у тым, што датычыць матэрыяльных умоў існавання. Але ў мастацтве, у мастацкай адукацыі, я ўпэўнены, нам няшмат чаму можна там навучыцца. Мы павінны ісці сваім шляхам, ствараць сваё, нацыянальнае мастацтва. Вядома ж, мяне лёгка абвінаваціць у кансерватызме, тым больш, што я вырас і аб'ектыўна прадстаўляў іншую сістэму, у якой не было месца навамодным плыням. Але ж я, як і раней, буду і цяпер сцвярджаць, што на Захадзе няма сапраўднай мастацкай адукацыі. Заходнія акадэміі на справе ўяўляюць сабою студыі без аніякіх праграм з дазволам рабіць усё, што заўгодна. Таму практыка ўжо паказала, што наш нават досыць сярэдні студэнт на аддзяленні выяўленчага мастацтва, тэатра будзе там глядзецца дастойна. Аб гэтым сведчыць хаця б такі факт. У нашай акадэміі вучыўся адзін студэнт, на факультэце дызайна. Ягоныя бацькі, немцы па нацыянальнасці, з'ехалі ў Германію, натуральна, разам з сынам. Але цяпер хлопец вярнуўся да нас, каб аднавіцца на былым факультэце, праўда цяпер ужо за немалую плату, як грамадзянін замежнай краіны.

Другая справа, калі для далейшага развіцця таленту ў нас няма спрыяльных умоў. Таму і цягнуцца маладыя мастакі на Захад, дзе яны здолеюць забяспечыць сабе матэрыяльныя стасункі для творчасці.

**— Сёння назіраецца моцны ўплыў на нас сучаснага заходняга мастацтва. Моладзь кінулася ў авангард, канцэптуалізм...**

— Але ж паназірайце, што набываюць замежнікі, наведваючы Беларусь. Канцэптуальнае мастацтва? Не, яны шукаюць рэалізм. На вялікі жаль, само слова рэалізм было скажона камуністычнай ідэалогіяй, калі да яго дадалі азначэнне "сацыялістычны". А што, быў яшчэ і капіталістычны рэалізм?

Рэалізм — гэта адпаведнае ўспрыманне свету мастаком. Рэалізм не можа быць ні капіталістычным, ні сацыялістычным, ні бюргерскі, ні асабісты. Ён проста можа быць ці не быць. Некалі Ражэ Гарадзі выключылі з французскай камуністычнай партыі, калі ён абвясціў рэалізм без берагоў. Але ж рэалізм сапраўды адзіны напрамак, які бясконцы ў формах і магчымасцях выяўлення.

У канцэптуальным мастацтве лёгка будаваць рэбусы, але бясконцасць прыналежыць толькі рэалізму. Фаворскі сцвярджаў, што прыдумаць аднаму чалавеку столькі новага (маецца на ўвазе разнастайнасць форм), чым прыдумала прырода за мільёны гадоў, ніхто не здольны. Таму задача мастака — знайсці нешта такое, што не можа ўбачыць другі чалавек і паказаць гэта. А ў авангардзе столькі накірункаў узнікала, а потым хутка і бясследна знікала.

**— Але ж Беларуская акадэмія мастацтваў не схаваецца ад сучасных тэндэнцый. Ды і апошнія абароны дыпломных прац сведчылі, што ў акадэмічныя класы ўсё настойлівей урываюцца новыя формы і новае разуменне творчасці. Маладыя выкладчыкі сваімі работамі толькі падтрымліваюць гэтыя тэндэнцыі.**

— Натуральна, акадэмія не можа і не павінна хавацца за нейкую штучную сцяну. Хаця школа, мабыць, заўжды з'яўляецца кансерватыўнай. Я буду паўтараць зноў і зноў, што справа акадэміі — закласці ў нашых студэнтаў моцны падмурак, выхаваць сапраўднага прафесіянала. І калі наш былы студэнт шукае сябе ў авангардзе, то заўжды бачна, наколькі прафесійна зроблены яго творы ў дачыненні да колеру, кампазіцыі. Гэта далёка не той дылетантызм, які лічыць сябе геніяльнасцю і кампенсуе глядацкае неразуменне работ шматслоўнымі каментарыямі. Ды і каб распілаваць нейкую паедзеную шашалем раму і павесіць яе на сцяну, вучыцца не трэба. Затое Генры Мур, які ў гады майго студэнцтва лічыўся фармалістам, на самай справе з'яўляецца сапраўдным майстрам, прафесіяналам, які прысвяціў сваю творчасць пошукам вобразнай формы. Таму я глыбока ўпэўнены, што задача навучальнай установы — выхаваць прафесіянала. А ўжо якім шляхам пойдзе яго развіццё — справа самой асобы.

Натуральна, што акадэмія адчувае ўплыў сучасных тэндэнцый. Але мы мусім пры гэтым захаваць рамкі мастацкай акадэмічнай адукацыі, дзе студэнт вучыцца рабіць вучэбныя пастаноўкі, маляваць натуру, а ў кампазіцыях можа і пашукаць свой стыль. Згодна гэтаму, акадэмія існуе зараз як бы паміж двума агнямі. З аднаго боку, нас крытыкуюць, што мы губляем акадэмічную адукацыю. Другі ж бок абвінавачвае, што мы кансерватары, трымаем студэнтаў пад прэсінгам, не даём ім творчай свабоды.

Але, як рэктар, я магу сцвердзіць, што мы прытрымліваемся і будзем прытрымлівацца акадэмічнай адукацыі. Зразумела, што пры гэтым мы будзем уносіць пэўныя карэктывы ў навучальны працэс. Мы не можам цяпер спавядаць тое, што і трыццаць год таму, калі вучылася маё пакаленне. Нават калі б мы гэтага хацелі, такое немагчыма. Таму не трэба ламацца ў адчыненыя дзверы.

Мы не маем права дапусціцьператварэння акадэміі ў студыю заходняга ўзору, бо гэта шлях да гібелі прафесійнага мастацтва. Сёння менавіта мастацкія ўстановы былых рэспублік СССР з'яўляюцца сусветнымі заканадаўцамі ў мастацкай адукацыі, гэтак сама як у балетнай, музычнай і г.д. За семдзесят год мы страцілі ў дзяржаве многае, але захавалі мастацкую адукацыю. І я лічу гэта нашым гонарам.

**— Штогод на выставе дыпломнікаў бачыш, як шэраг выдатных майстроў выпускаецца ў свет. І гэта датычыць не толькі мастакоў, скульптараў, ёсць цікавейшыя распрацоўкі дызайнераў, праекты інтэр'ераў, адзення і г.д. Але дзе тыя "пакупнікі", якія мусяць усё гэта спажыць, набыць? Дзе рынак, які адразу вылучыць найлепшых выпускнікоў і забяспечыць ім выдатныя магчымасці для далейшага развіцця?**

— Вось малады творца выходзіць у жыццё. І тут стан грамадства сказваецца на ім непараўнальна больш, чым на мастацкай установе ўвогуле. На жаль, у нас адсутнічае запатрабаванасць у творчых асобах і ў іх творах. Музеі амаль нічога не купляюць, мецэнацтва практычна няма. Падумайце, што застанецца ў нашых музеях ад сённяшняга перыяду? Ці не здарыцца так, што ў будучым мы паедзем глядзець беларускае мастацтва 90-х у Італію, Парыж, Штаты, Германію? Бо сёння востра стаіць праблема, што многія творчыя калектывы, дзеячы культуры, вучоныя застаюцца на Захадзе.

**— Калі заходзіш у прыёмную рэктара, бачыш бясконцую чаргу людзей, прычым пытанні, з якімі яны прыйшлі, часта дробязныя, гаспадарчыя. Дык хто такі рэктар? Творчая асоба, творчы кіраўнік творчай установы альбо гаспадарчы работнік? Няўжо жыццё паставіла рэктара ва ўмовы, калі ён мусіць займацца ўсімі гэтымі дробнымі праблемамі, а не арганізацыяй мастацкага працэсу — агульнай палітыкай сваёй маленькай дзяржавы?**

— І тое, і другое, і трэцяе. Па-першае, у нашым навучальным працэсе, які ў асноўным будуецца на практычнай рабоце, дробязяў няма. Але я з вамі згодзен, што сённяшнія ўмовы існавання сапраўды ператварылі рэктара ў пэўнай меры ў загадчыка гаспадаркі, хоць ён прызначаны займацца стратэгіяй, тактыкай выхавання сапраўдных прафесіяналаў у мастацтве. І такое становішча характэрна не толькі для нашай акадэміі. Галоўная задача рэктара сёння — утрымаць установу. Напрыклад, такое балючае пытанне, як кадры. Нягледзячы на нізкія зарплаты, прафесарска-выкладчыцкі склад акадэміі апошнім часам стабілізаваўся, значна амаладзіўся. Новыя выкладчыкі ўжо паспелі набрацца вопыту. Але, акрамя гэтага, для функцыянавання такога складанейшага арганізма, як вышэйшая навучальная ўстанова, неабходна і навучальна-дапаможны, і адміністрацыйна-гаспадарчы персанал. Як затрымаць на працы выдатнага навучальнага майстра, калі яго заробак мізэрны? А лабаранты, сантэхнікі, электрыкі і іншыя? Вось і займаецца рэктар калейдаскопам прыняццяў на прцу і звальненняў, што стварае ў калектыве нестабільнасць і дадатковыя цяжкасці.

А ўзяць матэрыяльнае забеспячэнне. Так, на сённяшнім рынку можна набыць усё. Але дзе ўзяць на гэта грашы? Вось і даводзіцца залатваць дзіркі. Увесь час мы жывём у пазыку. Што казаць, калі нам сёння пагражаюць адключыць ваду, заўтра — тэлефон, а паслязаўтра — усё астатняе. Пагражаюць адабраць майстэрні для жывапісцаў на праспекце Скарыны, калі мы не выплацім арэндную плату. І многія такія пытанні не можа вырашыць ніхто, акрамя рэктара. Таму і працоўны дзень расцягваецца да позняга вечара. Калі ж тут спыніцца, падумаць, папрацаваць на творчай ніве.

**— Вы адзін з першых рэктараў, што былі выбраны на гэтую пасаду калектывам, і гэта сведчыць пра вялікі давер вам з яго боку. Але я ўяўляю, як складана творчаму чалавеку перайсці на пасаду, якая вымагае амаль усіх ягоных сіл, часу, без надзеі паралельна займацца творчасцю. Падаецца мне, гэта была вялікая ахвяра — пакласці на алтар агульнай справы асабістую творчасць.**

— Сапраўды, падчас дэмакратычнай хвалі яшчэ ўсесаюзным камітэтам па народнай адукацыі была прынята пастанова, згодна з якой рэктары не прызначаліся, а выбіраліся калектывамі. І калі я сам быў абраны рэктарам, то выдатна ўсведамляў, што мушу адмовіцца ад ранейшай актыўнай творчай працы. Часу на гэта проста не будзе хапаць. Так яно і здарылася.

Ці шкадую пра тую ахвяру, пра якую вы

*(Працяг на стар. 12)*

# І ВОСЕННЮ "БЕЛЫ НАЛІЎ" ДАСПАДОБЫ

**"Белы наліў" — назва кнігі паэзіі Івана Карэнды, намесніка міністра культуры і друку Рэспублікі Беларусь і, само сабою, паэта. Дарэчы, пабачыў свет гэты зборнік зусім не ў дзяржаўным выдавецтве. Прэзентацыя "Белага наліва" адбылася нядаўна ў Мінскай абласной бібліятэцы імя А. С. Пушкіна. На сустрэчу з аўтарам і з яго паэзіяй сабраліся чытачы, сябры.**

**Перад прысутнымі выступілі намеснік дырэктара бібліятэкі Н. Чуева, С. Законнікаў, В. Блакіт, А. Пісьмянкоў, В. Іпатава, якія адзначалі плённасць паэтычных пошукаў І. Карэнды, а М. Скобла выкарыстаў магчымасць і пазнаёміў з пародыяй на віноўніка ўрачыстасці.**

**Дзе паэзія — там і песня. Не была парушана традыцыя і гэтым разам: песні на вершы І. Карэнды выканаў кампазітар А. Чыркун, а таксама ансамбль "Мінскі гармонік".**

**Выступіў і сам І. Карэнда.**

**Н. К.**

# ПАМЯЦІ ЯСЕНІНА

**100-годдзю з дня нараджэння выдатнага рускага паэта Сяргея Ясеніна была прысвечана вечарына ў Доме дружбы ў Мінску. Аб жыцці і творчасці яго гаварылі паэтэса Раіса Баравікова, пасол Расіі ў Беларусі Ігар Сапрыкін, народныя артысты рэспублікі Марыя Захарэвіч, Генадзь Гарбук, вядомы кінаакцёр Уладзімір Гасцюхін і іншыя. Цёпла прынялі прысутныя вершы М. Ткачова пра С. Ясеніна.**

**П. ГАРДЗІЕНКА**

# АДНОЎЛЕНАЯ ТРАДЫЦЫЯ

**У 60-ых гадах у тады яшчэ Гродзенскім педінстытуце імя Янкі Купалы была добрая традыцыя — правядзенне Купалаўскіх чытанняў. Зараз, у год юбілейны — 80-годдзя пачатку творчай дзейнасці і 70-годдзя прысваення звання народнага паэта, — у Гродзенскім дзяржуніверсітэце былая традыцыя адноўлена. 4—5 кастрычніка тут адбылася навуковая канферэнцыя — Купалаўскія чытанні, якія мяркуецца зрабіць штогадовымі.**

**Як на сённяшні дзень, дык канферэнцыя была даволі прадстаўнічай. З Польшчы прыехаў вядомы пісьменнік, публіцыст, літаратуразнаўца Сакрат Яновіч. Ягоны даклад "Канец Купалавай уявы нацыі" выклікаў надзвычайную цікавасць ва ўдзельнікаў канферэнцыі. Белдзяржуніверсітэт быў прадстаўлены вядомым літаратуразнаўцам К. Хромчанкам і маладым даследчыкам П. Навойчыкам, даклад якога "Янка Купала і "Наша Ніва" ўзняў шэраг дыскусійных пытанняў у сувязі з роляй паэта ў існаванні гэтай газеты. З цікавымі дакладамі выступілі навукоўцы з Інстытута літаратуры АН Беларусі М. Мікуліч і Д. Санюк. Брэсцкі педуніверсітэт прадстаўлялі Ц. Ліякумовіч і Г. Праневіч, апошні зрабіў цікавую спробу рэабілітацыі "Ляўкоўскага цыкла" і "культаўскіх" вершаў Купалы.**

**Натуральна, не засталіся ўбаку і гаспадары канферэнцыі — навукоўцы Гародні. Прафесар А. Пяткевіч гаварыў пра паэзію Купалы як пра нацыянальную духоўную каштоўнасць, дацэнт К. Лецка — пра рамантызм Купалы ў ацэнцы С. Палуяна і М. Багдановіча. Даклад І. Жука "У перакрэсці гісторыі" вызначыўся своеасаблівым поглядам і характэрнай для даследчыка арыгінальнасцю пры аналізе крытычнай думкі тых гадоў адносна п'есы "Тутэйшыя". Незвычайным па сваім змесце быў даклад літаратуразнаўцы і паэта Ю. Пацюпы, прысвечаны эратычным матывам у ранняй творчасці Янкі Купалы і Максіма Багдановіча.**

**Прыемна ўражвае і тое, што творчасцю Купалы пачалі займацца і прадстаўнікі дакладных навук, у тым ліку доктар тэхнічных навук А. Саламонаў.**

**Цудоўнае надвор'е, змястоўная экскурсія па горадзе і ў музей М. Багдановіча, спадзяёмся, спрыялі найлепшым уражанням удзельнікаў канферэнцыі, што прыехалі ў старажытную Гародню.**

**А. ПЕТРУШКЕВІЧ**

Крытыка

# ПАД АПЯКУНСТВАМ НЯБЁСАЎ

Беларускі паэт — як муэдзін на спічаку высачэзнага мінарэта. І да неба блізка, і сэрца млее ад вольнага птушынага палёту, а рэха няма. Як ні высільвайся ў паэтычнай казані, як ні старайся быць пачутым і зразуметым — няма рэха. Бо словы паэта патанаюць у навакольнай прасторы, не маючы ад чаго адбіцца, каб вярнуцца змененым да непазнавальнасці, але ўсё ж такі **вод-гукам.** Няўдзячнае неба глытае просьбы й грозьбы паэтаў моўчкі.

Альбэр Камю ў эсэ "Міф пра Сізіфа" згадвае літаратара, які, напісаўшы першую кнігу, стаў самазабойцам, жадаючы прыцягнуць да сваёй паэзіі ўвагу людзей. Сённяшнія "бумбамлітаўцы" абралі менш трагічны шлях і, напісаўшы новы твор, імпэтна грукаюць у тазік. І калі апошнія самаахвярна вераць у свае сілы, у моц тазіка і ў тое, што ледзь не кожны прамоўлены або выбіты з беларускага нацыянальнага тамтама гук ёсць безумоўны складнік літаратуры, калі дапусціць, што згаданы ў "Міфе пра Сізіфа" літаратар верыў у рэінкарнацыю (а, значыць, смерць уяўлялася для яго рэччу звычайнай), то ў што верыць той, набліжаны да неба паэт, безнадзейна насычаючы пустэльню вакол сябе сваёй энергіяй? Што чакае яго пад ганаровым, але безуважным апякунствам нябёсаў?..

Вершы Эдуарда Акуліна, ігнаруючы мудрае выслоўе "чым бліжэй да сонца, тым халадней", жывуць у палёце. То прымасціўшыся на крылах паважных птушак (верш "А буслы белы гонар маюць..."), то ўзнёсшыся на вежы касцёла ў Ішкалдзі, то назіраючы, як "спалі з тонкіх шыяў шпіляў птушыныя каралі" (цудоўны вобраз!). Бессюжэтныя, неабцяжараныя вялікім аб'ёмам, яны выпісаны лёгкім пяром. Ім не расплёсквацца ў чашах стадыёнаў, не страсаць долу люстры ў высокіх залах. І тут не месца папрокам, бо гэта паэзія іншага кшталту. Такую паэзію любяць закаханыя, у ёй цнота пачуццяў спалучаецца з набліжэннем-спазнаннем, якое, аднак, не прыніжае, не засмечвае адносіны. Натура застаецца чыстай.

**Па меры таго, як памалу**
**з глыбі яна йшла на мель,**
**я бачыў: ад футарала**
**вызвалялася віяланчэль.**

З лепшых лірычных вершаў Э. Акуліна можна скласці цэлую анталогію. Там, дзе шчырасць перажыванняў ураўнаважваецца смелай арыгінальнай вобразнасцю, паэта, як правіла, чакае поспех. Не заўсёды ўдача ягоная навідавоку, яе трэба ўмець заўважыць, пачуць. А пугу як ні складвай, смычок для скрыпкі з яе наўрад ці атрымаецца.

Рэцэнзія Ф.Яфімава на зборнік паэзіі Э.Акуліна — менавіта пагладжванне пугай. Прыгадайма асноўныя грахі паэта паводле спадара Яфімава: 1) апрабаванне новых для беларускай паэзіі паэтычных формаў, якія крытык чамусьці называе архаічнымі; 2) залішняя складанасць і перанаселенасць асобных вершаў, паколькі шаноўны крытык не ўважае сябе за гурмана й любіць рыбу, якую "можна есці без перашкод"; 3) мастацкім вобразам паэта бракуе лагічнасці; 4) паэту не варта выконваць песні на свае вершы пад гітару і г. д.

Пра новыя формы. Не бяруся сцвярджаць, што ўсе ронды, актавы, тэрцыны й трыялеты Э. Акуліна бездакорныя, але само імкненне паэта пашырыць абсягі беларускай паэзіі заслугоўвае павагі. Як і класічныя спробы М. Багдановіча перасадзіць на беларускую глебу экзатычныя дрэўцы з заходнееўрапейскага паэтычнага саду. Навошта Максіму-кніжніку спатрэбілася гэтая працаёмкая справа, калі і ў той час асобныя з нашаніўскіх мэтраў, і амаль стагоддзе пасля сп. Яфімаў даводзяць марнасць і непатрэбшчыну падобных заняткаў (як зазначае сучасны крытык, "яны — як вышыванне па канве")? Калі пагадзіцца з такой логікай, то ўсю сусветную паэзію варта прызнаць за гэткае "вышыванне па канве", паколькі сапраўды новыя формы паэтамі вынаходзяцца далёка не кожны дзень. Што датычыць беларускіх творцаў, то яны ўвогуле ў святле разважанняў сп. Яфімава павінны выглядаць канчатковымі "форменнымі канфармістамі", бо дзесятак-другі відаў верша, што імі бязлітасна эксплуатуецца на працягу дзесяцігоддзяў, ужо нават не канву нагадвае, а разбітую каляіну, па якой, ляскочучы, сунецца воз за возам. Некаторым даследчыкам, зрэшты, заманулася абвясціць нацыянальным вершам элегію; маўляў, ціхмяным бязвольным беларусам яна акурат дарэчы, як торба жабраку. Але ж і элегія — парастак з чужога саду (дарма, што добра прыжыўся). Калі ўжо вельмі хочацца нацыянальных форм... — папрасіце Алеся Сцяпанавіча Разанава, ён прыдумае. І гэта будзе сапраўды наша-роднае-беларускае. А тое, што сп. Яфімаў чуць не чуў пра туюгі і не ведае, як да іх падступіцца, вялікага гонару яму як крытыку не робіць. Адна надзея, што ў наступным выданні "Паэтычнага слоўніка" В. П. Рагойшы з'явіцца вычарпальнае тлумачэнне гэтага экзатычнага чатырохрадкоўя са спасылкай на туюгі Э. Акуліна.

Пра залішнюю складанасць. Уявім сабе, што кожны беларускі паэт скарыстаў з парад сп. Яфімава і над сваім ложкам павесіў выслоўе М. Хайдэгера: "Прастата — вось адвечная тайна вялікасці". А паколькі ці не ўсе паэты мараць стаць вялікімі, альбо хаця б народнымі, то кожны не адмовіцца "папрасцець". І будзем мы зноў паперадзе планеты ўсёй — па простасці сваёй і даходлівасці. Аднаго я не ўцямлю, дзе тыя архіскладаныя паэты на Беларусі, творы якіх трэба разгадваць як шарады? Выхо-дзіла нязвыклая для беларускага чытача кніга А. Разанава "Шлях-360", дык П. Панчанка ў прадмове, а В. Бечык у пасляслоўі ўсё растлумачылі. А каментарый да джойсаўскага "Уліса" склаў больш за паўтысячы старонак! Не, хай ангельцы спрашчаюцца, беларусам можна й пачакаць. Што да складанасці вершаў Э. Акуліна... Любы аматар паэзіі, які ўмее чытаць па-беларуску, знойдзе іх зразумелымі. Паэт свядома працуе ў традыцыйным кірунку, і калі замест мудрошчаў заходняга філосафа паспрабаваць працытаваць што-небудзь адпаведнае з усходніх класікаў, то вельмі дарэчным у характарыстыцы Э. Акуліна выглядацьме са школьнай лаўкі знаёмае: "просты, як праўда".

Пра лагічнасць мастацкага вобраза. На універсітэцкім іспыце па логіцы мне выпала маляваць лагічны квадрат і тлумачыць яго будову. Намаляваўшы й адрапартаваўшы, я атрымаў заданне на кемлівасць: прыдумаць прыклад лагічнай высновы. "Воўк драпежнік, — асцярожна пачаў я. — Наш дэкан — Воўк. Адсюль вынікае: наш дэкан — драпежнік". Мае філалагічна-лагічныя адкрыцці не дазволілі мне атрымаць выдатную адзнаку, і з той пары я запомніў, што логіка — пані падступная. Тлумачыць паэзію, распінаючы яе на лагічным квадраце, не гуманна і наўрад ці прадукцыйна. Сп. Яфімаў не знаходзіць лагічнасці ў радках Э. Акуліна:

**Забяры мяне ў неба, маланка!**
**І хоць шчасце з табою — на міг...**
**Я клянуся быць шчырым каханкам**
**У пякельных абдымках тваіх...**

Далей паважаны крытык выбудоўвае цэлы ланцужок здагадак, спрабуючы дасканальна ўявіць створаную паэтам замалёўку. Цікава, якія сюррэалістычныя карціны апанавалі б сп. Яфімава, калі б ён паспрабаваў уявіць сабе радок А. Блока: "О Русь моя, жена моя..."

Пра паэта-выканаўцу. Тое, што вершатворца (не мае значэння, Лорка ці Акулін) адчувае патрэбу ўзяць у рукі гітару, ёсць цалкам нармальнае з'явішча. І хоць музыку паэт Верлен паставіў вышэй за ўсё, паэзія не згодная на ролю падчаркі. Дзве сястры-ганарліўкі, кожная сама па сабе боскасць і гармонія, імкнуцца да вышэйшага паяднання. І гэты жанр, больш старажытны, чым каменны саркафаг у Тураўскім музеі, заслугоўвае найсур'ёзных да сябе адносін. Нездарма ў слове **бард** чуцен водгук **арт**, што, як вядома, азначае мастацтва. Каб нейкім чынам узгадаць прадмет гаворкі, заўважым, што само імя Эдуард тоіць у сабе нешта падобнае. Ведаю не адзін дзесятак шчырых прыхільнікаў аўтарскіх песень Э. Акуліна. Не экзальтаваных дзяўчатак-паклонніц, якія жыць не могуць без кахання — з прыдыханнем пад даступныя кожнаму пяціпаламу тры акорды, а людзей сур'ёзных, сталых, абазнаных. Ведаю, што студыйны запіс песень Э. Акуліна імгненна разышоўся па ўсёй Беларусі, прынёсшы аўтару заслужаную вядомасць.

Кнігу "Крыло анёла" сп. Яфімаў двойчы называе вучнёўскай, паблажліва ківаючы на малады век аўтара. Што ж, дай Бог майстрам-дзядам гэткіх свежых і паўнаважкіх радкоў, якія ў зборнік Э. Акуліна, відно, трапілі невыпадкова:

**Завостраны позірк косаў**
**зарэчны лужок абраў,**
**дзе белае срэбра росаў**
**апраўлена ў зелень траў**
**.....................................**
**У супольнасці з Сусветам**
**бусел, шчыры служка Бога,**

Часопісы

# А ЖАНРЫ САМЫЯ РОЗНЫЯ...

Па традыцыі вераснёўская кніжка "Полымя" адкрываецца новымі вершамі М.Танка. Цяпер ужо апошнімі. Вядома, сёе-тое з неапублікаванага яшчэ з цягам часу прыйдзе да чытача, ды гэта будуць, як кажуць, пасмяротныя публікацыі. Тут жа вершы размешчаны ў такой паслядоўнасці, як таго хацеў Яўген Іванавіч — па меры іх напісання.

І па колькасці твораў у нізцы, і па тым, што нараджаліся яны куды радзей, чым дагэтуль, відаць: як паэту ў апошнія месяцы жыцця пісалася цяжэй, чым раней.

Безумоўна, высокая культура пісьма — навідавоку. Ды і мастакоўская планка трымаецца вельмі высока. І ўсё ж, усё ж... Адно, калі гэта голас нашага сучасніка. І куды іншае — калі за кожным радком, ды і, бадай, словам, імкнешся знайсці, адшукаць тое, што засталося па-за творам.

Для прыкладу верш "Прасвет", пісаны 10 мая мінулага, 1994 года:

**Ну, як з табой памілавацца?**
**У мерзлым віленскім пакойчыку**
**Сядзіць ля грубкі твая маці**
**Са сваім неадлучным коцікам**
**І пераматвае пражу,**
**Як Пенелопа,**
**вяжа,**
**вяжа...**
**— Глянь, Лю, мароз крапчае хіба,**
**Замаляваў акно малюнкамі...**
**І мы адграваем на шыбе**
**Прасвет сваімі пацалункамі.**

Несумненна: шмат, вельмі шмат адольвала Яўгена Іванавіча думак гэтым разам. Разважаў, не мог не задумацца над хуткаплыннасцю жыцця і яго вечнай загадкай. І на самай справе, ці не дзіўна? Чалавек даўно сівы, а мама застаецца для яго мамай. А каханне, калі яно, безумоўна, КАХАННЕ, ніколі не страчвае колішняй пяшчоты, шчырасці, даверлівасці і цнатлівасці.

А пра маму думалася ўсё часцей. Сведчанне таму і верш "Партрэт маці", напісаны па-танкаўску філасофскі мудра, разважліва: "Рэстаўратара знаёмага ўпрасіў я //Аднавіць даўнейшы партрэт маці.// І яму, прызнаюся, ўдалося //Выявіць маршчыны ўсе на твары,// Зноў вярнуць вачам далёкабачнасць,// Цеплыню яе засмяглым вуснам,// Бель ускінутай на галаву хусцінкі,// Ажывіць паскручаныя жылы// На руках сашчэпленых, скаржэлых..."

Але "ўвесь" верш, канечне ж, у заключных радках:

**Аж не верыцца мне ў гэта дзіва,**
**Мо таму, што зрок мой засцяць слёзы...**

Пра маму думалася паэту. Пра маму і дзяцей... Новыя вершы, адрасаваныя ім, ёсць і ў гэтай падборцы. Дарэчы, творам для маленькіх, а калі канкрэтна, то невялікай казкай "Вожык" яна і завяршаецца. Казка датавана: "20 мая 1995 года". Папярэдні твор напісаўся яшчэ 12 снежня 1994-га... Пяро ўжо не слухалася так, як раней... А пісаць проста дзеля таго, каб пісаць, ён не мог. Таму і не рабіў гэта, як кажуць, пад прымусам. А браўся за пяро тады, калі адчуваў, што ёсць што сказаць.

Пра іншыя публікацыі вераснёўскіх нумароў — таго ж "Полымя", а таксама "Маладосці", якія на фоне іншых асабліва вылучаюцца шэрагам цікавых і значных матэрыялаў, давядзецца гаварыць куды карацей, у нейкай ступені — эскізна, пра самае галоўнае... Той, хто паспеў пазнаёміцца з новай аповесцю В.Казько "Прахожы", відаць, пагодзіцца, што гэты твор з шэрагу, якія не пакідаюць абыякавым. І пастаноўкай значных праблем, і іх мастацкім вырашэннем. В.Казько апошнім часам у сваёй прозе рэальнае сумяшчае з фантастычным, сапраўднае з міфічным. У гэтым кірунку ён ідзе і ў аповесці "Прахожы". Прытым яшчэ больш "знітоўвае" самыя розныя часавыя пласты. А ўсё дзеля таго, каб прымусіць задумацца, як жывём мы і што чакае нас наперадзе.

У жанры фантастыкі паспрабаваў сябе і П.Місько (апавяданне "Востраў "Мёртвая галава" ў "Маладосці"). Хоць пачатак гэтаму трэба шукаць у яго творах для дзяцей, прынамсі, у добравядомым рамане "Грот афаліны", у якім шмат выдумкі, нечаканых сюжэтных хадоў і разам з тым уздымаюцца самыя што ні ёсць зямныя праблемы. Як, дарэчы, і ў апавяданні. А.Кірвель таксама, як сведчыць вызначэнне жанру яго новага твора "Апошняя песня" — "аповесць-мроя" ("Маладосць")гатовы даць шырокую прастору фантазіі. Аднак у рамках гэтага жанру.

**адпусціў грахі ўсе Лету**
**з купала рудога стога**

**......................................**

**Восень прыйшла знянацку,**
**як тэлеграма ноччу.**

**......................................**

**Агонь зрабіўся трэцім лішнім**
**і ўжо саромеўся гарэць.**

Раней усеагульна прызнаным лічыўся паэт, чый верш цытаваўся ў дакладзе высокага начальства з нагоды якое-небудзь слаўнае даты. Творцу віншавалі, як імянінніка, сябры-літаратары, імя паэта трапляла на першыя старонкі вялікіх газет. Чытачы павінны былі пераканацца, што беларускія пісьменнікі не дарма ядуць хлеб і што іхнія думы дапамагаюць высокаму начальству кіраваць дзяржавай. Апошні такі выпадак, здаецца, быў, калі Старшыня Вярхоўнага Савета М. Грыб гады два таму узгадаў у сваім пасланні да паспалітага люду верш Максіма Танка. Э. Акуліну шанцуе мо трохі менш, ніводзін высокі начальнік пакуль не дабраў часу зазірнуць у ягоныя кнігі. Але разоў колькі мне прыходзілася быць відавочцам, як шырока разышліся ў народзе вершы Э. Акуліна.

У адным паважным застоллі, прымеркаваным да святочных угодкаў (ці як з гонарам кажуць і пішуць беларусы на эміграцыі — на ўрачыстай акадэміі) паднялася жанчына, якую паводле газеты "Свабода" баіцца бясстрашны беларускі прэзідэнт, і, гаворачы пра чысціню беларускай душы, прачытала на памяць верш Акуліна:

**А буслы белы гонар маюць...**
**У гняздо не кладзіце хлеба.**
**Птушкі гэтыя не паміраюць,**
**іх сабе забірае неба.**

**На змярканні над роснай пожняй**
**высакосны свой круг азначаць.**
**І найменне яму — апошні,**
**і ніхто болей іх не ўбачыць.**

А неяк, едучы па рэдкай цяпер брукаванцы Дзярэчын-Зэльва, я быў нямала ўражаны, як кіроўца, галоўны інжынер мясцовага калгаса, галава якога, здавалася б, павінна быць заклапочана чымсьці іншым, "с чувством, с толком, с расстановкой", як быццам у БІМСХ (Беларускім Інстытуце Малаграматных Сельскіх Хлопцаў — так жартоўна расшыфроўвалася гэтая абрэвіятура) вывучаў рыторыку, а не якія-небудзь трансмісіі, прадэкламаваў невядома дзе вычытаныя ім радкі:

**... Максім, не вяртайся з далёкае Ялты —**
**цябе не пазнае тутэйшы народ.**

Праўда, пакуль нас трэсла й падкідвала ў парожнім уазіку, які імкліва ўзлятаў на пагоркі, я ўчыніў свайму спадарожніку допыт і выведаў, што, апрача верша пра Максіма, ён ведае на памяць яшчэ два шэдэўры сучаснай беларускай паэзіі — дзве ананімныя паэмы "Сказ пра Лысую гару" й "Лука Мудзішчаў-прэзідэнт". У чым я тут жа меў магчымасць пераканацца. Даведаўшыся, што аўтар верша пра Багдановіча яшчэ жыве й вымушаны па абвязку службы час ад часу абкошваць тупою касою музей вялікага паэта, галоўны інжынер праз некалькі тыдняў спецыяльна наведаўся ў сталіцу, каб пазнаёміцца з паэтам Акуліным, і прывёз навюткую, насаджаную па усіх правілах і пакляпаную касу..

Я ўжо згадваў пра неабыякавасць Э. Акуліна да класічных кароткіх формаў. Практыкаванні па перaагучванні іх на беларускі лад пайшлі на карысць паэту. Ён звыкся выказвацца сцісла, часам кароцячы верш на самай строме — чытач, як гарналыжнік, здзіўлена азіраецца навокал: дзе б прызямліцца. Зрэдку паэт, захапіўшыся скарачэннем радкоў, пачынае караціць словы, у выніку чаго з'яўляюцца слоўкі, накшталт спадарлівы (сейбіт), сяродку, цалунак, крыёма... Маўляў, і без прыставак га-і па- можна дапяць, што да чаго. Праўда, Э. Акулін з поспехам даказаў, што і эпічны размах яму падуладны: славуты санет М. Багдановіча "Паміж пяскоў Егіпецкай зямлі..." быў ператвораны ім у акрапаэму. Факт беспрэцэдэнтны ў гісторыі беларускай літаратуры, калі не лічыць працяг "Паўлінкі", ажыццёўлены Ф. Аляхновічам. І калі Купала, кажуць, не крыўдзіўся на свайго авантурнага калегу, то Багдановічу на захавальніка сваёй памяці ківаць пальцам тым больш не выпадае.

...Ад таго часу, калі ўпершыню напаткаў я вершы Э. Акуліна на старонках "Маладосці", мінула болей за дзесяць гадоў. Але і сёння памятаецца чатырохрадкоўе з тае падборкі, прысвечанае Радзіме:

**Той, хто душой парожні,**
**перад табою вінны.**
**Бусел распяты над пожняй —**
**гаючыя успаміны...**

За дзесяць гадоў паэтам напісана нямала: вершы (і для маленькіх чытачоў таксама), паэмы, песні, пародыі... Выйшла дзве кнігі. Яшчэ ўсё жыццё наперадзе, але ўжо ўдакладнены, падкарэктаваны безапеляцыйны лацінскі афарызм: ira facel poelam (гнеў спараджае паэта). Не толькі гнеў, але й ціхі одум "перад высокаю красою". І пацвярджаюць гэта спакойныя, разважлівыя вершы Э. Акуліна без трубадурскіх лямантаў і назойлівых клічнікаў.

**Міхась СКОБЛА**

## АД АДДЗЕЛА КРЫТЫКІ І БІБЛІЯГРАФІІ

Няўдзячная гэта справа — падводзіць рысу пад спантаннай дыскусіяй, але і ўхіляцца ад яе не выпадае. Паэт Скобла тонка і праніклівa адчувае паэта Акуліна. Не пагадзіўшыся з рэцэнзіяй на кнігу "Крыло анёла" (гл. "ЛіМ" за 15 верасня), ён абараняе яго літаральна па ўсіх пазіцыях. Аднак у палемічным запале ці не перабірае меру.

Найперш адносна папроку Фёдара Яфімава ў залішняй складанасці вобразаў Эдуарда Акуліна. Відаць, крытык меў на ўвазе не столькі складанасць, колькі **ўцямнасць**, пра што сведчыць і наступны сказ: "За недакладнасцю радка (...) паўстае недакладнасць думкі". Пры гарманічнай паяднанасці таленту і паэтычнага майстэрства пытанняў, падобным тым, што задае рэцэнзент, проста не ўзнікае. Значыцца, тут выпадак іншы.

Ці варта ў наш час паўтараць паэтычныя эксперыменты пачатку стагоддзя — зноў жа пытанне не з самых простых і адназначных, адказы на яго могуць быць рознымі.

І нарэшце мы так і не змаглі адшукаць тое месца ў рэцэнзіі Ф. Яфімава, дзе ён нібыта дакарае маладога паэта за спяванне сваіх вершаў пад гітару.

Каб і нам не кінуцца ў крайнасць, спынімся і дазволім самім чытачам рабіць канчатковыя высновы, на чыім баку ісціна. Звычайна ў такіх выпадках яна бывае пасярод.

**Г. К.**

У "Маладосці" друкуецца іновая аповесць Л.Левановіча "Узяць пад варту ў зале". Галоўны герой яе "Аляксей Сарока — адстаўны падпалкоўнік, служыў на Далёкім Усходзе, у Германіі, ваяваў у Афганістане, быў там паранены, звольніўся ў запас, і пацягнула яго на радзіму, у Беларусь. Выбраў для жыхарства, Мінск, а родам ён быў з Магілёўшчыны".

Ды не колішняе Сарокі важна (хоць, па праўдзе кажучы, яно не можа не ўплываць і на яго погляды, і на яго паводзіны). Сарока паўстае як народны засядацель. Праўда, тых, хто чакае ў творы разгляду нейкіх гучных спраў, мусім адразу расчараваць — іх няма. А разглядаюцца самыя што ні ёсць будзённыя. Тым не менш, акурат гэтая "будзённасць", звыкласць, прымушае і галоўнага героя твора інакш паглядзець на самога сябе і паспрабаваць разабрацца, ці так жыве ён, як трэба, ці ўсё ладзіцца ў яго асабістым жыцці.

Якраз гэтая ярка выражаная падсветка і надае аповесці Л.Левановіча тую роздумнасць, засяроджанасць на важных аспектах сучаснага жыцця, што вынікае не з разгорнутых (і часта зусім не да месца) публіцыстычных разваг аўтараў, а з унутранай напоўненасці важкай маральнай праблематыкай. Пісьменнік праз пазіцыю галоўнага героя асуджае бездухоўнасць, але ён жа і не збіраецца даваць гатовыя рэцэпты. Усё, як у самім жыцці. З той толькі розніцай, што аўтар праўдзіва і пераканаўча паказвае мэтазгоднасць менавіта такіх, а не іншых паводзін Сарокі.

Пра заняпад апавядання як жанру, які, калі верыць асобным крытыкам, зноў падсцерагае нашу літаратуру, забываеш, калі знаёмішся з "Полымем". Гэтым разам "малы жанр" прадстаўляюць М.Даніленка ("Каласавікі"), А.Кажадуб ("Каланіяльны тавар", "Страха камуніста"), А.Жук ("Душа пад чыстым полем"). М.Даніленка і А.Жук, зразумела, больш схільны да традыцыйнасці матываў, А.Кажадуб жа бярэ самую што ні ёсць сучаснасць. І пры гэтым не абыходзіцца без гумару.

Шырока прадстаўлена і паэзія. У "Полымі", акрамя М.Танка, выступае А.Пісарык, а ў "Маладосці" — С.Лапіцкая, М.Кудласевіч, С.Каробкіна, К.Камейша, П.Пруднікаў, С.Чыгрын.

З публіцыстычных матэрыялаў, хацелася б, каб чытачы не прамінулі артыкул М.Бандарэнкі "Войска гаварыла па-беларуску", апублікаваны ў " Полымі". Яшчэ адно вяртанне ў часы беларусізацыі. Вяртанне, якое сёння зноў патрэбна, як ніколі... Пра тое, якім было тады войска, нагадаць не лішне, працытаваўшы хоць бы гэты невялікі ўрывак з артыкула М.Бандарэнкі: "У дваццатыя гады ў вайскоўцаў былі і свая беларуская газета, і свой беларускі часопіс. Жыццё беларускіх вайсковых часцей рэгулярна асвятляла беларускамоўная "Чырвонаармейская праўда", што выходзіла з 1929 года як газета палітычнай управы БВА два разы на тыдзень у якасці дадатка да "Красноармейской правды", а з 1931 года як штодзённая газета РВС БВА. У акруговай газеце "Чырвонаармейская праўда" змяшчаўся асобны "куток беларуса". Спецыяльная рубрыка прысвячалася непасрэдна беларусізацыі ў вайсковых часцях. "Лісток беларускай міліцыйнай дывізіі" быў у газеце "Савецкая Беларусь". У Аб'яднанай Беларускай вайсковай школе імя ЦВК БССР выдавалася шматтыражка "Чырвоны сцяг".

Каментарыі непатрэбны...

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

# НЕАЦЭННЫ НАБЫТАК

Лісты аднаго чалавека да другога... Таямніца, інтымная справа. Чаму ж тады без сарамлівасці, а з радасцю і з захапленнем чытаюцца набраныя шрыфтам радкі, якія былі напісаныя ад рукі, закладзеныя ў канверт з выведзеным канкрэтным адрасам і прозвішчам?

Таму што аўтар іх — Ларыса Геніюш, а адрасат — Максім Танк ("Полымя", N 8). Але не толькі слаўныя імёны пайшоўшых ад нас людзей прыцягваюць чытацкую ўвагу. Перш за ўсё змест, пульсуючая думка, гарачае пачуццё. І столькі ўсяго вартага, глыбокага, цікавага паўстае з іх, што рэдка які мастацкі твор здолее перадаць.

Далёка не роўнае становішча было ва ўдзельнікаў гэтай перапіскі. Максім Танк — прызнаны паэт, дзяржаўны дзеяч, кіраўнік творчага саюза, а Ларыса Антонаўна — апальная зэльвянка, пазбаўленая шмат якіх звычайных чалавечых і грамадзянскіх правоў. Але не скаргі на ўласны лёс, не просьбы і хадайніцтвы пераважаюць у яе лістах, а клопат пра родную літаратуру, пра Беларусь, пра людзей.

"Мне здаецца, што ў нашай літаратуры побач з іншым трэба развіваць, падкрэсліваць шляхотныя рысы беларускасці як: працавітасць, дабрата, саліднасць, мужнасць і г. д. — тварыць добрых і чэсных людзей...", — піша Ларыса Геніюш 14.12.1966 г. Шкада, што мала хто ведаў пра ейныя словы тады з яе сучаснікаў, добра, што чытаем гэта сёння мы.

Або як не працытаваць радкі з другога лістападаўскага ліста таго ж, 1966 года: "Цешуся, што павялічылася падпіска на "Полымя". Мне хочацца, каб столькі людзей на яго падпісалася, колькі было, у свой час, грамадаўцаў. Трэба ліквідаваць прычыны, дзеля якіх яно не пашыраецца, варушыць мову, мову і яшчэ раз мову..."

З лістоў Бабулі, як называлі яе сябры, паўстае не толькі дбайца пра родную культуру, мужны і нязломны чалавек, паўстае Жанчына — тонкая і разумная, пяшчотная і эмацыянальная, якая захавала нягледзячы ні на што і тонкі гумар, і дабрыню, і мяккую маладую прывабнасць. Ва ўспамінах пра дзяцінства і маладосць, у згадках пра рэдкія сустрэчы раптам нібыта выгляне гарэзлівая юная ўсмешка: "Я, як сіротка, бабіна ўнучка... выбіраю сабе моркавачку, брудная, як Сорка Янкелева, і раптам з'яўляецца прынц, зусім сапраўдны і цягне мяне ў "Сьвет". О, казачны прынц, ці вартыя гэтага мае скромныя вершы, якімі я Вам ужо прывыкла надакучаць?.."

Або такая тонкая і шчырая чуласць: "Толькі адносьцеся з належнай пашанай да медыцыны! Проста дрыжу за Вас, бо чую і ведаю, як гэта ўсё паважна!.. Як Ваш пульс, харошы сябра М Танк? Ці заўсягды носіце з сабой валідол? Ці кладзецеся ў пару спаць?.." І тут жа зноў — гарэзлівае: "Ужо год будзе зараз з той пары, калі Вы, як сапраўдны рыцар, гатовыя былі мне выбіраць моркву. Усё смяюся, калі ўспомню, як мы з Вамі ездзілі ў краму, але вось цукерачкі Вы мне тады не купілі..."

І ў кожным лісце клопат пра мужа, сяброў-літаратараў, суседзяў, іншых харошых людзей. Сапраўды, толькі рэдкай душы чалавек мог пісаць такія лісты! Зрэшты, заўсёды радасна, калі ўяўленне пра слынных людзей дапаўняецца вось такімі багатымі рысамі, калі глыбей раскрываецца асоба.

Хочацца павіншаваць і падзякаваць часопіс за гэтую публікацыю. І не толькі за гэтую. Апошнім часам, што прыемна, у "Полымі" рэгулярна з'яўляюцца ўспаміны, мемуары, лісты. Прызнаюся, не раўнадушны да падобных жанраў. З дзяцінства люблю перачытваць старыя запісы, лісты, паштоўкі, перагортваць фотаальбомы, якія захавалі Час, якія нібы злучаюць мяне з іншымі людзьмі, прымушаюць жыць іх жыццём, спасцігаць нешта вечнае, трывалае. Памятаю, як здзіўляліся ў кнігарнях, калі выкупляў з дэфіцытных тады падпісак апошнія тамы з лістамі, запісамі ці каментарыямі, якія заставаліся невытрабаванымі, бо ўладальнікі бібліятэк не лічылі іх вартымі або цікавымі для сябе.

Несумненна, багатай атрымалася шостая кніжка часопіса. У ёй змешчаны лісты Міхася Забэйды-Суміцкага да Сяргея Грахоўскага, успаміны Уладзіміра Мехава пра Рыгора Бярозкіна. І зноў людскія лёсы, і зноў клопат і боль пра Радзіму, пра мілы сэрцу край. Нельга без хвалявання чытаць у прызнанага спевака і артыста такія радкі: "Мая апошняя пражская плітка карыстаецца вялікім поспехам, мне пішуць: "Паважаны Майстар!.. Слухаем Вашы песні. Захапляемся. Маглі б іх слухаць цэлы дзень".

Ці слухаюць на Радзіме, не ведаю, ніхто нічога не піша.

Пара канчаць. Пабольвае сэрца..."

Па словах С. Грахоўскага, кожны ліст з Прагі быў для яго святам. Дзякуй Сяргею Іванавічу, што ён падзяліўся гэтым святам і з намі. Прыемна, што з нябыту вяртаюцца імёны нашых слынных беларусаў, што чытачы змогуць пазнаёміцца з унікальнай і багатай асобай, чалавекам, які ў свае 73 гады пісаў: "У Лугачовіцах меў канцэрт, якіх мала зрабіў у жыцці: спяваў амаль дзве гадзіны без перапынку ў 8-мі мовах і з уводным словам да кожнае песні. Слухачоў была больш, чым месц у зале. Стаялі ля сцен... А праграма была вельмі каштоўная: ад XVI стагоддзя да нашых дзён. Быў і Шастаковіч, і Чайкоўскі, і Туранкоў, і Чуркін на купалаўскі верш "Ты прыдзі", якім адзначаў 90-годдзе з дня нараджэння нашага вялікага паэта..."

Каштоўнасць публікацыі лістоў Л. Геніюш і М. Забэйды-Суміцкага яшчэ і ў тым, што яскрава абвяргаюць яны недарэчны міт пра беларускага нацыянальнага інтэлігента, як пра паўвясковых дзядзькоў і цётак, якія любяць адно корпацца ў гародчыку ды спяваць салёныя прыпеўкі. Высокая еўрапейская інтэлігентнасць, адукаванасць, кажучы словамі Ларысы Антонаўны — "шляхотнасць" проста ўражваюць. Як шкада, што сучаснікі былі адарваныя ад магчымасці слухаць гэтых людзей, сустракацца з імі. Мажліва, і сярод нашых дзеячаў культуры было б менш такіх, якія бравіруюць сваёй "простанароднасцю", паўадукацыяй, падмацоўваючы іх нахрапістасцю, ваяўнічым наступам на інтэлігентнасць, тонкасць, адукаванасць.

Тут жа, у шостым нумары "Полымя", змешчаны ўспаміны Уладзіміра Мехава пра Рыгора Бярозкіна, постаці ў беларускай культуры таксама адметнай. Успаміны цікавыя, шчырыя, напісаныя з добры густам і з высокімі мастацкімі вартасцямі. У гэтых успамінах Рыгор Саламонавіч Бярозкін — жывы, ранімы чалавек, не пазбаўлены недахопаў і слабасцяў. Але і асоба, асоба, дазволю сабе сказаць, у нечым падобная на дзве вышэйзгаданыя. Падобная, у першую чаргу, інтэлігентнасцю, прынцыповасцю, сумленнасцю.

Хочацца заўважыць, што калі лісты — дакументальныя і бясстрасныя сведкі, то ва ўспамінах дзейнічаюць, як правіла, дзве асобы: таго, хто ўспамінае, і таго, пра каго пішуць. І як тут важна за безумоўна суб'ектыўным успрыманнем свайго героя захаваць яшчэ як мага болей звестак аб'ектыўных, канкрэтных, якія раскрываюць асобу. Прыкра бывае, калі мы, мякка кажучы, не зусім этычна гаворым пра ўчынкі канкрэтных творчых асоб, іх асабістае жыццё. Мне асабіста не вельмі даспадобы, калі людзі яшчэ даволі маладыя пішуць адзін пра аднаго такое, што мяжуе з непрыстойнасцю, што пазбаўлена звычайнай чалавечай далікатнасці. Гэта часам, прабачце, нагадвае публічныя даносы ці ўсенароднае вытрасанне бруднай бялізны. Аўтары падобных "знаходак" забываюцца, што ў іх герояў ёсць бацькі і маці, іншыя блізкія людзі, якім чытаць падобныя "споведзі" брыдка і балюча.

Часопіс "Крыніца" парадаваў успамінамі Алы Сямёнавай "Бэзавы попел" пра Міхася Стральцова. Здаецца, цяжка ўжо што-небудзь новага дадаць да гэтай яшчэ адной унікальнай постаці ў нашай літаратуры, бо са Стральцовым нам пашанцавала болей: ён быў побач з намі, шмат паслеў выдаць пры жыцці, ды і сучаснікі хораша і глыбока перадалі нам рысы гэтага светлага аблічча. Але Ала Сямёнава здолела паказаць нам яшчэ аднаго Стральцова — рамантычнага і тонкага, сарамлівага і глыбокага, трагічнага і бездапаможнага...

І, Божа, якая зноў трагедыя!.. Тонкія, эстэцкія радкі, мудрыя і чыстыя развaжанні ішлі з месцаў, зусім не прыстасаваных для філасофіі, дзе ў атачэнні хворых, няшчасных людзей, а то і поўных дэградантаў праводзіў свой час Паэт. Хіба можна паверыць, што такое магло напісацца ў ЛТП: "Я пішу тут без усялякай літаратуразнаўчай навукі, эклектычнай, з густаўшчынкай: проста я кажу пра ўмельства падпусціць у рэалізм "смугі", не забіваючы контур, кантраст і лейтматыў. Вядома, бацькам усяго гэтага трэба лічыць Тургенева, лінія якога даўно ўжо ідзе поруч з лініяй Буніна, жарсткаватай і няўмольнай, як лінія скрыпічнага грыфа..."

Успаміны Алы Сямёнавай цікавыя не толькі лістамі Міхася Лявонавіча. Яна сама — таксама паўнапраўны ўдзельнік, герой гэтага эсэ і, што важна, гэта ніколькі не псуе твор, а робіць яго яшчэ цікавейшым. Няма тут ні пошласці, ні самалюбавання, ні імкнення пагрэцца ў промнях чужой славы. На жаль, гэта досыць рэдкая ў нас з'ява, бо аўтар успамінаў часцей бывае заклапочаны ўласнай персонай, чым тым, каго ён успамінае.

Смешнавата бывае чытаць нашых сучасных "класікаў", дзе гіпербалізаваны позірк на сябе робіць розныя карацелькі, дзённікавыя запісы ўласнаручна пабудаваным пантэонам...

Але гэта так, да слова. Увогуле ж, прыемна, што мемуарны жанр знаходзіць усё большае месца ў нашых выданнях. Думаецца, што згаданыя мной постаці заслугоўваюць пільнай удзячнай увагі, што кожная новая звестка, кожны новы штрых з іхняй спадчыны — наш неацэнны набытак.

**Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ**

*г. Наваполацк*

## "РОДНАЕ СЛОВА", N 10

**У раздзеле "Філалогія" апублікаваны артыкулы Ж. Шаладонавай "Зямля дасць волі, дасць і сілы..." (вырашэнне праблемы "зямля — селянін" у паэме Я. Коласа "Новая зямля" ў кантэксце часу), А. Бельскага "Вечна восень у сэрцы нашу..." (восень у паэзіі беларускай эміграцыі), М. Прыгодзіча "З убогое своее маетности народоу моему услугую..." (Васіль Цяпінскі і яго "Евангелее"), У. Дзянісава "Вельмі прыкметны кампанент" (эпітэт у пейзажных замалёўках В. Быкава), заканчэнне артыкула Л. Рублеўскай "Партрэт нацыі" (аспекты нацыянальнага міфа ў беларускай паэзіі 10—20 гг. XX ст.), іншыя матэрыялы.**

**Да народных вытокаў вяртаюць артыкулы Л. Салавей "Пілілаўскія вечары", Н. Даўгалёвай "Запаліце зоркі памяці і надзеі" (адзначэнне "Дзядоў"), заканчэнне артыкула А. Лозкі "Беларуская батлейка".**

**Кандыдату архітэктуры Т. Габрусь споўнілася 50 гадоў. "РС" віншуе свайго даўняга аўтара з юбілеем і прапануе яе артыкул "Пад эгідай мудрасці" (архітэктурная спадчына Віцебшчыны: Полацк, Віцебск). У сувязі з 75-годдзем Нацыянальнага тэатра імя Я. Купалы Т. Гаробчанка выступае з артыкулам "Вялікая сіла". Яшчэ адзін юбілей — 50-годдзе Беларускай акадэміі мастацтваў. Пра гэта слова Я. Шунейкі "Дом, дзе жывуць музы".**

**П. Навуменка ("Кніга мудрая, свежая, вострая") рэцэнзуе зборнік Р. Барадуліна "Аратай, які пасвіць аблокі", жанр якога сам Рыгор Іванавіч вызначыў як "сяброўскае слова, эсэ і некананізаваныя ўспаміны". Тут жа прапануецца і адзін з раздзелаў — слова пра П. Панчанку "Будуць!"**

**Пра братоў і сясцёр Я. Коласа падрабязна расказвае Д. Міцкевіч — "Дзяцей, як тых снапкоў на току!.."**

## "ПЕРШАЦВЕТ", N 10

**Наташа Маркевіч, Алена Шупенька і Юля Кудзіна жывуць у вёсцы Ілля Вілейскага раёна, вучацца ў адной школе і з'яўляюцца сябрамі мясцовага літаратурнага аб'яднання "Вілейшчына літаратурная". З іх вершамі і знаёміць часопіс. Паэзія дзесятага нумара прадстаўлена таксама творамі В. Сотнікавай, М. Сенькаўца, Г, Бутырчык, М. Касцялецкай, С. Галавенчык, К. Варанцовай, І. Шарая, М. Віча, А. Расолькі, А. Вашкевіча.**

**У галіне прозы прабуюць сябе М. Воднева, Г. Ціханава, В. Колас, В. Гапееў, Т. Трафімава, П. Сямінскі, М. Кулеш, Г. Пчалаводава. З новым апавяданнем выступае пастаянны аўтар "Першацвета" М. Лукша.**

**У "Гасцёўні" прапанаваны вершы Ю. Свіркі і апавяданне А. Афяроўскага "Горкая асінка".**

**Змястоўным атрымаўся раздзел "Крытыка". "Каханне і любоў: спроба ідэнтыфікацыі" — так вызначыў тэму свайго артыкула "У пошуках сапраўднага..." І. Лапуць. Н. Кучмель ("Незвычайнасць "звычайнага") рэцэнзуе зборнік Л. Адамовіч "Першая запаведзь". Л. Дрык ("Шлях пілігрыма") дзеліцца ўражаннямі ад кнігі Я. Пархуты "Сустрэча з іншапланецянкай". У цэнтры ўвагі Н. Дзівінай ("Пра Янку, Ганку і казак вязанку") — зборнік У. Паўлава "Колькі гусей убачыў Яўсей?", адрасаваны дзецям. П. Вашко ў крытычным эцюдзе "Загадкі Восіпа Арлоўскага" звяртаецца да творчасці малавядомага беларускага пісьменніка, на якога ў свой час звярнуў увагу М. Гарэцкі.**

**Артыкул В. Арцем'ева "Біяграфічнае і геаграфічнае ў творчасці Аляксея Пысіна" і развагі А. Корзюка пра паэзію Т. Лапцёнак "Іду з любоўю да цябе я, мая зямля..." змешчаны ў раздзеле "Нам пішуць".**

**У "Жароўні" — гумарэска І. Сцяцко "Пума-дэпутатка" і пароды В. Пугача.**

## А БЫЛО Б ТОЛЬКІ ШЭСЦЬДЗЕСЯТ...

**Юрку Геніюшу, сыну слаўных Ларысы і Янкі Геніюшаў. На жаль, яму, бадай, пісалася куды менш, чым хацелася. Ды і друкаваўся не так шмат. Найбольш поўна яго творчасць прадстаўлена ў кнізе "З маёй званіцы", што выйшла ў Беластоку ў 1993 годзе — апавяданні, гумарэскі, фельетоны.**

**У невялікай згадцы "Успамінаючы Юрку", змешчанай на апошняй старонцы гэтага зборніка, Сакрат Яновіч піша: "Выхаваны ў стараеўрапейскай Празе, і, маючы бацькоў патомных інтэлігентаў, не паддаваўся маніпуляцыі. Не дазваляў калечыць свае тэксты. Не пагаджаўся дапісваць у іх тое, чаго не напісаў. Гонар не бывае без цаны, як і сумленне. І ён заплаціў гэтую чортавую даніну — не толькі ў выглядзе неапублікаванага, але таксама хваробамі, стратай нерваў, урэшце, заўчаснай смерцю ў свае пяцьдзесят".**

**Нагадаем: нарадзіўся Ю.Геніюш 21 кастрычніка 1935 года, трагічна пайшоў з жыцця 20 лістапада 1985-га.**

Паэзія

Рыгор БАРАДУЛІН



# У НОВЫ СШЫТАК ПАВАГІ Й ЗАХАПЛЕННЯ

## ТРОЙЧЫ

*Леаніду ДРАНЬКО-МАЙСЮКУ*

**I**

**Паэт, як бык...
Еўропу хоча зноў
Для еўрапейкі Беларусі выкрасці.
Ён самы панавіты між паноў
У гжэчнасці
Ды ў глыхаглыбай прыкрасці
Для тых, хто ўздумаў
Лапцем разбарсаным
Валяцца пад паваленым
парканам.**

**Паэт, як бык...
Трымае моцна мост
Нязломнасці,
Няўлоўнасці,
Галоўнасці.
За трапятлівак уздымае тост,
Звыкае
Да салоўкасці,
Салоннасці.
А застаецца
Сынам цесляровым
Жывы красою ды
Адзіным словам.**

**Паэт, як бык...
На бойню сам не йдзе,
Бо без яго
Няма жыцця нідзе!**

**II**

**Паэт будуе сам сябе, як храм,
Ці як пахіленую халабуду.
У храме веселей адбыцца цуду,
У халабудзе
Сум сівее сам.**

**На твары неба бліскавічны шрам
Заные, адчуваючы астуду.
Набожна ўкленчыўшы
Эцюду цуду,
Паэт будуе сам сябе, як храм.**

**І храм служыцьме долам і гарам,
Звон давяраць ме гуду й перагуду.
У халабудзе,
Кут адвёўшы цуду,
Паэт будуе сам сябе,
Як храм...**

**III**

**Паэт, як вір,
Ад хвалявання стыне,
На дне хаваючы
халодны клёк.
З гародчыка расчульвання
Юргіня
Юрыць паэтаў юр,
Як неўзнарок.**

**Паэт, як вір,
Віруе ды шчыруе,
Перамывае родных словаў
Жвір.
З Пегаса зброю
Скідвае старую,
Берэтку поўні
Збіўшы набакір.**

**Паэт, як вір,
Сапернік супакою,
Капрызны хрэснік
Шчодрай Каляды.
З Сусвету,
Як з цяснютказа пакоя,
Ірвецца вымкнуцца,
Але куды?...**

## ШПАЦЫР УЗДОЎЖ ПАРКАНА

*Рыгору СІТНІЦУ*

**Гайда на шпацыр
Уздоўж паркана!
Парканам выгараджаны,
Як гарод,
Сусвет,
Дзе ўсё да зор ускапана,
Туман паразвешваны на азярод.**

**Партрэты каменя,
Замкаў, касцёлаў.
Каравыя пальцы
Платоў старых
Худыя
Пасля веснавога ацёлу
Каровы сутоння
Хаваюць уздрыг.**

**Ужо ў прасторы няма,
А ў часе
Жыве старасветчына,
Бо яна
Касмічнае прыняла прысчасце.
І дзень аднее.
І ноч адна.**

**Прыступка ў неба
Чалуе долу.
Сяўня за радню
Прызнае сяўню.
Цыруе полымя
Крылы анёлу.
Царуе ў цэмры
Схоўца агню...**

## СПАЛОХАНА

*Янку ЗАПРУДНІКУ*

**А ластаўка пані Вілчыцкая
Пад вільчаком незабітым
Пра клопат птушыны свіргоча.
Цялятка мордачкай тыцкае
У вымя з нязграбным спрытам.
І ў коткі маркотныя вочы.**

**Нялёгка ўздыхнуць з палёгкаю
Ў акутым пакутай закутку,
Уважаць смугу вачыма.
І запытацца спалохана
Ў свайго дарослага смутку,
Ці пастарэла Радзіма...**

## ЗАСТОЛЬНАЕ СЛОВА

*У гонар Уладзі АРЛОВА*

**Шчаслівы ўжо з таго,
Што хмары з Полацка
З вушацкімі ідуць дажджом адным,
Што досвітку засцянлівая поласка
Не розніць нашыя туман і дым.**

**Бо з Полацкай Зямлі
І кроў крывіцкая,
І слава — спадкаеміца вякоў.
Няхай чужак
Загадным кстом не тыцкае,
Яму нам не шкада пяці цвікоў.**

**Бо полацкім і кепіцца, і пятрыцца,
І чарку хмель чубаты падае.
На полацкіх вятрах
Труха правятрыцца,
А набрыдзі хай пяты моль паб'е.**

**Дух полацкі, перапавіты мітамі,
Сам Белабог
Пускае на папас.
Смялей пяецца люду паспалітаму:
Сто год, сто год
Хай доля бачыць нас!
Яшчэ раз, яшчэ раз
Хай доля любіць нас!**

## ЧАЎНЫ

*Алесю АНЦІПЕНКУ*

**Народы —
Прасмаленыя самапавагай чаўны,
Якія гісторыя
Волакам валачэ
Да возера вечнасці
З возера даўніны.
Стагоддзі стыгнуць.
Дні грэюцца ў талацэ.
З ворагаў у сябры
Вятры-вешчуны
Шляхамі вяртаюцца рознымі.
І поўняцца
Неперакуленыя чаўны
З краямі
Мовамі роднымі.**

## АДДЗЯКА

*ЗЯНОНУ*

**Місія не прыходзіць з Галілеі —
На гэтым і стаяў Ерусалім.
А Ён ішоў туды,
Дзе здрада тлее,
Дзе людзі ворагі сабе самім.**

**Каб не памерці,
Зерне паміраe.
Каб адцяніць святло.
Лютуе змрок.
З часін патопу ў ціхіх
Хата з краю.
За схібны крок
Адказвае прарок.**

**Ішоў на смерць,
А ўсе чакалі цудаў.
Ішоў перад шалёнай гаманой.
За ўсе пакуты
Пацалунак Юдаў
Яму і быў аддзякаю зямной.**

## АКРАМАДРЫГАЛ

**Вяльможны беларускі
розум цямкі,
Абы-чаго не ходзіць нацямкі.
Сядзібу духу ад кута да клямкі
Інакшыя прасвенцяць скразнякі.
Лагоды й азарэння бліскавіца
Юнее й нашчыцца,
каб не згасіцца.**

**Сябе не цэніць розум беларускі.
Ён не прымака
ў славы-удавы.
Моц атрасе чужыншчыны атрускі,
Убачыць свет, што беларус жывые!
Хай у пячоры чэрапу цямрэча,
Ускрэсне з мёртвых
роднае спрадвечча!**

## GRADUS AD PARNASSUM

**Virs eruditus Лявон —
места Полацка сон мудравокі,
Мноствамі моваў спакушаны
дбайлівы руннік Баршчэўскі й
Чутнік, што чуе наступнасці й подум,
і подых, і крокі,
Ходца ў паэзіі гай,
каб вясновым радком балючэў кій.**

**Мовай крывіцкаю мовіць следам
за непахісным Эсхілам
З просьбы ягонай Сапфо
ды гарачы Гарацый з Рансарам,
Плечы ў Атланта не горбяцца,
падпертыя небасхілам,
Плён і Лявон зрэшты
рэшт зрыфмаваліся summa summarum.**

## ВОЧЫ ВА́ДЫ

*Пётру КУХАРСКАМУ*

**Вочы ва́ды,
Як вочы вады,
Не разгледзіш з налопу, з наскоку.
Ва́да
Не абмінае хлуды,
Сцежку сцелячы ўпуду ды ўроку.**

**Ва́да выцягне
Звады з вады
І з маны рызманы асцярогі.
Як свае не ўпілнуеш сляды,
Завядзе да бяды ў расцяробы.**

**Волас у ведзьмара з барады
Бервяном здасца прыщемным лядам.
Зашаптаныя вучаць брады
З вадай не сустракацца
Паглядам.**

## ПАЗЫКА

*Ганаду ЧАРКАЗЯНУ*

**Курда курд сустрэне
на млыне —
Гэта значыць,
Што бадай ніколі,
Показку далі ў дарогу мне
У пустэльністым
Туркменскім полі,**

**Дзе было ўраджайна
Праз вякі
На пяскі й вярблюджую калючку.**

Курд спячэ ў выгнанні праснакі
З дыму роднага —
З мукі балючай.

Страчаны бацькоўскі край,
Як рай,
Прагне хоць у снах
Душа наведаць.
Божа,
Забыццём не пакарай,
Маладзік змяняючы на ветах.

Зоркі пільна
Свой шанууюць гурт,
Каб не знікнуць
Знічкамі ў адчаі.

І глядзіць на неба
Сумны курд
І ў самоты моцы пазычае...

## ЦЫГАНСКАЯ ПРАФЕСІЯ

*Самсону ПАЛЯКОВУ*

Кіно — цыганская прафесія:
Дзе папрасі,
А дзе змахлюй.
Каб высякала іскры
крэсіва,
Рабі з расы ды слёзаў месіва,
Малі багоў,
Чарцей малюй.

Блазноцься як дурней
З артыстамі,
І смех за брэх,
І брэх за смех
Прымай
З парадамі вятрыстымі,
Сабе самому кукіш
выставі,
Разгрызшы поспеху арэх.

Кіно — паганскае відовішча:
Яшчэ ў пячоры на сцяне
Агонь скакаў,
Каб страху сховішча
Ноч не прасвоіла
адно яшчэ,
Пакуль прамень
Экран праткне.

І Музы,
Як рознаабранніцы,
Забыўшы рэўнасць,
Заадно
Шчырэюць смела,
Каб шматграніцца,
І верыць кожная
абранніца,
Што толькі ёй
Жыве кіно!

## СЕНА СНОЎ

*ВЕРАНІЦЫ*

Вербны сон расчуленага Бога,
Вечнасць Леты,
І мінучасць лета.
Вераніка —
Верай перамога,
Пажыццёвая туга паэта.

Вера —
Сіні верас вечарэе
Недзе каля Вечалля, Чарэі...

Ніка —
Нікне смутак у знямозе.
Сена сноў плыве на
Зорным возе...

## НА ДЗЕНЬ НАРАДЖЭННЯ

*Ірыне З—ВАЙ*

Перад прыгажосцю ўсё нямее,
Слова й тое,
Што сказаць не мае.
І надзеі хітрай зімавея,
Як у снежні,
Мітаецца ў маі.

Прыгажосць —
Настрой нябёс узнёслы
Ходзіць па зямлі,
Каб цуду стацца.
Хоць на момант сонечныя вёслы
Да палаца
Выкіруюць старца.

У Сусвеце
На вятрыстым дрэве
Яблык згоды
Пра разлад згадае.
Весялосць
Шляхетнасцю мудрэе.
Прыгажосць
Спрачаецца з гадамі.

## РЭВЕРАНСНЫ ВЕРШ

*Тэрэзе ГОЛУБ*

У зацішным падстрэшшы
Кабінет у Тэрэзы.
У музеі
Музейнай чароўнасці пані.
Тут забудзешся тэзы
ды антытэзы.
Не музейнай падасца
Пытанне кахання.

Галубінае прозвішча
Высватаў продак,
Бо і сам быў, вядома,
З душой галубінай.
Неба — вось ён
З блакітнай каёмачкай сподак,
Каб сама неспатольнасць
З яго надгубіла.

Ціхі могільнік — кожны музей,
Ды не гэты
Гістарычна-лірычны музей,
Дзе ў Тэрэзу
Закахаліся ўсёй Беларусі паэты,
Дзе вяснее Тэрэза
Галінкаю бэзу.

На мяхі залатыя
Забыліся б крэзы
І згадзіліся б
Вулкі барадамі месці,
Толькі б трапіць
Пад позіркі пані Тэрэзы
У паддашшы дамка,
Што ў Траецкім прадмесці!

## УСЯ З МАЛАДОГА ЧАКАННЯ

*Лесі СЁМУСЕ*

Туга па Радзіме — хвароба старых
Уся з маладога чакання.
Таму й выкрасаецца
Рэчка з-пад крыг,
І лямантам душыцца каня.

Калі дажывеш да тугі,
Да яе
Ідзеш, як ахвяра да ката.
Даўгія й кароткія пааддае
Даўгі твае ўсе —
Да дуката.

Кароткія
Доўжаць у прошласць шляхі,
Даўгія
Кароцяць надзею.
І ўбачыць сляпы,
І пачуе глухі,
Як зімна Радзіма сівее...

## АКРАМРОЯ

Гай галее, рэха гнёзды ўе.
Ад сябе ўцячы рака не можа.
Любіць стома лецішчы свае.
Імем годным даўніцца вяльможжа.
На якую ні ўзыдзі гару,
Адусюль айчынны дол пакліча.

Шэры дзень і ясную пару
Ахвяруе ціхаце каплічка.
Бліск у шаблі на шляхетны скон.
Лотаць — латы веснавой пяшчоты.
Інеем імшыць ізруб свой сон.
Ноч святлей хавае зоры ў соты.
Салаўя на спеўным скразняку
Корміць не скарынка, а іскрынка.
Ахіне Ярылаву дачку —
Ярыну картавіца хмурынка.

## ВОДЗВАН

Юнак,
Амаль ужо мужчына,
Мне нагадаў пра тыя дні,
Калі блакітна ў вышыні
Імя тваё звінела,
Рына.

Ці гэта разгайданы звон
Баяўся,
Толькі б не зваліцца
З набожна схіленай званіцы,
Разбіўшыся ў аскепкі дзён.

Бо, не сціхаючы, ўва мне
Палынна,
Потайна,
Нахлынна
Звініць і сёння водзван —
Рына,
Нібыта ў возеры на дне...





***У 1994 годзе ўбачыў свет мой раман "Явар з калінаю". Гэта была першая кніга дылогіі. Цяпер напісана і другая — раман "Арляк і зязюля". Увазе чытачоў "ЛіМа" хачу прапанаваць урывак, дзе галоўны герой, Іван Гаркуша, расказвае пра сваю сустрэчу з жанчынай, з якою ўпершыню лёс звёў яго і на доўгі час развёў у "Явары з калінаю". Дзеянне рамана адбываецца на пачатку 70-ых гадоў.***

**Аўтар.**

Мікола КУСЯНКОЎ

# МЕСЯЧНАЯ САНАТА

УРЫВАК З РАМАНА

...Перад тым як заснуць жонка мая цяжка ўздыхнула дый кажа: "Паехаў бы ты ў Гомель — можа, хто памог бы ім узбіцца на казённы катух, даюць жа іх там некаму, а няўжо ж нашы дзеці горшыя за іншых? Ёсць жа там нейкія начальнікі, няўжо ж у іх сваіх дзяцей няма ці ўнукаў, і хіба ж каменныя сэрцы ў іх, каб яны табе не паспагадалі? З'ездзіў бы хоць да Мажэйкі, ты ж сам казаў, ён там вялікі начальнік, а што не па кватэрах, а па лесе — дарма, начальнікі ўсе ведаюць адзін аднаго, дык ці ж не папрасіў бы ён каторага трэба? Папрасіў бы. Ён жа калісь і Насцю нашу любіў, а тады і цябе ляснічым паставіў. Едзь, Іван, бо хто ж і паможа, як не Мажэйка, ён жа і цяпер, кажуць, прыязджае ў наш лес, "козліка" свайго ля Мікалайкавай стражы кіне, а сам па лесе блудзіць, аж пакуль і шафёр яму не пачне піпікаць".

На тое яна і жанчына: расчуліць так, што хоць плач. А расчуліць адным словам. Помню, калісь пра сябе сказала ну не адно, а два слова — гарбатая баба, а як жа ўдарыла мне ў галаву: гэта яна, мая жонка, гарбатая баба, лёс у яе за мною такі горкі! Дык і да гэтага часу месца сабе не знаходжу, што не даў ёй лепшай долі. А тут яна зноў кажа — не пра сябе, а пра дачку: "Трэба ж, каб у яе там сваё гняздо было, без яго яна будзе як тая зязюля ў лесе, што адно па чужых гнёздах нікае, дык няўжо ж ты хацеў бы, каб у тваёй дачкі было такое зязюльчына жыццё, едзь, дабіся ёй там хоць якога гняздзечка".

Вось яно, гэтае жончына слова — зязюля! Мая дачка — бяздомная зязюля! Успомніў, як шукалі мы з ёю ў горадзе кватэру, і зайшлося сэрца, бо і праўда ж — зязюля! Ну, браце, нават самага апошняга бацьку праняло б гэтае слова, бо як у сук жонка ўляпіла! Канечне, трэба ехаць! Але ж да каго — да Мажэйкі? Ох, жонка, жонка, задала ты мне задачку! Калі б жа там быў адзін Мажэйка, а то ж... Пражыла век з Гаркушам, а таго і не ведаеш, якія шуры-муры круціў ён калісь з цяперашняй Мажэйкавай жонкай і як твой Гаркуша па-свінску з ёй урэшце абышоўся. Лідка, шаршэ ля фам, яна ніколі мне таго свінства не даруе!.. Спі, жонка, а мне трэба вельмі добра ўсё абдумаць, і я доўга яшчэ не засну, можа, да самай раніцы.

Так, і цяпер, ужо з Гомеля, прыязджаў Мажэйка ў Заліп'е, і не па службе, не ў кантору, а ў лес, да Мікалайкавай стражы. І для мяне гэта было вялікай загадкаю. Калісь лясгасаўскі "козлік" часта падскокваў да маёй канторы, Мажэйка доўга курыў і нудзіўся ў маім кабінеце, але ж тады зразумела было, чаму яго цягне ў Заліп'е: ад вайны мінула не так многа часу, і ён не паспеў забыць яшчэ сваю Насцю. А цяпер у Заліп'е ехаў не той нежанаты Мажэйка, а ўжо, бадай што, стары чалавек — яму ж на пенсію пара ўжо!.. Дык няўжо ж і цяпер ён помніў сваё першае няўдалае каханне? Вельмі на тое падобна. Спыніць машыну ля квартальнага слупа (леснікі так цяпер яго і завуць — Мажэйкаў слуп), прасекаю спускаецца на Масткі, падымаецца на Шырокае ляда — маршрут, па якім апантаная камсамолка Насця гнала некалі пад канвоем іх, Мажэйку і фінагента Навіцкага, мераць падпольнае Мікалайкава проса. Дык вось у тым і загадка: жонка ў Мажэйкі — рэдкая жанчына, мая колішняя Лідка, шаршэ ля фам, вось хто ўмее кахаць нашага брата — на сабе зведаў, а тады няўжо ж нават яна не змагла даць Мажэйку рады, каб хоць пад старасць забыў ён нарэшце сваю даваенную Насцю?.. Дальбог, я адчуваў сябе вінаватым, не паддаўся калісь Лідчыным чарам — як быццам дзеля Мажэйкі, думаў, яна стане яму добрай жонкаю, а выходзіць, шаршэ ля фам не апраўдала маіх, ці, можа, Мажэйкавых, надзей!.. А тут жонка: едзь да Мажэйкі, а таго ж не ведае, што я і сам ужо не раз намерваўся да яго з'ездзіць, але як падумаю, што давядзецца глядзець яму ў вочы!.. Сорамна — за тое, што было калісь у мяне з Лідкаю, а яшчэ і няёмка, што ведаю ягоную таямніцу: у яго такая цудоўная жонка, а ён што ні год едзе туды, дзе не толькі ніякіх дзявочых слядоў, а ўжо і самой Мікалайкавай стражы няма — даўно згарэла.

Але трэба ехаць. Бо калі твая дачка, як тая зязюля, не мае ўласнага гнязда, дык хто ж, як не родны бацька, павінен пра яе паклапаціцца? Канечне, заяўлюся я ва ўпраўленне лясной гаспадаркі, але раптам Мажэйка запросіць дадому — што тады? Не давядзі Гасподзь сустрэцца з Лідкай, дваццаць год мінула, а помню, як падсадзіў яе ў аўтобус, а сам, як пабіты сабака, стаю, галаву ўнурыўшы — маруда шафёр ніяк не рушыць!..

Трэба ехаць, бо доўга адкладваў, а цяпер адкладваць ужо няма куды.

Ты помніш тое лета: па радыё казалі — у Мінску і ў Гомелі не садзіліся самалёты, навалілася суш, якой не было сто гадоў, лясы і тарфянікі гарэлі цэлы месяц, дык і да Мажэйкі я выбраўся, калі ў нас, дзякуй Богу, выпалі дажджы. Але дым яшчэ аднекуль пёрла, з-за Гомеля, ці што, — ехалі на аўтобусе з уключанымі фарамі, як у густым тумане.

Мажэйку ў ягоным упраўленні я не заспеў, сакратарка сказала — паляцеў на верталёце, недзе яшчэ не патушылі вялікі пажар, а Павел Іванавіч — старшыня камісіі, што змагаецца з гэтай навалай. Чакаў я вельмі доўга, ужо сакратарка і дадому збіраецца, тады Мажэйка і з'явіўся. Адмыкае дзверы ў кабінет і стомлена пытае: "Вы да мяне, таварыш?" А яму сакратарка — вінаватым голасам, бо ён такі зморany, учарнелы: "Да вас, Павел Іванавіч. З лясніцтва". Мажэйка прапусціў мяне першага ў кабінет, увайшоў сам, зняў фуражку, паклаў на пісьмовы стол — відаць, доўга ў кабінеце бавіцца не збіраўся, апусціўся на крэсла, прыгладзіў з бакоў валасы — так, толькі з бакоў, бо — я не мог даць веры сваім вачам — Мажэйка быў... лысы!.. Божа, колькі ж гадоў мы з ім не бачыліся, я ж помніў яго чорны, густы колішні чуб!..

Напэўна, думкамі ён быў яшчэ недзе там, на тым вялікім пажары, бо нешта, відаць, было, сам сабе вырашаў, нават памкнуўся быў некаму пазваніць — паклаў на трубку руку, але... перадумаў. З нейкім сваім клопатам у вачах паволі перавёў позірк на мяне — на твары ані знаку, што пазнаў, але ж пазнаў-такі, бо па-ранейшаму стомленым голасам прамовіў: "А, вунь гэта хто... Гаркуша. — Потым усё-ткі сумна ўсміхнуўся: "Ну, вітаю цябе, Аніка-воін. Як ты там, усё яшчэ ваюеш са сваім Айчанашам?.. Кажы, што прывяло да мяне, будзем разбірацца".

Згадаў аднаго свайго лесніка: весялун, на ўсіх святах першы завадатар, а прозвішча — Нудзьга, дык хай бы яно выпала Мажэйку, бо пазнаю: усё тая ж на твары ў яго... як гэта кажуць... меланхолія, тая ж марудная ў ім разважліваасць. Ён будзе яшчэ са мною разбірацца, усё і так ясна — тут рабіць нешта трэба!.. Падумаў так дый кажу: "Што прывяло мяне да вас? Дачка ў мяне, Павел Іванавіч, зязюля, гэта і прывяло". Ён зірнуў на мяне бадай што спалохана: "Як зязюля?" А я тлумачу: "Ну так, зязюля. Замуж выйшла, і чалавек яе робіць тут, у Гомелі, карціны малюе, а кватэры не даюць, таму і зязюля — свайго гнязда не мае". Відаць было, што яму адлягло ад сэрца, а чаму ён так спалохаўся, я тут жа зразумеў. "А, — кажа, — у такім сэнсе зязюля. А я, было, падумаў... Бывае, што ад дзяцей адмаўляюцца, яшчэ ў раддоме..." А я кажу: "Не давядзі Гасподзь, толькі гэтага не хапала". А ён: "Так, з дочкамі праблема... У мяне вось таксама... дачка. У Ленінградзе вучыцца. Выдатніцай

(Працяг на стар. 14-15)

ЛіМ
ЧАСАПІС

## ЮБІЛЕЙНЫ СЕЗОН



**Віцебскі дзяржаўны акадэмічны тэатр імя Якуба Коласа адкрыў свой 70-ы юбілейны сезон. Разам з артыстамі Даўгаўпілскага драматычнага тэатра коласаўцы паказалі прэм'еру "Сямёра прасцякоў у гасцях у Несцеркі". Гэты спектакль створаны паводле творчасці Яніса Райніса — вядомага латышскага паэта, вялікага сябра Беларусі.**



*На здымках: выступае галоўны рэжысёр тэатра Валерый Маслюк; сцэна са спектакля "Сямёра прасцякоў у гасцях у Несцеркі".*

*Фота Аляксандра ХІТРОВА, БЕЛТА*

## ПРЭМ'ЕРА "РЭЦЭПТА МАКРАПУЛАСА"



**Беларускі дзяржаўны драматычны тэатр імя Якуба Коласа ў Віцебску паказаў прэм'еру спектакля "Рэцэпт Макрапуласа" паводле камедыі Карэла Чапэка. Пастаноўку ажыццявіў лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі Мікалай Пінігін, мастак — Зіновій Марголін. У галоўнай ролі занята народная артыстка Беларусі Святлана Акружная.**



*На здымках: у ролі Эміліі Марці — народная артыстка Беларусі Святлана Акружная; пастаноўшчык спектакля — лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі Мікалай Пінігін.*

*Фота Аляксандра ХІТРОВА, БЕЛТА*

# НАШ РОДНЫ, ТЭАТРАЛЬНЫ...

СТАРОНКІ БІЯГРАФІІ

НАПАЧАТКУ, з 1945 года, гэта быў акцёрскі факультэт, і ўзначальваў яго Піліп Кобля, выкладчык беларускай мовы, які належаў да той рэдкай катэгорыі кіраўнікоў, якія ўжо фактам свайго ўдзелу ў навучальна-выхаваўчым працэсе садзейнічалі яго добрай арганізацыі. Усіх, хто ведаў Піліпа Канстанцінавіча, здзіўляла яго дабрыня, працаздольнасць, інтэлігентнасць. За амаль дваццаць пяць гадоў сваёй працы ў інстытуце ён зрабіў шмат карыснага і патрэбнага для развіцця вышэйшай тэатральнай адукацыі.

У 1971 г. акцёрскі факультэт быў перайменаваны (і адпаведна пераарганізаваны) у тэатральны факультэт, дэканам якога быў прызначаны старшы выкладчык сцэнічнага руху і фехтавання Арон Першыц. Чалавек арганізаваны і дысцыплінаваны, ён шмат увагі надаваў умацаванню навучальнай і працоўнай дысцыпліны.

Сёння тэатральны факультэт уключае ў сябе кафедру майстэрства акцёра і рэжысуры, кафедру кінатэлемастацтва, студэнцкі тэатр. На факультэце вядзецца падрыхтоўка па наступных спецыяльнасцях і спецыялізацыях: акцёрскае мастацтва (спецыялізацыі — акцёрскае мастацтва драмтэатра і кіно; акцёрскае мастацтва тэатра лялек); рэжысура (спецыялізацыі — рэжысура драмы; рэжысура тэатра лялек; рэжысура мастацкага фільма; рэжысура дакументальнага фільма; рэжысура тэлебачання; рэжысура мультыплікацыйнага фільма; гукарэжысура); кінатэлеаператарства (спецыялізацыі — кінааператарства; тэлеаператарства); тэатразнаўства (спецыялізацыі - гісторыя і тэорыя тэатра; арганізацыя, планаванне, кіраванне тэатральнай справай).

Педагагічны склад тэатральнага факультэта заўжды быў адметны. Кафедру майстэрства акцёра з 1946 узначаліў вядомы дзеяч тэатральнага мастацтва, рэжысёр, драматург, народны артыст Беларусі, прафесар Еўсцігней Дунаеў-Міровіч, адзін з заснавальнікаў Беларускага драматычнага тэатра імя Я.Купалы. Гомельскага калгасна-саўгаснага тэатра, Рэспубліканскага тэатра юнага гледача. Е.Міровіч быў прыхільнікам К.С.Станіслаўскага, прытрымліваўся яго эстэтычных і мастацкіх прынцыпаў, сістэмы ў цэлым, і заклаў гэта ў аснову выхавання беларускіх артыстаў.

У 1948 г. па стане здароўя Е.Міровіч вымушаны быў пакінуць выкладчыцкую дзейнасць у інстытуце. Заняткі са студэнтамі працягвалі Б.Мардвінаў, К.Саннікаў, Д.Арлоў, В.Галіна. Дыпломныя спектаклі першага выпуска акцёрскага факультэта ("Разлом" Б.Лаўранёва, "Мяшчане" М.Горкага, "Сэрца не камень" А.Астроўскага, "У адным горадзе" А.Сафронава) былі паказаны шырокай грамадскасці Мінска на сцэне тэатра імя Я.Купалы.

У 1947 г. на педагагічную працу ў БДТМІ быў запрошаны вядомы майстар рускай сцэны, заслужаны артыст РСФСР, прафесар Барыс Мардвінаў. З 1948 г. ён узначаліў кафедру. За аснову прафесійнай падрыхтоўкі акцёрскіх кадраў Б.Мардвінаў узяў творчыя і этычныя прынцыпы МХАТа. Плён Б.Мардвінава па выпрацоўцы ў студэнтаў прафесійных уменняў наладжваць узаемасувязь слова і дзеяння, тэксту і падтэксту. значэння і сэнсу яскрава і пераканальна быў увасоблены ў пастаўленых ім дыпломных спектаклях "На дне" М.Горкага, "Юнацтва бацькоў" Б.Гарбатава, "Пяюць жаўранкі" К.Крапівы.

Вялікі ўплыў на развіццё тэатральнай адукацыі ў Беларусі зрабіў адзін з карыфеяў беларускага тэатра, народны артыст Беларусі, прафесар Канстанцін Саннікаў. Шмат гадоў ён працаваў акцёрам і рэжысёрам у тэатры імя Я.Купалы, а з 1947 па 1965 год вёў педагагічную працу на кафедры майстэрства акцёра ў БДТМІ. Клопат аб творчай змене, з якой К.Саннікаў звязваў будучае беларускага тэатральнага мастацтва, быў адной з галоўных задач ягонай педагагічнай практыкі. Ён быў гарачым прыхільнікам акцёрскага пераўвасаблення, прывіваў густ і звычку да імправізацый у распрацоўцы роляў, ніколі не дазваляў сабе захапляцца рэжысёрска-пастановачнымі прыёмамі і сродкамі, каб не перашкаджаць творчаму самавыяўленню артыстаў. Нездарма выхаванцы К. Саннікава сталі вядучымі акцёрамі на беларускай драматычнай сцэне — В. Тарасаў, Л. Давідовіч, М. Захарэвіч, Г. Талкачова, Г. Аўсяннікаў, З. Зубкова, Л. Былінская, М. Пятроў і інш.

З кастрычніка 1953 г. загадчыкам кафедры быў прызначаны народны артыст Беларусі. прафесар Дзмітрый Арлоў, які прыйшоў у тэатральную педагогіку вядомым артыстам, галоўным рэжысёрам Дзяржаўнага рускага драматычнага тэатра БССР імя М.Горкага. Адметнай падзеяй пры ягоным кіраўніцтве быў удзел выпускнога курса ва Усесаюзным конкурсе дыпломных спектакляў у Маскве ў 1958 г. Спектакль "На дне" М.Горкага быў адзначаны не толькі як поспех беларускай тэатральнай школы, але і як прафесійны рост педагогаў інстытута. У 1961 г. увесь выпускны курс Д.Арлова (13 чалавек) быў накіраваны ў тэатр імя Я.Коласа. І сёння на сцэнах акадэмічных тэатраў імя Я.Купалы і Я.Коласа мы бачым яго вучняў Г.Гарбука, А.Мілаванава, Т.Кокштыса, Ф.Варанецкага і інш.

Заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі Любоў Мазалеўская належыць да таго пакалення артыстаў, якія былі выхаваны ў Беларускай драматычнай студыі ў Маскве і сталі ў 1926 г. заснавальнікамі тэтра імя Я.Коласа. Трыццаць гадоў жыцця Л.Мазалеўская аддала беларускай драматычнай сцэне. Але галоўным яе прызваннем была рэжысёрская і педагагічная дзейнасць. Л. Мазалеўская валодала тонкай педагагічнай інтуіцыяй і ўменнем раскрыць творчую індывідуальнасць студэнта. Яна брала на метадычнае ўзбраенне ўсё новае, цікавае, таленавітае, што з'яўлялася ў тэатральнай педагогіцы. Васемнаццаць чалавек шостага выпуску акцёрскага факультэта інстытута, вельмі розных творчых індывідуальнасцей, на чале з Л.Мазалеўскай склалі ў 1955 г. ядро тэатральнага калектыву Беларускага рэспубліканскага тэатра юнага гледача (адкрыты ў 1956 г.).



*Драматург М.МАТУКОЎСКІ пасля прэм'еры спектакля "Мудрамер" у студэнцкім тэатры.*

Для падрыхтоўкі кваліфікаваных рэжысёрскіх кадраў для тэатраў Беларусі ў 1959 г. была створана кафедра рэжысуры, якую ўзначаліў заслужаны дзеяч мастацтваў Кабардзінскай АССР Андрэй Яфрэмаў, які больш за трыццаць гадоў свайго жыцця аддаў выхаванню тэатральных кадраў. У яго рэжысёрскай майстэрні вучыліся У. Арлоў, К. Галушкова, Я.Громаў, Д. Ніжнікоўская, В. Ліпень, Н. Алейнічава, І. Данілаў, П. Бекіш, В. Рубінчык, В. Мкртумаў, А.Сакевіч, якія плённа працуюць рэжысёрамі драматычных тэатраў, на кіна- і тэлестудыях, педагогамі ВНУ.

З верасня 1961 г. кафедру рэжысуры ўзначаліў народны артыст Беларусі, прафесар Канстанцін Саннікаў, які ў той час быў мастацкім кіраўніком акцёрскага і рэжысёрскага курсаў. Буйнейшы майстр беларускага драматычнага тэатра лічыў, што "стварыць рэжысёра немагчыма. Неабходна стварыць такую атмасферу, дзе рэжысёр змог бы расці. Такой атмасферай можа стаць акцёрскі калектыў". К.Саннікаў пачаў практыкаваць набор акцёрска-рэжысёрскіх курсаў.



*Народны артыст Барыс ПЛАТОНАЎ на рэпетыцыі.*

12 ліпеня 1965 г. К.Саннікава не стала, яго працу працягнула народная артыстка РСФСР, прафесар Вера Рэдліх, якая ўзначаліла кафедру рэжысуры.




У 1966 г. кафедра майстэрства акцёра была аб'яднана з кафедрай рэжысуры і ўзначаліў яе заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі Уладзімір Маланкін, які атрымаў выдатную акцёрскую падрыхтоўку (курс Д.Арлова, 1952), а пазней закончыў рэжысёрскае аддзяленне ДІТМ імя А.Луначарскага (курс А.Папова і М.Кнебель). Прыход У.Маланкіна ў БДТМІ супадае з перабудовай усёй навучальна-выхаваўчай працы акцёрскага факультэта. У сістэме выхавання студэнтаў У.Маланкін замацоўвае вопыт сумеснага навучання акцёра і рэжысёра у адной групе. Ён заўсёды ставіўся да студэнта як да мастака. Яго меркаванні і ацэнкі экзаменацыйных прац служылі эталонам аб'ектыўнасці, высокай кампетэнцыі і бескампраміснасці. Самае галоўнае, што вызначала яго творчую асобу — абвостранае непрыняцце фальшу ва ўсіх праявах. Ён імкнуўся вярнуць на заняткі завешчаную лепшымі беларускімі тэатральнымі педагогамі глыбіню спасціжэння ўнутранага свету чалавека. Пастаноўка спектакля "Дзядзька Ваня" А.Чэхава была апошняй творчай працай У.Маланкіна ў інстытуце.

У 1967 г. у БДТМІ была адкрыта новая спецыялізацыя — "рэжысура народнага тэатра" з дзённай і завочнай формамі навучання, а ў 1968 — спецыялізацыя "кіраўнік самадзейнага тэатральнага калектыву".

У 1972 г. загадам Міністэрства вышэйшай і сярэдняй спецыяльнай адукацыі БССР кафедра майстэрства акцёра і рэжысуры была рэарганізавана ў дзве самастойныя кафедры: майстэрства акцёра і рэжысура самадзейнага тэатра і культасветработы.

З адкрыццём Мінскага інстытута культуры (1975 г.) амаль усе выкладчыкі кафедры

"Рэжысура самадзейнага тэатра і культасветработы" былі пераведзены ў новую ВНУ.

Важнай падзеяй у творчым жыцці тэатральнага факультэта з'явілася адкрыццё ў 1974 г. на кафедры майстэрства акцёра і рэжысуры спецыялізацыі рэжысура тэлебачыння з дзённай і завочнай формамі навучання. Першы набор зрабіў вядучы рэжысёр Беларускага тэлебачыння, заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі Віктар Карпілаў.

З кафедрай майстэрства акцёра і рэжысуры звязаны імёны заслужанага дзеяча мастацтваў Аляксандра Бутакова, народнага артыста Беларусі Георгія Волкава, былой балерыны Ленінградскага акадэмічнага тэатра оперы і балета Валянціны Дудко, заслужанага артыста Беларусі прафесара Ільі Кургана і многіх іншых.



Сцэна са спектакля "Несцерка" ў студэнцкім тэатры.

З 1985 г. на кафедры майстэрства акцёра і рэжысуры новы загадчык — заслужаны артыст Беларусі Уладзімір Мішчанчук, асноўная ўвага і клопат якога скіравана на студэнта, на фарміраванне яго творчай індывідуальнасці.

У 1975 г. на тэатральным факультэце адкрыта спецыялізацыя "акцёр тэатра лялек". Першы курс набраў галоўны рэжысёр Дзяржаўнага тэатра лялек Беларусі, народны артыст Беларусі Анатоль Аляксандравіч Ляляўскі. Ён ніколі не ставіў знак роўнасці



У студэнцкія гады: народная артыстка Беларусі Лілія ДАВІДОВІЧ, заслужаная артыстка Беларусі Зінаіда ЗУБКОВА, заслужаны дзеяч мастацтваў Расіі Алена ЯЛЕНСКАЯ.



Прафесар Кастусь САННІКАЎ з удзельнікамі спектакля "Мяшчане", 1949 г.

паміж акцёрамі драматычнага тэатра і тэатра лялек, хаця лічыў, што імкнене да арганічнага існавання ў вобразе неабходна і абавязкова як для адных, так і для другіх. А.Ляляўскі падрыхтаваў да прафесійнай дзейнасці чатыры выпускі акцёраў тэатра лялек, якія паспяхова працуюць у тэатрах Мінска, Брэста, Гомеля, Магілёва, Гродна.

1989 г. стаў багаты на адкрыццё новых спецыялізацый на рэжысёрскім аддзяленні тэатральнага факультэта: рэжысура мастацкага фільма (мастацкі кіраўнік курса — народны артыст СССР Віктар Тураў), рэжысура дакументальнага фільма (мастацкі кіраўнік курса — народны артыст Беларусі Віктар Дашук), рэжысура тэатра лялек (мастацкі кіраўнік курса — галоўны рэжысёр Дзяржаўнага тэатра лялек Беларусі Аляксей Ляляўскі).

А ў 1990 г. на акцёрскім аддзяленні адбыўся першы набор на спецыялізацыю "акцёр драмтэатра, кіно, чытальнік" (мастацкі кіраўнік курса — кандыдат педагагічных навук, дацэнт Андрэй Каляда), а кафедра майстэрства акцёра і рэжысуры была падзелена на дзве самастойныя: майстэрства акцёра і рэжысуры. Выконваць абавязкі загадчыка кафедры майстэрства акцёра была прызначана вучаніца народнага артыста Беларусі, прафесара К.Саннікава і народнай артысткі РСФСР, прафесара В.Рэдліх — Лідзія Манакова. Асновы тэатральнай педагогікі яна спасцігала ў сумеснай працы і пад кіраўніцтвам У.Маланкіна, з якім падрыхтавала некалькі выпускаў. Маючы амаль дваццацігадовы педагагічны стаж працы на акцёрскім і рэжысёрскім аддзяленнях БДТМІ, Л.Манакова два гады працавала галоўным рэжысёрам Гомельскага драматычнага тэатра. На пасадзе загадчыка кафедры майстэрства акцёра яна прытрымліваецца асноўных прынцыпаў выхавання акцёраў і рэжысёраў, якімі кіравалiся яе настаўнікі, узяла курс на далейшае ўдасканаленне методыкі навучання асновам акцёрска-рэжысёрскай прафесіі і пошук новых формаў прафесійнай падрыхтоўкі дзеячаў тэатральнага мастацтва. У склад кафедры ўвайшлі выкладчыкі майстэрства акцёра, сцэнічнай мовы, сольных спеваў.

У 1990 г. кафедра рэжысуры стала самастойным структурным падраздзяленнем інстытута, яе ўзначаліў заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі, дацэнт Уладзімір Забела, які набраў курс па спецыялізацыі "рэжысёр тэлебачання". У склад кафедры ўвайшлі выкладчыкі рэжысуры, сцэнічнага руху, сцэнічнага танца.

У 1992 г. упершыню набраны курс па спецыялізацыі "тэлеаператарства" (завочная форма навучання), у 1993 г. — на спецыялізацыю "гукарэжысёр тэлерадыё і кіно" (завочна) і тэлеаператарства (дзённая форма навучання).

У 1994 г. кафедры майстэрства акцёра і рэжысуры былі аб'яднаны, а на тэатральным факультэце ўтворана новая кафедра — кінатэлемастацтва. Галоўная задача гэтай кафедры, якую ўзначаліў У.Забела — падрыхтоўка нацыянальных кадраў па ўсіх спецыяльнасцях кінатэлемастацтва і радыё.

**Андрэй КАЛЯДА,**
**прарэктар па навучальнай працы, прафесар**

# ТОЛЬКІ ТАДЫ АДГУКНЕЦЦА ДУША...

## КОЛЬКІ ЗАЦЕМАК З НАГОДЫ ЮБІЛЕЮ

***Як хацелася б са шчырай радасцю гаварыць пра сённяшні юбілей, прыгадваць толькі лепшыя, бліскучыя і прыемныя сэрцу падзеі — даўнія і нядаўнія, з гісторыі юбіляра, каб сцвердзіць з найпрыгажэйшага боку пяцідзесяцігоддзе Беларускай акадэміі мастацтваў. Бо, зрэшты, і ўзгадваць ёсць што і пра што. Складаны і трагічны лёс беларускага народа цягам стагоддзяў не спрыяў развіццю прафесійнага мастацтва. Што ж датычыць прафесійнай адукацыі, дык яе таленавітыя нашы суайчыннікі атрымлівалі ў Санкт-Пецярбурзе, Маскве, Варшаве, з прычыны чаго многія з іх пасля на радзіму не вярталіся. І цяпер яны — спрэчныя асобы для культур памежных народаў — рускіх, палякаў, літоўцаў. Стварэнне ў Віцебску ў 20-30-я гады Мастацкай школы было з'явай кароткачасовай, бурнае мастацкае жыццё там, на жаль, не мела грунтоўнага працягу.***

Таму адкрыццё акадэміі (спачатку ў 1945 г. быў адкрыты Тэатральны інстытут, а ў 1953 г. пераутвораны ў Тэатральна-мастацкі) сталася фактам вызначальным — распачалася падрыхтоўка нацыянальных творчых кадраў. І распачалі яе мастакі, акцёры, рэжысёры, у асноўным запрошаныя з іншых рэспублік. Гэта цяпер ужо працуюць у акадэміі яе былыя выпускнікі, сёння вядомыя майстры, склаліся свае традыцыі, нацыянальныя школы. Цяпер праз павагу да мастацкай прафесійнай адукацыі ў Беларускай акадэміі мастацтваў з боку замежных калег і мастакоў мы нібы сцвярджаемся і самі як стваральная і таленавітая нацыя. На жаль, доўгі час нейкай агульнанацыянальнай нашай хваробай было — прыніжаць саміх сябе. Не пераадолена яна і сёння. Можа, нават апошнім часам хвароба гэтая ці не абвастрылася.

Так, малавата ў нас умоў для далейшага развіцця маладых мастакоў. Мастацкае жыццё па-за межамі сталіцы ніяк не назавеш бурлівым (гэта тычыцца не толькі мастакоў, але, думаецца, і акцёраў). Атрымаць майстэрню маладому выпускніку той жа акадэміі амаль бесперспектыўна. Выкладчыкамі становяцца толькі найлепшыя, іншыя проста перабіваюцца асобнымі заказамі і выпадковымі заробкамі, працуючы на кухні альбо на балконе. А якая вялікая ахвяра нашаму неўладкаванаму быту! Маю на ўвазе найперш дзяўчат: колькі іх, таленавітых і перспектыўных, знікла ў хатніх, кухонных клопатах і турботах.

Сумная зусім была б карціна, калі б не але... Усё ж моладзь апошнім часам змагла на свае вочы ўбачыць, якія мы непаўторныя, непадобныя ў мастацтве на іншыя народы. Гэта тычыцца і фрэскавага жывапісу, і іканапісу, і жывапісу на шкле, і дыванкоў, і народнага мастацтва, і ткацтва і г.д. Гэта тычыцца і цікавасці да сучасных беларускіх мастакоў у Германіі, Амерыцы, Францыі, нават у Японіі. Моладзі ёсць чым натхняцца ў сваёй творчасці, што аналізаваць, рабіць высновы з пластыкі нашай мастацкай спадчыны. Варта згадаць, што шмат студэнтаў і выпускнікоў акадэміі распрацоўваюць, спалучаючы традыцыі мінулага і сучаснага мастацтва, цікавыя шклом, батыкам, знаходзячы ў гэтым нешта ўласнае, адметнае, цікавае. Штогодня выставы дыпломных прац, ды і самі абароны іх становяцца святам пошукаў і эксперыментаў. І тут усе абвінавачанні акадэміі ў рэтраградстве, кансерватыўнасці яўна беспадстаўныя. Пра гэта сведчаць канструктыўныя пошукі, спалучэнні розных мастацкіх сродкаў, скульптурныя знаходкі, габелены, роспісы, мадэлі адзення, металаапрацоўчыя вышукі, не гаворачы ўжо пра шкло, кераміку, інтэр'ер, мэблю, дызайн. Штогод упэўніваешся, што наша рэспубліка мае ўсе падставы стаць "кветнікам" мастацтваў. На жаль, дасюль мы мусім даказваць гэта самім сабе.

У шэрагу выстаў, якія былі падрыхтаваны да юбілею Беларускай акадэміі мастацтваў, у музеі акадэміі адчынілася экспазіцыя шасці выхаванак Мастацкай акадэміі Мюнстэра (яны прыехалі ў Мінск разам з прафесарам Уда Шээлем). Гэта выстава — частка мастацкага турнэ "манументальна-мінімальна", якое праводзіць Уда Шээль разам са сваімі студэнткамі ў гарадах ФРГ. У Мінск яны прывезлі так званую "выставу ў чамадане" — мінімальны аспект экспазіцыі. Тут прадстаўлены карціны, эскізы, мініяцюры, усё, што можа змясціцца ў чамадане для перавозкі праз мяжу. Але, як мяркуюць самі ўдзельнікі экспазіцыі, экспазіцыя дае мастацкае ўяўленне пра шырокі спектр жывапісу Мастацкай акадэміі Мюнстэра, горада студэнтаў і мастацтваў.

У нас жа галерэі можна пералічыць на пальцах, а тых, што ўсур'ёз займаюцца выставачнай дзейнасцю, увогуле адзінкі. Былы Палац мастацтваў (цяпер Нацыянальная мастацкая галерэя) сёння заняты пад продаж хатніх прылад і правядзенне прамысловых ярмарак, усе ягоныя мастацкія выставы мусяць трымацца на спонсарах. Прэстыжная для мінскіх мастакоў галерэя ў Нацыянальным мастацкім музеі дужа спецыфічная і вымагае вельмі дакладнага падыходу да адбору работ у экспазіцыю. Зрэшты, з ёй не вельмі стасуюцца эксперыментальныя выставы моладзі. Добрая традыцыя, якая распачыналася ў Мінску некалькі год таму, — правядзенне выстаў аднаго дня ў парку Янкі Купалы, — на вялікі жаль, досыць хутка "сышла ў нябыт". А вось яшчэ адзін яскравы, ужо нядаўні прыклад. У межах падрыхтоўкі да юбілею акадэміі адчынілася выстава маладога выкладчыка Сяргея Сялецкага. Ягоны жывапіс, па сутнасці, размясцілі так, што атрымалася выстава ў "калідоры", а гэта не дазваляе адпаведна ўспрымаць жывапіс, разлічаны на погляд здалёк. Карацей кажучы, ну аніяк не падыходзім мы пад азначэнне горада мастацтваў.

Затое само мастацтва, заснаванае на прафесійным грунце, дужа цікавае. І гэта ўсцешвае і натхняе. Маладыя беларускія мастакі шукаюць і ў канструктывізме, і ў жывапіснай пластыцы, і ў колеры і г.д. Яны "распрацоўваюць" метафізічныя аспекты і колеравыя эмоцыі, цікавяцца батальнымі сцэнамі і дакладна-рэалістычнымі кампазіцыямі. І, падалося мне, іх пошукі намнога глыбейшыя, чым распрацоўкі нямецкіх студэнтаў і нават іх выкладчыка. Бо пошук формаў без асэнсавання зместу, ідэі, без трывалых прафесійных падстаў (якія дае толькі акадэмічнае навучанне з пастаноўкамі, маляваннем натуры і г.д., што не практыкуецца на Захадзе, у прыватнасці ў Мастацкай акадэміі Мюнстэра), вельмі хутка становіцца бесперспектыўным, бо пачынае ствараць эстэтыку без эмоцый. А якое можа быць мастацтва, калі яно не закранае душу?

**Н. Ш.**

# ПРЫГОЖЫЯ ВЫРАБЫ МАЙСТРОЎ



Валянціна Голад (на здымку) авалодала майстэрствам лазапляцення даўно, і сёння яна — адна з лепшых майстроў на Мазырскай фабрыцы мастацкіх вырабаў. Падзелкі, якія В.Голад робіць са сваімі калегамі, карыстаюцца вялікім попытам.

*Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА, БЕЛТА*

# НА МАЛЕНЬКАЙ ФЕРМЕ,



што належыць Адаму Гімінскаму і налічвае каля тузіна работнікаў, штогод збіраецца ад 50 да 80 тысяч дамкоў для птушак — прадукцыя выпускаецца галоўным чынам на экспарт, што з'яўляецца найбольш выгадным. Простага выгляду і экалагічна чыстыя "дамкі" і "кармушкі" вырабляюцца толькі з натуральных матэрыялаў.

*Фота ПАП / ЦАФ-БЕЛТА*

# ПАДБАЛОЦКАЯ "САВЕРЫНКА"



Шмат гадоў славіцца сваім фальклорным калектывам "Саверынка" Падбалоцкі сельскі Дом культуры Зэльвенскага раёна. Яго ўдзельніцам ад 20 да 80 гадоў. Рэпертуар калектыву разнастайны. Спяваюць беларускія, рускія, польскія, украінскія песні. Нядаўна "Саверынка" заняла прызавое месца на абласным фальклорным фестывалі, што праходзіў у Гродне.

На здымку: удзельніцы фальклорнага калектыву "Саверынка" Станіслаў Кузьміч, Уладзіслава Нядзведская, Ядвіга Кавалевіч, Уршула Пракаповіч і Саверына Кузьміч.

*Фота Рамана КАБЯКА, БЕЛТА*

# ...У НЕПРАФЕСІЙНЫХ УМОВАХ МЫ РЫХТАВАЛІ ПРАФЕСІЯНАЛАЎ

*(Працяг. Пачатак на стар. 5)*

гаворыце? Зразумела, мне шкада, што я не маю магчымасці да канца самарэалізавацца ў творчасці. Але ў той час я не змог адмовіцца ад таго даверу, які мне аказаў калектыў, бо акадэмія — мой другі дом.

Я вырас у сценах Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута (цяпер - Беларускай акадэміі мастацтваў), тут сфарміраваўся як творчая асоба. Паступіў у інстытут у 1960 годзе, скончыўшы мастацкую вучэльню. У гэтых сценах — трыццаць пяць год. Быў выкладчыкам, семнаццаць год загадваў кафедрай графікі, тры гады працаваў прарэктарам. І вось ужо сёмы год — рэктарам.

**— Я ведаю, што вы спрабуеце ці цяпер, мабыць, трэба гаварыць — спрабавалі здзейсніць ідэю пабудовы новай, сучаснай, еўрапейскай акадэміі мастацтваў. Так бы мовіць, новага дома. Ідэя гэта набывала нават канкрэтныя, рэальныя рысы. Быў зроблены праект акадэмічнага гарадка, выдзелена зямля. Але ж "воз і цяпер там". Няўжо сапраўды застанецца на той зямлі толькі саўгасныя грады з бульбай? Няўжо новая акадэмія застанецца марай, якой не дадзена здзейсніцца?**

— Чалавек, які пражыў у адных сценах трыццаць пяць год, не можа не лічыць іх сваім домам. Але гэтыя сцены не адпавядаюць сутнасці нашага навучальнага працэсу па чыста тэхнічных прычынах. Са студэнцкіх год я адчуваў, якія недасканалыя ў нас памяшканні. І ўсе мы, выкладчыкі і студэнты, марылі, што калі-небудзь у нас будзе сапраўдны прафесійны будынак з сапраўднымі навучальнымі майстэрнямі. А дагэтуль мы мусілі ў непрафесійных умовах рыхтаваць прафесіяналаў.

Мне здавалася, што, стаўшы рэктарам, я здолею здзесніць гэту мару не аднаго пакалення мастакоў. Бо акадэмія мастацтваў — адзіная навучальная ўстанова ў рэспубліцы, для якой не было пабудавана спецыяльнага будынка. Ужо ў 1956 годзе, калі гэты будынак быў перададзены Тэатральна-мастацкаму інстытуту, ён не задавальняў размешчаны тут фінансавы тэхнікум. А нам, атрымліваецца, ён і па сённяшні дзень падыходзіць! Гэта сведчыць пра адносіны да культуры былых улад, калі пры наяўнасці аднаго гросмайстра ў рэспубліцы быў адбудаваны шахматна-шашачны клуб, а для пабудовы новай мастацкай навучальнай установы не было зроблена нават тэарэтычных захадаў.

І вось нарэшце ў 1990 годзе нашы просьбы былі пачуты ўрадам. Была падпісана пастанова аб зацвярджэнні ТЭР (тэхніка-эканамічных разлікаў) з пачаткам будаўніцтва акадэмічнага гарадка ў 1994 годзе. Гэта быў вялікі крок наперад. Мы прапрацавалі мноства пытанняў, зрабілі праект, рабочыя чарцяжы першай чаргі, атрымалі зямлю на праспекце Машэрава (27 гектараў). Па сутнасці, зрабілі тытанічную працу.

Сёння — 1995 год. Саўгас нешта садзіць на нашай зямлі. І можа, праўда, разбіць там агароды, каб падсілкоўваўся калектыў. бо ўрад не выканаў свайго абяцання. У 1994 годзе будаўніцтва не пачалося.

Знаходзіліся і інвестары, і спонсары, тым больш, што праект акадэміі атрымаўся выдатны. Гэта павінен быў быць не проста адукацыйны, але і культурна-асветніцкі, шматфункцыянальны цэнтр. Ён павінен быў замацаваць нашы планы па стварэнні адзінай сістэмы мастацкай адукацыі. Дарэчы, справаздачная выстава ў Рэспубліканскай мастацкай галерэі пачнецца менавіта з макета будучай акадэміі. Праект гэты выстаўляўся у многіх краінах свету, зацікавіў і спонсараў. Але справа ў тым, што распачаць будаўніцтва павінны мы самі, наша дзяржава. І прыводзіць людзей мы мусім не на пустое месца, хай сабе і засаджанае свірэпкай...

Шмат тых высілкаў, тых гадоў, што марна пакладзены на справу нераспачатага будаўніцтва. І мы зноў патрацім мільёны рублёў, паднаўляючы, падфарбоўваючы стары наш будынак, каб хоць знешне надаць яму прыстойны выгляд.

На жаль, часта прыходзяць у галаву такія сумныя думкі, калі згадваеш, колькі зроблены без рэальнай аддачы. А за гэты час я нешта стварыў бы, працуючы ў майстэрні. Але, тым не менш, я не сумняваюся ў правільнасці майго выбару паміж творчасцю і грамадскай работай. Бо намагаўся зрабіць для развіцця і сталення мастацтва ў Беларусі ўсё, што толькі было ў маіх сілах.




*Народны мастак Беларусі, прафесар Гаўрыіл ВАШЧАНКА з выкладчыкамі акадэміі.*



# У ПРАСТОРЫ КУЛЬТУРЫ

26 кастрычніка спектаклем "Страсці па Аўдзею" адкрыўся "Фестываль сяброў" — сустрэча тэатраў Беларусі, Літвы, Украіны, Польшчы і Расіі. Прысвечаны ён 75-ай гадавіне з дня ўтварэння Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы. 31 кастрычніка і 1 лістапада праграму ўласна тэатральную будзе дапаўняць навукова-творчая канферэнцыя "Тэатральнае мастацтва Беларусі ў прасторы сусветнай культуры", мэты якой наступныя: аналіз асаблівасці гістарычнага шляху станаўлення тэатра імя Янкі Купалы, абагульненне ролі і значэння купалаўскай трупы ў развіцці тэатральнага мастацтва Беларусі, вызначэнне месца беларускага тэатра ў еўрапейскай культуры і, нарэшце, абмеркаванне перспектывы далейшага творчага ўзаемадзеяння нацыянальных еўрапейскіх сцэнічных культур у новых гістарычных вымярэннях. І "Фестывалем сяброў", і канферэнцыяй апекуюцца Міністэрства культуры і друку Беларусі, Нацыянальны акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы і цэнтр тэатральнай крытыкі Беларусі "Авансцэна".

# АДБУДЗЕЦЦА КАНФЕРЭНЦЫЯ

8 снежня 1995 года ў Літаратурным музеі М. Багдановіча адбудзецца Міжнародная навукова-практычная канферэнцыя "Лёс нацыянальнай культуры на паваротах гісторыі", прымеркаваная да 104-й гадавіны з дня нараджэння паэта. Заяўкі на ўдзел у канферэнцыі прымаюцца да 25 лістапада 1995 года па адрасе: *220029, Мінск, вул. М. Багдановіча, 7а. Тэлефоны для даведак: 34-07-61, 34-22-95.*

Арганізацыйны камітэт будзе ўдзячны ўсім арганізацыям, установам, якія выкажуць жаданне падтрымаць правядзенне канферэнцыі.



*У этнаграфічнай экспедыцыі. У цэнтры мастацтвазнаўца, прафесар Міхась РАМАНЮК.*




# І РАДАСЦЬ, І ТРЫВОГА...

Калі не памыляюся, у 1952 годзе ў Маскве ў Акадэміі мастацтва праходзіла Усесаюзная мастацкая выстава. На ёй было і маіх некалькі графічных работ. Выстаўлены яны былі ў экспазіцыі Літоўскай ССР.

Неяк я звярнуў увагу, што каля маіх работ стаяць двое наведвальнікаў і аб нечым гавораць па-беларуску. Вядома ж, мне было цікава, што прыцягнула іх увагу. Але спачатку — адно тлумачэнне.

Па існуючай традыцыі, гравюра ці адбітак са зробленай мастаком-графікам друкарскай формы абавязкова ўнізе падпісваецца звычайным чорным алоўкам, злева пазначаецца парадкавы нумар адбітка і матэрыял, з якога зроблена друкарская форма (напрыклад, лінагравюра, літаграфія ці афорт), у цэнтры пішацца назва твора, а з правага боку ставіцца подпіс аўтара і год стварэння. На выставе былі мае гравюры з серыі "Вызваленне і адбудова Вільнюса".

Дык вось, гэтыя двое звярнулі ўвагу на тое, што работы мае — на тэму Літвы і змешчаны ў літоўскім раздзеле выставы, а надпісы зроблены па-беларуску. Ці то нейкі абеларушаны літовец, ці то злітоўлены беларус, — пачуў я іх словы. Я не стрымаўся, сказаў незнаёмым, што гэта я, аўтар работ, злітоўлены беларус. Так мы і пазнаёміліся. Я распавёў ім, што родам з-пад Наваградка, але закончыў мастацкую акадэмію ў Вільнюсе, за час вучобы вывучыў там літоўскую мову і зараз выкладаю мастацтва графікі ў літоўскай акадэміі выяўленчага мастацтва. Адным з маіх новых знаёмых быў міністр культуры Беларусі Рыгор Якаўлевіч Кісялёў. Гэта быў чалавек вялікай унутранай культуры. А разглядаў ён мае эстампы гэтак уважліва таму, што ў Беларусі на той час, можна сказаць, не было мастацтва графікі. На ўсесаюзным мастацкім аглядзе ў Маскве былі прадстаўлены ў асноўным жывапісныя і скульптурныя работы. Бо, як вядома, для таго, каб надрукаваць гравюру, патрэбна спецыяльная эстампная майстэрня, якой у той час у Беларусі не было. Мы разгаварыліся. Рыгор Якаўлевіч сказаў мне, што ў будучым годзе ў Мінску мае адкрыцца мастацкі факультэт пры Тэатральным інстытуце і што плануецца аддзяленне жывапісу, графікі і скульптуры, і калі я згодны, то міністэрства запросіць мяне выкладаць графіку ў новым інстытуце. З найвялікшаю ахвотай, адказаў я, бо хаця і вельмі добра адчуваю сябе ў Літве, але, тым не менш, мару працаваць у роднай Беларусі.

За сваё жыццё я шмат разоў сустракаўся, быў на прыёме ў розных высокага рангу службовых асоб, але калі я праз год быў на прыёме ў міністра і мы абгаворвалі падрабязней справы, звязаныя з арганізацыяй эстампнай майстэрні пры інстытуце, той дзень, мабыць, запомніўся мне на ўсё жыццё. Настолькі добразычлівымі былі адносіны да гэтай справы ўсіх зацікаўленых асоб: і дырэктара інстытута Іосіфа Прыса, і ў аддзеле культуры ЦК, і ў камітэце дзяржаўнай бяспекі, дзе, як вядома, трэба было аформіць адпаведныя дакументы на функцыянаванне друкарскага абсталявання. Пахадзіў я па тагачасных друкарнях Мінска і на складзе Дома друку знайшлося некалькі друкарскіх станкоў, якія нам без ніякіх праблем ахвотна перадалі. Праз нейкі час мы іх прыстасавалі, дарабілі сякія-такія дэталі, і ў оперным тэатры, а інстытут наш якраз і размяшчаўся ў некалькіх невялічкіх пакоях у гэтым будынку, была гатовая эстампная майстэрня. Першыя студэнты графічнага аддзялення, цяпер гэта ўжо вядомыя ў рэспубліцы мастакі, пачалі асвойваць новы від мастацтва.

І недзе з пачатку шасцідзесятых гадоў наша графічнае выяўленчае мастацтва расцвіло, пра нас загаварылі, сталі згадваць і на старонках друку, і на ўсесаюзных, і на замежных выставах. Беларуская графіка заняла пачэснае месца ў нашай культуры і мы мелі ўсе падставы ганарыцца гэтым відам мастацтва. Пазней такая ж майстэрня была арганізавана і пры мастацкім камбінаце.

Але, вядома ж, галоўную ролю ў развіцці графічнага мастацтва адыграў наш тэатральна-мастацкі інстытут, які цяпер разросся і стаў акадэміяй. Спачатку ж, як я казаў, размяшчаўся ён у некалькіх невялічкіх пакойчыках у оперным тэатры. Студэнты-графікі займаліся тут жа каля друкарскіх станкоў, а я начаваў там з паўгода, пакуль не атрымаў месца ў інтэрнаце. Жывапіс і малюнак "праходзілі" ў двух мансардах,што цяпер на праспекце Скарыны каля кафэ "Вясна". У адной мансардзе была майстэрня А.Волкава, а ў другой — В.Цвірко; скульптары ж ездзілі ў майстэрню А.Бембеля. Праз пару гадоў студэнтаў прыбыло і мы дадаткова арандавалі невялічкі пакойчык у Палацы прафсаюзаў на Цэнтральнай плошчы. Такім чынам студэнтам даводзілася ездзіць штодня па горадзе: на заняткі па пластычнай анатоміі — у медінстытут, на жывапіс і малюнак — на праспект, на тэарэтычныя прадметы — у оперны тэатр. Не трэба ж забывацца, што Мінск тады амаль цалкам ляжаў у руінах і толькі-толькі набірала тэмп будаўніцтва.

Гадоў праз пяць нам далі два паверхі ў доме на Даўгабродскай вуліцы (цяпер — Змітрака Бядулі), а графіка па-ранейшаму заставалася ў оперным тэатры. А потым, нарэшце, нам далі будынак фінтэхнікума, дзе і зараз размяшчаецца наша Акадэмія мастацтваў. Дырэктарам стаў выдатны мастак-жывапісец Віталь Цвірко. Пакрысе адкрыліся новыя факультэты, прынялі на працу шмат новых таленавітых педагогаў, выпускнікоў нашага інстытута. Яны, на жаль, паспяшаліся пастарэць, адпусцілі вусы і бароды, а многіх я памятаю маладымі, зялёнымі першакурснікамі. І часам, заходзячы ў акадэмію, гляджу на той друкарскі станок і прэс і ад іх вее нечым блізкім, бо быў я там роўна пятнаццаць гадоў, мне там усё сваё, роднае.

Я так падрабязна кранаюся гісторыі мастацтва графікі ў нас таму, што ў любой справе вельмі шмат залежыць ад людзей, якія кіруюць, якім даручана займацца той ці іншай справай, рабіць засеўкі, асабліва таго, што адносіцца да паняцця культуры. Бываючы на шматлікіх мастацкіх выставах апошніх двух-трох дзесяткаў гадоў, гледзячы на выдатныя, на высокім мастацкім і тэхнічным узроўні выкананыя эстампы, абавязкова трэба адзначыць і важную ролю, якую адыгралі ў гэтай справе майстры-друкары, такія, як Мікалай Цюцікаў, Дзмітрый Малаткоў, Вячаслаў Ісакаў. У свой час яны дапамагалі студэнтам друкаваць гравюры, бо працэс гэты даволі складаны. Тут даводзіцца спалучаць, так бы мовіць, працу філосафа і качагара. Але затое як свяціліся вочы студэнтаў, калі бачылі першыя адбіткі сваіх гравюр.

Ва ўсіх цывілізаваных краінах свету выяўленчае мастацтва займае пачэснае месца. Гэта можна заўважыць, гледзячы замежныя фільмы, дзе ўсе інтэр'еры, як правіла, багата ўпрыгожаны карцінамі. На жаль, наша традыцыйная беднасць, а можа, і нізкі культурны ўзровень не спрыяюць гэтаму. Бываючы ў розных дзяржаўных установах, я, акрамя ўсяго, звяртаў увагу і на іншую "дробязь". Вельмі рэдка даводзіцца бачыць на сцяне ў кабінетах нават і "высокага" начальства арыгінальны твор выяўленчага мастацтва. Многія не адчуваюць у гэтым патрэбы, бо павага да мастацтва не была прывіта ў сям'і, школе, і чалавек застаўся духоўна збедненым. Вядома, гэта асобная тэма для размовы, якую, спадзяюся, мастакі рэспублікі павядуць на чарговым сваім з'ездзе.

Мяне, як і ўвесь наш саюз, моцна хвалюе лёс нашай культуры, асабліва выяўленчага мастацтва.

Трэба шчыра сказаць, што апошнім часам узяты накірунак на вынішчэнне прафесійнага выяўленчага мастацтва. Інакш чым растлумачыць, што мастак мусіць плаціць арэндную плату за майстэрню як за камерцыйнае прадпрыемства? Акрамя звычайнай арэнднай платы яшчэ налічваецца падатак на зямлю, на нерухомасць, на прэстыжнасць, на дадатковую вартасць! А дзяржаўных заказаў на творы графічнага мастацтва па сутнасці няма, і пры такіх умовах наша мастацтва графікі знікне, апынецца на аматарскім узроўні і аднавіць яго будзе не проста, а мо і зусім немагчыма.

**Сямён ГЕРУС**



*С.ГЕРУС. Гравюра "Стары Мінск", адна з першых, надрукаваных у друкарскіх майстэрнях у оперным тэатры.*



*Народны мастак Беларусі Павел МАСЛЕНІКАЎ са студэнтамі.*



*Народны мастак Беларусі, выпускнік акадэміі Леанід ШЧАМЯЛЁЎ каля сваёй дыпломнай работы.*



*У майстэрні прафесара Андрэя БЕМБЕЛЯ.*

## АРКЕСТР-ЗАГАДКА?



**Пра Мінскі аркестр "Калегіум музікум" пачуеш living рознае і няўцямнае. Маўляў, ёсць такі калектыў. Здаецца, аматарскі. А мо нават не аматарскі — а проста "аркестр на гадзіну": збіраюцца музыканты, шторaз іншыя, пайграюць дзеля ўласнага задавальнення — і разбягуцца кожны ў свой бок...**

**Чуткі чуткамі, а што ж напраўду?**

**Хаця "ЛіМ" колькі гадоў таму і знаёміў чытача з гэтым загадкавым аркестрам, але ж ініцыятыва знаёмства зыходзіла ад асобы зацікаўленай, якая вяла канцэрты. Дый час ідзе, ствараючы прэцэдэнт — пазнаёміцца з калектывам нібыта наноў. Урачыстае адкрыццё сёлетняга, пятага сезона музычных асамблеяў сімфанічнага аркестра "Калегіум музікум" адбывалася на яго заўсёднай "пляцоўцы" — у Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі. Эфектна! Беламармуровае атачэнне, суседства некалькіх прыцягальных выставак, сталічны бамонд, прысутнасць замежных дыпламатаў. Абмежаванасць "пасадачных месцаў" стварала спрыяльныя ўмовы для гукавых эксперыментаў — для тых, каму тых месцаў не хапіла. Публіка пачувалася гэткім вольным нефармалам, які можа нязмушана абаперціся на балюстраду, або пашпацыраваць па галерэі, або сцішыцца на ўпадабанай шырокай прыступцы...**

**Сама праграма канцэрта абвяргала тую частку чутак, што тычацца "аркестра на гадзіну". Першы фартэпіянны канцэрт С. Пракоф'ева, Пятая сімфонія П. Чайкоўскага — гэта немагчыма нават элементарна агучыць, калі працаваць па прынцыпе "сабраліся, пайгралі, разбегліся". Значыцца, чуткі наконт "аматаршчыны" перабольшаны аматарамі чутак. Заняўшы крэсла ў сёмым радзе "партэра", я наважылася ўважліва слухаць, каб разгадаць загадку аркестра.**

**Ведаеце, гэта аказалася справай пакутліва-нялёгкай. І пасля канцэрта я прызналася мастацкаму кіраўніку Вячаславу Бартноўскаму ў сваіх пакутах. Сюрпрызы акустыкі, якія чакалі мяне на такім, здавалася б, шчаслівым месцы, толькі прымножылі загадкавасць гэтай мастацкай з'явы — "Калегіум музікум". Багаты "голас" струннай групы — і прыкрыя "кляксы" ў медных. Велічнае гучанне аркестравых tutti — і дзіўны баланс тэмбравай палітры, які рэтушуе галоўную тэму і ад партыі саліста пакідае толькі чыста "зрокавы вобраз" — постаць за раялем. Відаць, я зрабіла памылку, атабарыўшыся ў "партэры": гэта было раўназначна таму, што разглядаць палотны імпрэсіяністаў з лупаю ля вачэй. Але ж усе шаноўныя і дасведчаныя ў музыцы людзі таксама слухалі канцэрт не з галерэі, дзе, напэўна ж, усё гучала іначай.**

**І ўсё ж... "Калегіум музікум" парадаваў ансамблем з амерыканскім тэнарам Рычардам Эстасам — асабліва гожа паказаўся ён у неапалітанскіх песнях, дый славутая арыя з "Тоскі" выклікала авацыю. "Калегіум музікум" пацвердзіў сваю добрую традыцыю — выступаць разам з выдатнымі беларускімі салістамі: на гэты раз яго партнёрам быў Ігар Алоўнікаў. "Калегіум музікум" даў магчымасць увайсці ў жывы сімфанічны свет Чайкоўскага, прынамсі, паслухаць непаўторную споведзь валторны ў Adagio Пятай сімфоніі...**

**Дзякуй Богу, што ў Мінску яшчэ ёсць музыканты, якія любяць мастацтва, якія спрабуюць працаваць на заходні манер — паводле кантрактнай сістэмы; якія выклікаюць цікавасць у замежных калег і таму маюць надзею на перспектыўнасць сваёй справы. Біяграфію камернага аркестра "Калегіум музікум" пачыналі пісаць энтузіясты, музыканты-педагогі. За 10 гадоў сфарміраваўся досыць сталы недзяржаўны калектыў прафесіяналаў, якіх падтрымлівае генеральны спонсар — таварыства "Альфаком". З'явілася магчымасць для рэалізацыі замежных праектаў (сёлета, напрыклад, "Калегіум музікум" выступаў у Францыі). З'явіліся ідэі па стварэнні арыгінальнага беларускага рэпертуару...**

**Ну, а як жа "канцэрт-загадка" на пачатку сезона? Праблему існавання ў складаных акустычных умовах, вядома, трэба вырашаць, шукаць аптымальны варыянт размяшчэння музыкантаў і слухачоў у прасторы музея. Гэта ў інтарэсах маладога калектыву. Дарэчы, 29 кастрычніка — новая сустрэча ў Нацыянальным мастацкім музеі: рыхтуецца праграма з твораў французскіх кампазітараў.**

**С. БЕРАСЦЕНЬ**

*На здымку Віт. АМІНАВА*

*Маэстра В. БАРТНОЎСКІ і спявак Р. ЭСТАС.*

# МЕСЯЧНАЯ САНАТА

*(Працяг. Пачатак на стар. 9)*

у школе была, дык і паступіла з першага заходу, і ўсё спачатку ішло добра, а цяпер... не ведаю, чым і скончыцца, — звязалася з іншаземцамі, баюся, каб не выключылі. Не выхаваў як след, і цяпер сам сябе караю. Хаця ўсё складаней, ох, як усё гэта няпроста, Гаркуша — выхоўвае не хто, а што. А якое яно, нашае што? Адной рукой робім дабро, а другой... Яны з намі яшчэ разбяруцца. Хаця, здаецца, сам з сабою я ўжо разабраўся. Я — там, на фронце, ну яшчэ адразу пасля вайны. Там маё ўсё..."

Гэтае "ўсё" ён вымавіў з націскам, і мне выразна пачулася нешта такое, што я падумаў: калі ён і цяпер ездзіць на Мікалайкаву стражу, дык, можа, ягонае "ўсё" і там, у Заліп'янскім лесе? І, здаецца, ён пацвердзіў маю здагадку: "Шкада Ліду... — Раптам ён схамянуўся, як быццам да яго толькі цяпер дайшло, хто я і адкуль: — Дарэчы, а чаго мы з табою тут сядзім? Хадзем да мяне, уяўляю, як узрадуецца Ліда! Яна часта ўспамінае Заліп'е, нечым яно запала ёй у душу, хоць, здаецца, толькі наездамі там і бывала. Зрэшты, гэта ж Заліп'е..."

Ён набраў нумар і сказаў у трубку: "Ліда, я іду, у нас будзе госць, наш агульны знаёмы". А ў кабінеце, ціха, дык я і чую, як насцярожана яна пытае: "Хто?" А ён: "Не скажу, хай гэта будзе для цябе сюрпрызам".

Гаркуша, ты трапіў у пастку! Што рабіць? З усіх сіл аднеквацца? Але ж ён толькі пра сваю дачку і сказаў нешта, а да маёй зязюлі чарга не дайшла, і калі адмовіцца ад запрашэння, дык чаго ж я да яго і ехаў? Трэба ісці. Але ж Лідка, шаршэ ля фам! Запала ў душу Заліп'е! Чым яно ёй запала — маім подлым падманам?.. Мела яна ад мяне ўжо адзін сюрпрыз, дык ці не турне яна мяне з парога?.. Пісацель, нічога ты ў гэтым не разумееш: пад прымусам не ступіў бы я на яе парог, але ж каб ты ведаў, як захацелася мне хоць раз зірнуць на яе, а тады хай, думаю, праганяе!..

Мажэйкаў дом, нават не дом, а драўляны акуратны дамок і яшчэ два ці тры гэткіх жа я ўбачыў у рэдкім скверы. Некалі гэтыя дамкі пабудавалі для высокага ляснога начальства, а яно, мабыць, адразу ж і абсадзіла іх дрэвамі. Гэта як той матрос — цяльняшку рвануў: "Плюй на грудзі — не магу жыць без мора!", а яны, бач, у горадзе не могуць жыць без лесу. Але які ж гэта лес — амерыканскія кляны, а з усіх жа бакоў цагляныя гмахі, дык і сквер пыльны, вытаптаны, аніводнай травінкі ў ім... Госпадзі, памажы!.. Ступілі на ганак, увайшлі ў калідор, Мажэйка адчыняе дзверы, прапускае мяне ў пярэднюю, і вось яна, гэтая страшная хвіліна, бо гэта ж яе, Лідчын, голас: "Божа, як ад цябе тхне дымам, Паша, я з другога пакоя чую!" — "Ліда, — гукае ёй Мажэйка, — сустракай госця. Глядзі, хто да нас прыйшоў!.."

І вось, пісацель, уяві сабе — яна выходзіць да нас з другога пакоя. Тая самая Лідка, толькі шмат прыгажэйшая. Некалі гэта быў бледны, стрыжаны пад хлопчыка анёлак, худзенькі, бо і грудзі, між намі, мужчынамі, кажучы, я, бывала, шукаў рукою, а цяпер яна так хараша папаўнела — і тварам, і фігураю, і валасы ў яе доўгія, не да плячэй, канечне, а ўсяго толькі прыгожа закруглены на шыі — відаць, да нашага прыходу яна паспела трошкі прычапурыцца. Але ж, браце, каб у сорак гадоў быць такой прыгожай, аднаго прычапурвання мала. Так, яна падабалася мне цяпер яшчэ больш, чым тады, калі з кірзавай сумкай цераз плячо я праводзіў яе дадому, і ў гэтым няма нічога дзіўнага: часам з гадамі жанчына становіцца нават прыгажэйшай, чым была ў дзеўках, бо там жа ў іх розныя прыхамаці — каб талію зберагчы і ўсё такое, словам, умяшанне ў прыроду, а тут у яе ўсё было натуральнае. І вось — яшчэ хвіліна, і я ўкленчу перад ёю, буду прасіць, каб хоць праз дваццаць год яна даравала мне маё колішняе свінства. Але ж тады ўсё адкрыецца Мажэйку, калі ён і так нечага не западозрыў, бо вельмі ж доўга мы адно з аднаго вачэй не зводзім.

"І праўда сюрпрыз, — сказала нарэшце Лідка. — Гаркуша... Праходзьце, Іван Адамавіч, даўно не было ў нас... такога дарагога... госця". Яна хвалявалася, бо я ж помніў, гаворка ў яе плаўная, пявучая, а цяпер яна запыналася, вымаўляла па два-тры словы і ледзьве не паўшэптам. Ды ўрэшце дала сабе рады і перавяла позірк на Мажэйку: "Праходзьце, мужчыны. Пасядзіце, пагаманіце, столькі гадоў не бачыліся, а я прыдумаю што-небудзь на стол".

Вядома, у хаце ў Мажэйкі ўсё было гарадское: мяккая, абабітая чорнай скураю канапа, цэлых тры, адна ля адной, шафы, у адным куце — вялікае, у рост чалавека, люстра, у другім тэлевізар, ну і само сабой — стол, крэслы, а што яшчэ было, дык, мабыць, раяль ці піяніна, я ў гэтым не разбіраюся. Але ж саджае мяне Мажэйка на канапу і кажа: "Мая Ліда цудоўна грае на фартэпіяна", дык вось што гэта было ў іх — фартэпіяна. Селі, а тут і Лідка нясе з кухні талерачкі, ну нарэшце — я зноў чую той даўні, пявучы яе галасок, бо яна пярэчыць Мажэйку: "Паша, не хвалі мяне так, я чырванею". Вейкі ў яе сарамліва апушчаныя, і што я заўважаю: яна скоса і так, знаеш, запаволена павяла вачамі ў мой бок, уздыхнула і выйшла на кухню. Што яны толькі з намі робяць, жанчыны! Ці, можа, мы з імі — аднаму Богу ведама.

Канечне, я прагаладаўся і быў не супраць, можа, не так выпіць, як закусіць. Але ж і выпілі. І раз чокнуліся, і другі — кілішкамі, маленькімі грамаў па пяцьдзесят, не больш, але ж у галаве закружыла, і вось ужо трэці раз яна, Лідка, чокаецца са мною, нешта гаворыць, а ўсё гэта наша застолле перада мною як у тумане, бачу толькі яе трошкі растуленыя, прыпухлыя вусны і тую шчылінку на сярэдзіне верхніх зубоў — з той пары, як развіталіся мы з Лідкаю ў кучаравым сасонніку, колькі жыву, столькі гэтую яе сімпатычную шчылінку і помню.

Мне трэба было развітацца і пайсці, пераначаваў бы на вакзале — не прывыкаць. Не пасмеў, адно прыўстаў за сталом і сеў — з такім дакорам яна на мяне зірнула. А Мажэйка сказаў: "Гаркуша, гэта нядобра, столькі гадоў не бачыліся, ты ж зірні, як расцвіла Ліда". Гэтак ён пажартаваў. А потым і ёй: "Ліда, я і Гаркуша просім: сыграй што-небудзь, ты даўно не грала. Пад настрой. "Месячную санату". — "Пад настрой? — Яна заплюшчыла вочы, трохі падумала і сказала: — Бадай, твая праўда".

Чуў я раней тую музыку ці не — мабыць, чуў, але ж хто іх надта слухае, усе гэтыя іх сімфоніі. Сядуць кагалам сто гультаёў і пілуюць на скрыпках, а бывае, што і адзін сотні варты, бо гэты ўжо за раялем, ці як яно ў іх там завецца — піяніна, фартэпіяна, сядзіць і што ёсць моцы малоціць па клавішах. Не разумею я такой музыкі. Хаця як сказаць: нехта ў Маскве ці ў Мінску дуба ўрэжа, з высокага начальства, і як быццам тая ж сімфонія, а хапае за сэрца, таму што пад настрой: хоць ён ніякі табе і не родзіч, а ўсё роўна шкада... І ты можаш сабе ўявіць, як цяпер адно аднаму адпавядала, мой настрой і яе музыка, гэтая іхняя "Месячная саната"! Жывыя Лідчыны пальчыкі плавалі па клавішах, і кожны яе лёгкі дотык да іх я адчуваў на сваім сэрцы. Ужо толькі таму, што я быў з ёю ў адным пакоі, яно было мяккае, як воск, а яшчэ і гэтыя глухаватыя, таямнічыя гукі, і гэты адзін, вышэйшы пранізлівы гук, калі яна мацней і выразней націскала на нейкі асабліва чуйны клавіш, — не, гэтага немагчыма было стрываць, я заплюшчыў вочы, бо які ж я быў бы мужчына, каб не стрымаў слёз...

І праўда ж — уявілася ціхая месячная ноч, нейкая шырокая вада, срэбная месячная дарожка, і люстраныя бліскаўкі мякка пераліваюцца на ёй, а тады адна нейкая ўспыхне — гэтак жа срэбна, але намнога ярчэй, бо зноў гэты мацнейшы і выразнейшы гук, а ўслед і другі. А можа, гэта і не вада, а залітая чароўным і ціхім месячным святлом лагчына — мабыць, паўз Ліпу, і вунь тыя дзве бярозы над ёй — здалёку як дзве чалавечыя постаці... Але што гэта?.. Тыя срэбныя бліскаўкі ўспыхваюць ярчэй і ярчэй, яны ўсё большыя, але іх усё менш і менш, захвалявалася пад ветрам шырокая вада, а ён усё мацнейшы, гэты неспакойны вецер, якую ж вялікую трывогу, якую непагоду нясе ён здалёк — як быццам і тая, але ўжо і не тая, не ціхая, а ветраная месячная ноч, і вунь тыя дзве бярозы над Ліпаю — вецер хапае бярэмак абвіслага ніцага голля і як быццам хоча шпурнуць яго як мага далей ад бярозы — трам-па́м-па-па́м-па!, але яно, важкае бярозавае голле, абвальваецца назад — трам-па́м-па-па́м-па!, а вецер зноў хапае яго і шпурляе — ажно падкідвае ўгору, а яно зноў падае назад і ўніз!.. Такая гэта была, пісацель, музыка"..

Яна скончыла граць, і мы доўга сядзелі моўчкі. Зірнуў на Мажэйку — ён прыкрываў твар рукою, перавёў позірк на Лідку — яна павярнулася да мяне, а ў яе вачах стаялі слёзы. Крыўда, шкадаванне, дакор зірнулі на мяне з яе цудоўных сініх вачэй, і тут жа — гэтая нечаканая крывенькая ўсмешка, не разабраць, прыязная ці зласлівая. Не, здаецца, прыязная, бо яна ўстала з-за раяля, ці з-за фартэпіяна, не ведаю, як правільна, і ветліва кажа: "Чым яшчэ заняць дарагога госця?" Давайце, Іван Адамавіч, я пакажу вам наш сямейны альбом. Сядайце на канапу, а я зараз".

І вось мы сядзім з ёю на канапе, альбом яна паклала сабе на калені, але як толькі разгарнула яго, адна каляная вокладка легла і на маё калена. А яна ўжо гаворыць: "Гэта, Іван Адамавіч, мой бацька. Бачыце, які ён у мяне герой. Насіў сталінскі фрэнч, а як жа — намеснік міністра, маці яго звала "мой жалезны нарком", але да наркома, да міністра, ён не падняўся, хоць і хацеў, вельмі хацеў, нездарма ж і любімую дачку паслаў у лясны інстытут, бо тады мода была на лес — сталінскі план пераўтварэння прыроды, лясныя палосы!.. Быў у маці пад абцасам, але якія ні закочвала яна істэрыкі, у кансерваторыю дачку не аддаў, там адны бязродныя касмапаліты, гнілое нізкапаклонства перад Захадам, і ён не дапусціць, каб ягоная дачка трапіла ў такое балота. У лес. толькі ў лес!.. Калі яна так любіць музыку, дык прырода і музыка амаль што адно і тое ж, лес ёй заменіць музыку. І маці мусіла здацца. А вось і яна сама, мая маці, знаёмцеся, Іван Адамавіч."

Нешта ў Лідцы мне ўжо не падабалася. "Знаёмцеся, Іван Адамавіч!" З кім яна мяне знаёміла — са сваёй інтэлігентнай маці? Дык я ж бачыў яе жывую!.. Краем вока заўважаю: на вуснах у Лідкі тая ж крывенькая ўсмешка. Штосьці тут не так, думаю. А яна кажа: "Мама мая памерла... Два гады таму... А была жывая, яшчэ тады, як вучылася я ў лясным, вельмі за мяне перажывала. І калі ў лясгас паехала. Супакоілася толькі, як ужо выйшла я за Пашу. Паўлам Іванавічам яна не магла нацешыцца: і прыгожы, і разумны, і культурны". Заўважаю, як уздыхнуў Мажэйка, штосьці не падабаецца і яму, але жонка на яго не зважае, працягвае: "Маці не раз казала: ніколі б не падумала, што сярод ляснікоў трапляюцца такія інтэлігентныя, выхаваныя людзі — гэта яна пра Паўла Іванавіча..." — "Лідачка, — не ўтрываў Мажэйка, — я паважаю тваю маці, і, магчыма, яна штосьці падобнае пра мяне гаварыла, але прашу цябе, не трэба пра гэта". — "Трэба, Павел Іванавіч, — не пагадзілася Лідка. — Івану Адамавічу цікава будзе паслухаць... Я трохі забегла наперад... Галоўнае — што казала маці, калі яшчэ я была незамужняя... "Дочачка, — маліла яна мяне, — хай ужо бацька пагнаў цябе,

як нярoдную, у лес, дык хоць будзь сама разумная — не выходзь за лесніка. Я ж у горадзе яго ўбачу — цераз вуліцу хочацца перавесці. Бо тройчы ўжо людзі рушаць, а ён ніяк не скеміць, што ў іх тут за дэманстрацыі, ды яшчэ не ўздоўж, а ўпоперак вуліцы. А потым на чырвонае святло як упудзіцца!" — "Ліда, што з табою? — Яна ўжо вельмі трывожыла Мажэйку. — Не магла твая маці гаварыць так пра леснікоў, яна была культурная і тактоўная жанчына. І нават думаць пра леснікоў сабе так не дазволіла б, бо не лічыла іх ідыётамі". — "Паша, — яна з'едліва ўсміхнулася Мажэйку, — я магу пагадзіцца, што не ўсе леснікі ідыёты, ёсць выключэнні, ты, напрыклад, але што сярод іх ёсць рэдкія крэціны..." — "Ліда, прашу цябе, замаўчы, у нас госць, што ён можа падумаць пра нас, пра цябе?" Але яна не слухала Мажэйку: "А яшчэ мая маці казала, што ўсе леснікі — горкія п'яніцы, але хай бы хоць пілі тое, што ўсе прыстойныя людзі, а то ж усялякую брыду, а самы далікатэс у іх — чарніла". — "Даруй, Ліда. — цяпер ужо з'едлівы быў Мажэйка, — зноў-такі я не веру, што твая маці магла так сказаць, але каб б яна так сказала, дак пацэліла б пальцам у неба. Пладовыя віны, ці, як ты кажаш, "чарніла", бываюць зусім неблагія — напрыклад, малдаўскія, балгарскія, і п'юць іх вельмі інтэлігентныя людзі". — "Інтэлігентныя людзі п'юць марачнае віно, разумееш — віно, а леснікі п'юць брыду, чарніла, тое самае, якім у тваім калідоры намаляваны лозунг: "Адна трэць лясоў свету належыць СССР", хай Іван Адамавіч пацвердзіць, праўду я кажу ці не".

Ну, гэта яна ўжо ступіла на вастрыё ляза. Што, я павінен расказваць Мажэйку, як некалі замест віна глынуў з пляшкі сапраўднага чарніла і як сваімі сінімі зубамі насмерць перапалохаў яе самую і яе маці?.. У тон ёй гэтак жа здзекліва хацеў запярэчыць: "Няпраўду кажаш, бо тады, у лясгасе, я каўтануў сіняга чарніла, а ў твайго Мажэйкі лозунг напісаны чырвоным!" але змоўчаў, адно мацней сціснуў зубы. "Ліда, — Мажэйка ўсё пільней узіраўся ў жончын твар, — па-першае, ужо не адна трэць лясоў свету належыць СССР — пажары, перарубы, а па-другое, тыператамілася, пойдзем, я пакладу цябе адпачыць".

Яе не трэба было весці, яна сама рашуча ўстала і, нават не зірнуўшы на мяне, выйшла з пакоя.

І мне ў гэтых гасцях нельга было далей заставацца. Неспакойна тут у іх, ветрана. Адштурхоўваюся рукамі ад канапы, але Мажэйкава далонь мякка легла на маё плячо, і ён умольна зірнуў мне ў вочы: "Не гарачыся, Гаркуша. Будзе нядобра, калі мы з табою так не па-людску разыдземся. Столькі гадоў не бачыліся. Дый ноч на дварэ. Пераначуеш, а заўтра мы з табою яшчэ пагаворым. Давай пасядзім, хай яна там супакоіцца, я сам розуму не дабяру, што з ёю. Ніколі не было ў нас нічога падобнага".

Затое я вельмі добра ўсё зразумеў. Памаўзлівая дамачка! Скінула пад сталом туфлік, на вуснах усмешачка, а сама пальчыкамі як быццам незнарок маю нагу і раз кранула, і другі. Якою была, такою і засталася. Але хто яна такая, каб абзываць мяне ідыётам? У мяне ў сто разоў прыгажэйшая жонка, але ні разу нават дурнем не аблаяла! Старым пнём цяпер іншы раз абзаве, а каб ідыётам!.. Помсціць — за тое, што не ўдалося некалі ў Заліп'і адбіць у Зоі. Леснікі, аказваецца, не такія ўжо і цюхцяі, як казала яе мамачка, бо дачка ў сваіх мінскіх оргіях вунь якую прайшла навуку, а на лесніка Гаркушу нават яе не хапіла. А што было б, каб хапіла?.. У мяне і жонка царыца, і дачка вырасла — каралева, а тут ён, гэты яе асёл Мажэйка, паказвае ў альбоме сваю дачку — кракадзіл, а не дзеўка, а галоўнае, на каго яна падобная — на яе, на яго? Ні тое, ні другое, і было б дзіўна, каб у такой распусніцы дачка была падобная на законнага бацьку. Усё, кладу канец гэтай і праўда ж ідыёцкай гісторыі, бо надта ж доўга яна ўжо цягнецца, аж дваццаць год!.. Пераначую, а раніцай — бывай, шаршэ ля фам!..

Мажэйка перавёў мяне ў суседні, даччын, пакой, у ім таксама ўсё было гарадское — і засланы прыгожым пакрывалам ложак, і мяккае крэсла, і шафа. Дачка недзе канчала інстытут, у яе было гэткае ўтульнае жытло, а ёй яшчэ нечага не хапала — знюхалася з іншаземцамі, шпіёнамі... Мажэйка дастаў з шафы дзве чыстыя прасціны, паслаў пасцель, сказаў "дабранач" і выйшаў. А я лёг і адразу ж заснуў, так са мною бывае заўсёды, калі я перад сном нешта цвёрда вырашыў. А я ўжо сабе сказаў: заўтра да свету змыюся, і больш нагі маёй тут не будзе.

Але спаў я, мабыць, нядоўга: за дзвярамі, у пярэдняй, зазваніў тэлефон. Нехта падняў трубку, слухае, ну так, Мажэйка, бо ягоны голас: "Прысылайце". Потым да дома пад'ехала машына, Мажэйка выйшаў, ляпнулі дзверцы машыны, яна рушыла — і стала ціха. Заплюшчыў вочы, але другі раз хутка заснуць не змог. Не ведаю, ці заснуў я ўвогуле, бо хаця і не чуў, калі яна ўвайшла, вочы мае раптам расплюшчыліся, і — ці не прывід гэта? — у белай доўгай начной кашулі яна сядзела блізенька ад мяне, утуліўшыся ў глыбокае мяккае крэсла. Такая гэта, пісацель, была месячная саната! Бо ў пакоі было відна, хаця і не ад месячнага святла — ля дома гарэў ліхтар, а можа, і месяц свяціў, не помню, я ж хваляваўся — так выразна пад тонкай кашуляю ўгадваліся абрысы яе цела! Асабліва гэтая ножка, яна ляжала ў яе на другой назе, — найбліжэй да мяне былі тыя пальчыкі, што нядаўна там, пад сталом, дакраналіся да маёй шчыкалаткі. І век не забуду таго, што сказала мне Лідка.

"Даруй, Гаркуша, гэта быў дурны мой выбрык. Хочаш, ганьбуй мяне, хочаш, за даўнія мае грахі выпалі мне гарачым жалезам кляймо на плячы — сама падстаўлю, але памятай: нікога я ў сваім жыцці не кахала — толькі цябе аднаго. І ўсё жыццё малюся, каб хоць ты недзе быў шчаслівы. Бо маё жыццё... сам бачыш. Ён не мой, і я не ягоная. Стары ўжо, сівы, а ўсё ў твой лес едзе, там, на нейкай стражы, яшчэ да вайны было ў яго нешта — мабыць, першае каханне, дык я іншы раз і падумаю — колькі ж можна яго не забываць! А тады і сябе злаўлю на тым жа: а я ж цябе помню! Хоць і вялікі ты шэльма, так абвёў мяне колісь вакол пальца, а ўсё роўна — помню!.. Гадавалі дачку... прыёмную, а ён усё ўбіваўся, хацеў, каб у мяне было сваё дзіця, бо гэта ж з вайны ён бяздзетны, а не я, а мне таксама, каб ты толькі ведаў, Гаркуша, як і мне хацелася нарадзіць хлопчыка, але ж... не абы-якога, бо як толькі падумаю пра яго — цябе згадаю... Не буду нічога далей казаць... не, усё-ткі скажу: калі я і была ў жыцці калі-небудзь шчаслівая, дык адзін толькі раз — тады, у Заліп'і, побач з табою, на тваім шынялі... А цяпер бэсці мяне, як хочаш... Пайду... Толькі... калі дазволіш... правяду далоняю па тваёй шчацэ..."

Пошта

# ДАСТУКАЦЦА ДА СЭРЦАЎ І РОЗУМАЎ...

Як вядома, з пачаткам навучальнага года пачаўся татальны наступ улад на кволыя парасткі беларушчыны ў сістэме адукацыі. Прышлае чынавенства, якое займае ў нас усё болей і болей месцаў у органах кіравання, спадзяецца перайначыць на свой капыл самую душу беларуса, скіраваўшы сваё ўздзеянне на аснову нацыі — падрастаючае пакаленне. Іх мэта ясная — захаваць для сябе і спадкаемцаў ціхае месцейка, тэрыторыю, на якой будуць жыраваць яны, а свядомыя беларусы будуць падвяргацца і ўжо падвяргаюцца непрыкрытаму генацыду. На жаль, ёсць у іх памагатыя таксама і сярод быццам бы беларусаў па пашпарце, роля якіх у падрыве духоўнай моцы сваёй уласнай нацыі выглядае пры гэтым найбольш агіднай. Пры гэтым, канечне, прамаўляюцца абсалютна слушныя словы аб неабходнасці "крапіць" дружбу народаў і гэтак далей. Аднак, хай бы ў імя гэтай жа самай дружбы народаў адчыніўся хаця б дзесятак беларускіх школ на тэрыторыі Расійскай Федэрацыі. Ці хаця б выдавалася якое-небудзь перыядычнае выданне на беларускай мове на азначанай тэрыторыі. Мяркую, што ставіць пытанне менавіта такім чынам і ёсць увасабленне сапраўднай, а не ўяўнай дружбы народаў у дзеянні, бо колькасць рускіх па нацыянальнасці жыхароў Беларусі прыблізна роўная колькасці беларусаў, якія жывуць на тэрыторыі Расіі, да таго ж значная колькасць беларусаў знаходзіцца ў Расійскай Федэрацыі на часовай працы (успомнім класічнае: куды не трапяць беларусы!).

Такім чынам, дакляраванае збліжэнне нашых народаў ёсць дарога з рухам толькі ў адным напрамку. Дзяржава-самазабойца ў асобе сваіх верхніх кіраўнікоў занялася размываннем уласнага падмурку.

У такіх умовах, як мне падаецца, узрастае значэнне работы з дзецьмі, з маладым пакаленнем, ці калі браць шырэй — з неафітамі беларушчыны. Напрыклад, як бы было добра, каб у газетах, у тым ліку і ў "ЛіМе", з'явілася старонка, спецыяльна адрасаваная моладзі, а магчыма — і старонка для дзяцей. Добра, каб на гэтых старонках у даступнай форме падаваліся праўдзівыя звесткі аб гісторыі Беларусі, з балючым, аднак такім неабходным аналізам, як і чаму адбылася першая страта дзяржаўнасці нашай краіны, з неабходным зараз аналізам, як яе не страціць у другі і магчыма апошні для цяперашніх пакаленняў раз, каб змяшчаліся творы класікаў беларускай літаратуры, узорныя па выкарыстанні магчымасцей беларускай мовы і па сваёй грамадзянскай пазіцыі, магчыма — кліпы, карыкатуры, іншы графічны матэрыял. Хай бы даваўся невялічкі тлумачальны слоўнічак для слоў, цяжкіх для неафіта. Хай бы былі, з нумара ў нумар, урокі беларускай мовы. Памятаю, як у свой час польскі часопіс "Пшыязьнь" друкаваў, у рускамоўным дадатку, урокі польскай мовы — яны былі пададзены так, што іх немагчыма было не прачытаць, а значыць, у той ці іншай ступені, і зацікавіцца польскай мовай. У нас жа сітуацыя такая, што трэба яшчэ добра падумаць, як зацікавіць беларуса, каб ён заняўся вывучэннем уласнай мовы. І трэба прызнаць, што ў нас гэтая работа вядзецца нездавальняюча.

Ці хаця б узяцца за аналіз мовы беларускага радыё, беларускага тэлебачання, беларускамоўнай прэсы. Часам чытаеш меркаванне таго ці іншага мэтра-беларусаведа: і тое яму не так, і тое не гэтак. Аднак не стае адной маленькай дробязі — шаноўны мэтр не лічыць сваім абавязкам дадаць, а як жа правільна. Магчыма, выявіць сваю памылку шляхам пошукаў па слоўніках і падручніках і з'яўляецца прафесійным абавязкам тэлевізійных каментатараў ці супрацоўнікаў рэдакцый. Аднак матэрыял чытаюць і іншыя людзі, і ім дзеля эканоміі ўласнага часу лягчэй было б прама на месцы даведацца, а як правільна, а магчыма, яшчэ і чаму правільна так, а не іначай. Мы ж, сярэднестатыстычныя чытачы, што тычыцца беларускай мовы, — "акадэміяў не канчалі", набывалі такія-сякія веды па беларускай мове шляхам самаадукацыі, амаль што падпольна. І калі, скажам, тэлевізійны каментатар памыляецца ў вымаўленні ці ва ўжыванні тых ці іншых беларускіх слоў, то, як мне здаецца, яго трэба кваліфікавана і добразычліва паправіць, а не зларадніцаць з гэтай нагоды. Я лічу, што ўжо адна грамадзянская пазіцыя людзей, якія ў цяперашніх варунках маюць смеласць працаваць у эфіры выключна на беларускай мове, павінна выклікаць павагу.

Магчыма, такая, як я б сказаў, чарнавая работа па беларусізацыі і работа з моладдзю не з'яўляецца прыярытэтным напрамкам тых ці іншых газет, гэтаксама "ЛіМа". Аднак жа на Беларусі, бадай, не засталося ніводнай маладзёжнай газеты, якая была б выразнікам інтарэсаў адукаванай, нацыянальна свядомай моладзі: успыхнуўшая было "Чырвонка" стала займаць нейкую цьмяную, вельмі ўжо дыпламатычную пазіцыю, а рускамоўнае "Знамя юности" даўно ўжо стала рупарам сіл, якім ненавісна ўсё беларускае.

Цяпер вельмі важна давесці маладым, што гэтая краіна належыць ім, што нас мала, і таму ад кожнага канкрэтнага чалавека залежыць шмат, прынамсі, у трыццаць разоў болей, чым было некалі пры СССР; што не трэба паддавацца на кручок уладам, заліўшым краіну танным алкаголем, што алкаголь будзе ўсюды і заўсёды, а гэтую краіну можна страціць вельмі скора і надоўга, а без сваёй краіны ты не будзеш патрэбны ў гэтым свеце нікому, ці будзеш патрэбны толькі хіба як гарматнае ("пушечное") мяса, што ў гэтай краіны ёсць свой Сцяг і свой Герб, якія дадзены Богам адзін раз і назаўсёды, і што гэта не залежыць ад таго, падабаюцца яны каму ці не падабаюцца; што ў гэтым свеце ёсць шмат каштоўнага, але што самая вялікая каштоўнасць — Свабода; што ў гэтым свеце чалавеку і чалавецтву адкрылася шмат ісцін, аднак важнейшая сярод іх — што свядомасць вышэй за матэрыю, што свядомасць "первична", а матэрыя "вторична", важнейшая таму, што за затрымку ў авалодванні менавіта гэтай ісцінай чалавецтва заплаціла болей за ўсё — дзвюма найвялікшымі катастрофамі ў сваёй гісторыі, якія адбыліся за семнаццаць гадоў ад пачатку XX стагоддзя і за чатырнаццаць гадоў да яго канца — катастрофамі, якія, на жаль, у максімальнай ступені зачапілі нашу краіну...

Усё гэта старыя і даўно вядомыя ісціны, але іх трэба паўтараць і паўтараць зноў і зноў, каб дастукацца да сэрцаў і розумаў усё новых і новых людзей.

**А.УРБАНОВІЧ**

*г.Гомель*



**Саюз беларускіх пісьменнікаў выказвае глыбокае спачуванне паэту Алесю ПІСАРЫКУ з прычыны напаткаўшага яго гора — смерці бацькі.**

## Віктар СТРЫЖАК



*Яму ўжо не скажаш: "Здароў, Віця!", не паклічаш выпіць куфаль піва на палюблёную яшчэ з філфакаўскіх гадоў Нямігу, не высмаліш "астрыну" на выдавецкіх калідорах... Мінула больш за паўгода, як Віктар Стрыжак спачыў на могілках над Дняпром у роднай Заспе. Але засталіся вершы. І тыя, што склалі кнігу "Рэха журбы", і ненадрукаваныя. Апошніх няшмат — усяго на адну падборку. З ёю і прапаную пазнаёміцца чытачам "ЛіМа".*

**Уладзімір МАРУК**

### ПУСТЫНЯ

*Р. БАРАДУЛІНУ ў яго 60*

Пустыня вакол
Забыццём пшамацела.
У праўды даўно
Абгарэла крыло.
І высахлі вочы,
І ссохлася цела.
Вады не было...

Ні шляху якога,
Ні проста дарогі.
Забыты малітвы
І твары святых.
І голас згубілі
Надоўга прарокі.
Ні кроплі вады...

### СНЫ

Сняцца сны штоноч
Паніхідныя:
То у сэрцы нож,
То агідныя
Слімакі вакол
Бякла-сінія,
А ў магіле кол —
Кол асінавы...

Мой уласны цень
Навылёт маўчыць.
На душы — трымцень
Не спыніць нічым.

Волю б даць рукам,
У якіх вясло...
Ды адчай-груган
Распасцёр крыло...
Ці то я, ці не,
Ці то хрэн з бугра?

Па якой цане
Паміраць пара?..

І магіла там
Не мая, відаць:
На калені стаў,
Вось на ногі б стаць...
Вецер-попел дзьме,
Небакрай гарыць.
А аднекуль смех,
Вунь з-за той гары...

Раны так смыляць:
Толькі вохкаю.
Ці мо гэта плач
Над Галгофаю?..

### ДЭРБЕНТ. СПЁКА

Сварлівы пляж.
Ці то гарэм
Дэрбенцкі лёг упокат?
Вунь так і просіцца
На грэх
Венера
З тоўстай попай.

Каля яе ж —
Чарней смалы —
Лезгін-целаахоўнік:
І хлопцы скачуць
У Хвалынь
Ды студзяць сверб
Грахоўны...
Пад спёкай
Рэжацца якут
У "дурня"
Сам з сабою.
Круглеюць вочы
Ад пакут,
Ды страшна
Ля прыбою...

А я, здаецца,
Як лезгін —
Ні кроплі не пацею.
Адно
Мне ціснe на мазгі:
Якое выбраць цела?

Даруй мне, Божа,
І душу
Не пакарай,
Бо спёка.
Дазволь.
Я зараз укушу
Вунь тую
З белым бокам...

### СМАГА

Кідаўся вецер на дамы,
Аж скавыталі дзверы.
Я піў віно
З глуханямым
У нейкім скверы.

І вечар быў.
І быў мароз.
А нам было салодка,
А мы ўзнімалі
Чаркі ў рост
І вылівалі
Ў глоткі.

Мы гаварылі ні пра што,
Але й пра ўсё адразу.
Я разумеў
Яго на "сто"
Нямыя фразы.

Быў у яго
Сіроцкі дом...
Пасля жыццё —
Без свахі...
Жыве ў прымыльніку з катом,
Ды ледзь жывы
Ад смагі...

Была жанчына —
Хвост трубой.
І быў запой жанчынай.
Ды раптам скончыўся
Запой.
У чым прычына?

Ён ёсць мужчына,
Як-ніяк.
І сэрца залатое.
Ну, і ў штанах яго —
Кіях.
Ды ўсё не тое...

Вось меў бы мову,
Меў бы слых,
Перакуліў бы свет
Па-свойму.
З жанчынай тою
Ў два вяслы б
З любою зладзіў
Поймай...

Кідаўся вецер на дамы.
Аж скавыталі дзверы.
Я піў віно
З глуханямым
У нейкім скверы.

### АЧАКАЎ. ТУМАН.

Галава мая — туман.
Ля Ачакава
Затуманены ліман
Пад прычалам
Чаўкае.

І не ступіш лішні крок —
Бачнасць крохкая:
Заблудзіўся кацярок —
Недзе побач рохкае.

Малако над гарадком —
Санаторыем.
Хвалі белыя
Вякоў
П'е пясок
Гісторыі...

Там далей —
Эўксінскі Понт,
Сонца над галерамі...
Тут туман,
Ці пар,
Ці пот,
Лярвы з кабялерамі...

А яшчэ
Габрэйскі грэх
З паўлітровай Грэцыяй
Над душой стаіць,
Як грэх...
Дык прыехаў грэцца я.
Што тут мне,
І што ў мяне
За палітыка:
Завітаў патуманець
За паўлітрыкам?..

Павадзіў бы й дома
Рэй.
Не, давай экзотыку!

Эх, туман.
Ідзі, габрэй,
Налівай па "сотніку"!

### КАСТАНЬЕТЫ

*ВАЛЯНЦІНЕ*

Як Петраркавы санеты,
Страсцю вечароваю
Тваіх крокаў кастаньеты
Слых мой зачароўваюць.

Гэты пошчак адмысловы
Цішыні капітанавай
Слых чакае, слых мой ловіць:
Музыка жаданая...

Чую воддаль твае крокі.
Змоўкні, сэрца дзікае!
Ці то я такі таропкі,
Ці вясна так ціўкае?..

Ціхі вечар, вецер вольны, —
Як твая іронія...
А абцасікі сваволяць —
Блізка постаць стройная.

Побач, побач кастаньеты...
Страсная мелодыя,
Як Петраркавы санеты,
Мною авалодвае.






# ЭХ, АМЕРЫКА-ЕЎРОПА!



На ўсходзе Беларусі, крыху ўбок ад галоўнай шашы рэспублікі, у Круглянскім раёне ёсць вёска з выключна кантынентальнай назвай: Амерыка. Дзіўна, што яе назва захавалася праз часы агітатарскага сціранння з памяці гістарычных назваў.

А засталося тут толькі тры старыя дамкі. Апошнія жыхары вёскі — самыя што ні ёсць сапраўдныя амерыканцы, як і звычайны сталічны бадзяга завецца не інакш як — мінчук. Было б глупствам лічыць іх савецкімі амерыканцамі, а вось, што спрадвеку мясцовыя жыхары, якія б погляды над імі не валадарылі, — беларусы, гэта безумоўна. На жаль, не чуваць тут звычнага дзіцячага гоману: незайздросны лёс малых вёсак. Фантастычна цяжка паверыць у хуткі росквіт гэтай прыгожай мясціны, дзе — крышталёвае паветра, дзе славутая статуя Свабоды мае тутэйшы сімвал-аналаг у выглядзе моцнага дуба сярод урадлівага поля. Усё тут не чужое, знаёмае з часу школьных веласіпедных вандровак з эцюднікам на багажніку. Непатрэбны тут аніякія візы, чужая валюта, слоўнікі. Няма тут эмоцый стандартнага чужынца-турыста і эміграцкага настальгічнага сіндрому.

Сапраўды, Зямля круглая (назва раёна гэта падкрэслівае). Відаць, не толькі мне пашанцавала нарадзіцца паміж Амерыкай і Заходняй Еўропай. Праўда хацелася, каб Еўропай зваўся не цяжкадаступны лясны хутар. Добра напачатку ў нашым сучасным Land Art навучыцца глядзець на сваю Радзіму ўласнымі вачыма, ды й не забыцца, між іншым, назваць новы перспектыўны населены пункт Беларуссю.

...У гэты верасьнёўскі ранак над Амерыкай і вёскай Славянкай, што ў пары кіламетраў адсюль, вісеў звыклы светла-шэры беларускі туман.

**Міхал БАРАЗНА**

*На здымках: амерыканскія краявіды і апошні амерыканец.*



**ЛіМ** ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ЗАСНАВАЛЬНІКІ
Саюз беларускіх пісьменнікаў; Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь; калектыў рэдакцыі газеты "Літаратура і мастацтва"

ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА

*Газету рэдагавалі*

| | |
|---|---|
| *Х.Дунец* | (1932-35) |
| *І.Гурскі* | (1935-41) |
| *А.Куляшоў* | (1945-46) |
| *М.Горцаў* | (1947-49) |
| *П.Кавалёў* | (1949-50) |
| *В.Вітка* | (1951-57) |
| *М.Ткачоў* | (1957-59) |
| *Я.Шарахоўскі* | (1959-61) |
| *Н.Пашкевіч* | (1961-69) |
| *Л.Прокша* | (1969-72) |
| *Х.Жычка* | (1972-76) |
| *А.Асіпенка* | (1976-80) |
| *А.Жук* | (1980-86) |
| *А.Вярцінскі* | (1986-90) |

**Галоўны рэдактар Мікола ГІЛЬ**

РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:
Святлана БЕРАСЦЕНЬ,
Міхась ЗАМСКІ,
Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ,
Жана ЛАШКЕВІЧ,
Алесь МАРЦІНОВІЧ,
Барыс ПЯТРОВІЧ — *першы намеснік галоўнага рэдактара,*
Юрась СВІРКА,
Віктар ШНІП — *намеснік галоўнага рэдактара*

АДРАС РЭДАКЦЫІ:
220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19

ТЭЛЕФОНЫ:
прыёмная рэдакцыі — 332-461
намеснікі галоўнага рэдактара — 332-525, 331-985
аддзелы:
публіцыстыкі — 332-525
пісьмаў і грамадскай думкі — 331-985
літаратурнага жыцця — 332-462
крытыкі і бібліяграфіі — 332-204
паэзіі і прозы — 332-204
музыкі — 332-153
тэатра, кіно і тэлебачання — 332-153
выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў — 332-462
навін — 332-462
мастацкага афармлення — 332-204
фотакарэспандэнт — 332-462
бухгалтэрыя — 268-640

*Пры перадруку просьба спасылацца на "ЛіМ".*
*Рукапісаў рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.*
*Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з думкамі і меркаваннямі аўтараў публікацый.*

**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра "ЛіМ"**
Апаратныя сродкі і тэхнічная падтрымка — фірма "Дайнова"

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 77)

Індэкс 63856. Наклад 6459.
Нумар падпісаны 26.10.1995 г.
Заказ 5465

П123456789101112
М123456789101112